+тэлепраграма
№ 6 (268) 8 лютага 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## АЛІМПІЯДА
Расклад беларускіх дзён

## РАЙ СТАНЕ Ў АМЭРЫЦЫ
Солт-Лэйк-Сыты, сталіца мармонаў

## ЛЯВОН ВОЛЬСКІ
"Дык вось каму ты дасталася!"

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Зінаіда Ганчар,

*жонка зьніклага беларускага палітыка, зьвяртаецца па дапамогу да Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы.*



Паважаная спадарыня Сурвілла!

16 верасьня 1999 году ў Менску зьнік мой муж Віктар Ганчар. Безумоўна, Вам ня варта распавядаць пра тое, якую ролю ён адыгрываў у беларускай палітыцы і чаму А.Лукашэнка лічыў Віктара самым небясьпечным сваім палітычным праціўнікам. Мой муж перш за ўсё шанаваў інтарэсы сваёй краіны, свайго народу. Ён заўсёды быў непадкупным і прынцыповым, ніколі не ішоў на кампрамісы са сваім сумленьнем, ніколі не шукаў дробязных выгодаў.

На жаль, мне амаль няма да каго зьвярнуцца ў роднай краіне: намаганьні беларускай грамадзкасьці не даюць плёну. А на шчырасьць і дапамогу цяперашняй улады няма сэнсу разьлічваць, паколькі з абнародаваных дакумэнтаў вынікае, што да зьнікненьня майго мужа маюць дачыненьне А.Лукашэнка, цяперашні генэральны пракурор В.Шэйман і былы міністар унутраных справаў Ю.Сівакоў. Вядома, я не судзьдзя і не бяруся судзіць, але паводзіны ўлады й афіцыйнага сьледзтва толькі пацьвярджаюць, на чыім сумленьні лёс майго мужа.

Спадарыня Сурвілла! Вы маеце вялікі аўтарытэт у беларусаў ва ўсім сьвеце, і я вельмі прашу Вас давесьці да ведама нашых суайчыньнікаў сапраўдную інфармацыю пра тое, што адбываецца на іх гістарычнай радзіме. Я вельмі прашу Вас асабіста і беларускія дыяспары ўзьняць праблему палітычнага тэрору ў Беларусі перад урадамі тых краінаў, дзе яны жывуць. Сёньня толькі міжнародная грамадзкасьць можа прымусіць А.Лукашэнку сказаць праўду пра тое, што здарылася з маім мужам і іншымі зьніклымі людзьмі.

Я хачу з Вашай дапамогай зьвярнуцца да ўсіх беларусаў сьвету: дапамажыце! Парайце, што можна зрабіць у гэтай сытуацыі.

Нельга маўчаць, калі на пачатку XXI стагодзьдзя наша краіна зноўку абрынецца ў бездань тэрору і крыві, як у 1937 годзе...

З павагай і надзеяй,
Зінаіда Ганчар
1 лютага 2002 г.

# Шаноўная і дарагая Спадарыня,



зь вялікім сумам чытала Ваш ліст ад 1 лютага гэтага году, як чытаю ад верасьня 1999-га ўсе весткі аб лёсе Вашага паважанага мужа Віктара Ганчара. Разумею Ваш боль, бо ў дзяцінстве і мне давялося перажыць такую трагедыю, калі энкавэдысты "забралі" бацьку і мама цэлы год плакала і старалася давесьці ўсяму сьвету, што ён нічым не правініўся.

Гісторыя на нашай беднай Бацькаўшчыне, на жаль, паўтараецца, а людзі або ня хочуць, або ня здольныя гэта сабе ўсьвядоміць. Клапоцяцца толькі пра кавалак хлеба і не здаюць сабе справы, што заўтра, магчыма, настане чарга і на іх і ня будзе ўжо каму іх бараніць.

Дазвольце перадусім Вам сказаць, дарагая Спадарыня Ганчар, што Вашыя высілкі бачым мы ўсе і бачыць іх увесь вольны сьвет. Ваш першы адкрыты ліст Барысу Ельцыну, яшчэ ў верасьні 1999 г., я сама пераклала на ангельскую мову і выслала разам з маёй асабістай просьбай тагачаснаму міністру замежных справаў Канады Лойду Аксуорты. Мне дакладна вядома, што прадстаўнікі канадзкага ўраду ўздымалі гэтае пытаньне на міжнародных форумах. Сябры Рады БНР у ЗША і ў краінах Эўропы таксама пісалі сваім урадам. На жаль, дыктатуру, якая дзяржыцца пры ўладзе сілай, пераканаць можна толькі сілай.

Тым болей калі ёй абыякавы лёс народу.

Уважаю, аднак, слушнымі Вашыя лісты прэзыдэнту Расейскай Фэдэрацыі Ў.Пуціну, бо ў вялікай меры дзякуючы ягонай падтрымцы, "дзеля стратэгічных інтарэсаў Расеі", Лукашэнка яшчэ знаходзіцца пры ўладзе. На жаль, "стратэгічныя інтарэсы Расеі" для сп.Пуціна важнейшыя за ўсе парушэньні людзкіх правоў у Беларусі.

Застаецца наш народ. Ігнараваньне злачынстваў і зьдзеку са сваіх людзей, са сваіх суседзяў й сваякоў, са свайго краю, са сваёй культуры і мовы, ня ёсьць годным ніякага цывілізаванага народу. Частка грамадзтва, і асабліва моладзі, гэта зразумела. Калі б моладзь і жанчыны, якія Вам спачуваюць, калі б усе людзі добрае волі зьядналіся і мужна выйшлі на вуліцы гарадоў Беларусі, дамагаючыся адказу на пытаньні адносна лёсу зьніклых, — так, як людзі ў іншых краінах сьвету выходзяць у абарону сваіх правоў — перамаглі б і мы дыктатуру бяз зброі і бітваў.

Рада БНР і беларускае нацыянальнае грамадзтва будуць і надалей дамагацца дапамогі ад вольнага сьвету, каб раскрыць праўду аб лёсе Вашага мужа.

Жадаю Вам, дарагая Спадарыня, надзеі і вытрываласьці.

З глыбокай пашанай,
Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады Беларускай
Народнай Рэспублікі

# Свой Google Belarusian

**У студзені адбылася знакавая для беларускіх карыстальнікаў Сеціва падзея: пошукавік №1 у Інтэрнэце — *Google* — загаварыў па-беларуску. Дагэтуль сярод папулярных Інтэрнэт-рэсурсаў беларускай мовай карыстаўся толькі партал надвор'я wunderground.com.**

*Google* быў запушчаны тры гады таму і за гэты час ператварыўся ў самую дасканалую і поўную пошукавую сыстэму. Ён шукае сярод 1,6 млрд. сайтаў (усіх іх у Сеціве каля 5 млрд.) на сямі дзясятках моваў (найбліжэйшы паказьнік у *AltaVista* — 25 моваў). На распрацаванай кампаніяй тэхналёгіі пошуку працуюць такія сусьветна вядомыя рэсурсы, як *Yahoo*, *Cisco* і яшчэ больш як 130 парталаў і сайтаў. Гэта пятнаццаты па наведвальнасьці сайт у ЗША. Зараз *Google* зьвяртаецца да сваіх карыстальнікаў па ўсім сьвеце на 72 мовах. Нарэшце, хоць і значна пазьней за іншыя славянскія, *Google* асвоіў і беларускую мову. Гэта адбылося дзякуючы працы валанцёраў Сяргея Бычкова і Ягора Шумскага, якія не пашкадавалі свайго часу і грошай, каб пошукавік "загаварыў" па-наску (прычым піша ён клясычным правапісам).

"Сёньня мы зьяўляемся пошукавай сыстэмай №1, — кажа дырэктар *Google* Дэвід Крэйн, — але пакуль яшчэ нельга сказаць, што абсалютна ўсе людзі ў Сеціве карыстаюцца нашай сыстэмай. Гэта — наша мэта". Імклівы посьпех асьпіранцкага праекту, якім яшчэ ў пачатку 90-х быў *Google*, сьведчыць, што, маючы жаданьне, можна скарыць любыя вышыні. Цешыць і тое, што беларуская справа выходзіць на ўзровень прыватнай ініцыятывы, дзе безь якой-кольвек падтрымкі ствараецца беларускі прадукт, дзе не чакаюць грантаў ці датацыяў і дзе ад цябе багата залежыць. Гэтым разам купка энтузіястаў дала беларусам — ад магілёўскага школьніка-падшыванца да амэрыканскага пэнсіянэра — магчымасьць выбраць роднае, каб паслугавацца лепшым.

**Андрэй Чык**




**З 8 да 24 лютага ў Солт-Лэйк-Сыты (штат Юта, ЗША) пройдуць XIX зімовыя Алімпійскія гульні. Зімовая Алімпіяда — прыгожае спартовае відовішча: лыжныя баталіі (гонкі, біятлён, слалам, фрыстайл і інш.) адбываюцца на фоне засьнежаных гор і лясоў. А калі гэта яшчэ марозны сонечны дзень! Для незалежнай Беларусі гэта трэція гульні. Упершыню самастойнай камандай нашыя спартоўцы выступілі ў 1994 г. у нарвэскім Лілехамэры. Тады беларусы прывезьлі з краіны вікінгаў два срэбныя мэдалі — зарабілі іх біятляністка Сьвятлана Парамыгіна і канькабежац Ігар Жалязоўскі. Не ўзялі мы золата і чатыры гады таму на Алімпійскіх гульнях у Нагана — выступілі яшчэ горай, чым у Лілехамэры, атрымалі толькі два бронзавыя мэдалі (фрыстайліст Зьміцер Дашчынскі і біятляніст Аляксей Айдараў). Што зараз?**

**Каляндар Алімпіяды — на старонцы 7.**

## Аўтакефальную царкву нельга згадваць

**Галоўнага рэдактара "НН" выклікалі ў пракуратуру за тое, што ў калядным пасланьні протаярэя Івана (Спасюка) і ў абвестцы пра набажэнства на месцы расстрэлаў у Курапатах згадваецца Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Кажуць, нельга яе згадваць, бо не зарэгістраваная. Ці дадуць газэце за гэтыя згадкі папярэджаньне, пакуль невядома. А царква гэта такая, дзе ня бяруць платы за хрост і адпяваньне і якая Маскве не падпарадкоўваецца.**

## навіны гаспадарскія

**ПАДАТКОВЫЯ ІНСПЭКЦЫІ** ў Менску да 1 сакавіка працуюць з 9-й да 20-й, у тым ліку і па суботах. Падаткавікі павялічылі час працы, бо ў студзені дэклярацыі аб сукупных даходах падалі толькі 6 тыс. менчукоў, хоць мусілі б гэта зрабіць, паводле ацэнак, 100 тысяч.

**ВАЛЮТНЫЯ РЭЗЭРВЫ БЕЛАРУСІ** цягам году павялічацца мінімум на 27 млн. і максымум на 236 млн. даляраў. Пасьля студзеньскай "валютнай інтэрвэнцыі" на рынак, якую зладзіў Нацбанк, каб спыніць падзеньне беларускага рубля, у яго заставалася каля 190 млн. даляраў запасу. Кіраўнік Нацбанку сп.Пракаповіч паведаміў, што дзяржава ня будзе купляць золата: маўляў, ёсьць 10 тонаў, і хопіць.

**"БЭБІ-БУМ"** сярэдзіны 1980-х спрычыніўся да таго, што цяпер 56 тыс. выпускнікоў 9 клясаў і 63 тыс. выпускнікоў 11 клясаў ня маюць месца ў ВНУ, тэхнікумах ды ПТВ. Аднак павялічваць прыём абітурыентаў няма як, бо з 2005 г. колькасьць выпускнікоў у школах паменее ў некалькі разоў.

**АЦЯПЛЕНЬНЕ І ГАРАЧАЯ ВАДА** падаражэлі ў 1,2 разу, тэхнічнае абслугоўваньне кватэраў — удвая. Цяпер грамадзяне краіны будуць сплачваць 35% ад рэальнага кошту камунальных паслугаў. За аднапакаёўку давядзецца плаціць 10,7, за двухпакаёўку — 15,7, трохпакаёўку — 21,6 даляра ў месяц. У Міністэрстве жыльлёва-камунальнай гаспадаркі кажуць, што болей камунальныя тарыфы падвышацца сёлета ня будуць, калі ня скокнуць цэны на паліва і электрычнасьць.

**НА СЯЎБУ КАЛГАСАМ** і саўгасам бракуе 160 млн. даляраў. Каб ліквідаваць дэфіцыт бюджэтных сродкаў, урад зьбіраецца выдаткаваць гаспадаркам 60 тыс. тонаў паліўнага крэдыту ды падвысіць падаткі на падтрымку сельгасвытворцаў.

**ВОЛЬНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ЗОНА** "Магілёў" створаная нядаўна. Прадпрыемствы ў яе межах атрымаюць 50% зьніжкі па падатках на прыбытак і на даходы. Дагэтуль у Беларусі было тры вольныя эканамічныя зоны – "Менск", "Гомель" ды "Берасьце".

**БЕЛАРУСКІМ АВІЯКАМПАНІЯМ** забароняць рэйсы ў краіны Эўразьвязу з 1 кастрычніка. Беларускія лётчыкі карыстаюцца самалётамі расейскай вытворчасьці, якія не адпавядаюць эўрастандартам па шкодных выкідах і шумах. У адказ "Белавія" заявіла, што ў такім разе заходнія самалёты таксама ня будуць прымаць у Беларусі, калі Эўразьвяз не скасуе сваёй забароны.

**БЕЛАРУСКАЙ АЭС** ня будзе прынамсі да 2025 г. Энэргетыкі падлічылі, што АЭС дасьць краіне ўсяго на 40% электрычнасьці болей. Амаль столькі ж энэргарэсурсаў можна проста зэканоміць, калі карыстацца новымі тэхналёгіямі на прадпрыемствах ды ўцяпліць жыльлё.

**ПАДАХОДНЫМ ПАДАТКАМ** сёлета ня будуць абкладацца грошы ад здачы мэталалому, макулятуры, палімэраў, пабітага шкла ды старой гумы. Гэта мусіць заахвоціць здачу другаснай сыравіны.

**РАСЕЙСКІЯ БРОВАРЫ**, што экспартуюць піва ў Беларусь, мусяць уносіць грашовы заклад, роўны кошту пляшак. Заклад будуць вяртаць толькі тады, калі пустыя пляшкі вывезуць назад у Расею. Гэта абараняе інтарэсы нашых вытворцаў шкла, а таксама робіць расейскае піва даражэйшым і менш канкурэнтным на беларускім рынку.

**Сяржук Іваноўскі**

# "Голас душы" мусіць гучаць

**Просім кіраўніцтва Беларускага радыё аднавіць праграму "Голас душы" на першым радыёканале. Яна патрэбная слухачам і Беларусі.**

| імя, прозьвішча | адрас | дата | подпіс |
| --- | --- | --- | --- |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

*У рэдакцыю працягваюць ісьці лісты ў абарону перадачы "Голас душы". Усяга за тры тыдні чытачы "НН" сабралі 1429 подпісаў.*

Яўген, Алена і Ларыса Андросікі, Віталь Супрановіч, Ірына Коваль, Вацлаў Арэшка, Ігар Кузьняцоў, бацька і сын Кажэмаксы (абодва Андрэі) ды яшчэ 204 чалавекі зь Менску падпісаліся ў падтрымку "Голасу душы" на мінулым тыдні. "Паважаная "Наша Ніва"! Зычым посьпехаў табе й "Голасу душы", — піша Гарадзенская арганізацыя Маладога Фронту. "Голас душы" мусіць гучаць!" — так лічаць Алеся Высоцкая, Сьвятлана й Вячаслаў Карпавы, Эльміра Юсубава і яшчэ 23 гарадзенцы, В.Малчанава, З.Рамнцава, В.Дрозд са Сьветлагоршчыны. Далучаюць да іх свае галасы Раіса і Юры Прошыны, Аляксей Стукачоў, Анатоль Прарэшанка, Валадар Цурпанаў і яшчэ 9 чалавек з Магілёва, Галіна, Міхаіл, Ірына і Андрэй Будзевічы, Валеры Дунай з Ваўкавыску, Віталь Бураў і яшчэ 7 чалавек з Гомеля, Уладзімер Ермаловіч і яшчэ 4 чалавекі з Барысава, Альбіна і Антон Ласоўскія, Ганна Юшкевіч і яшчэ 48 чалавек зь вёскі Савуткі, Раман Ясюкевіч, Нарбэрта Гірстун з Шаркаўшчыны, Ганна Корзан, Ліля Крачкоўская зь Віцебску. 8 чалавек даслалі свае подпісы з Браслава і Браслаўскага раёну. Зь Берасьця ў абарону "Голасу душы" пішуць Ганна Вайцяховіч ды яшчэ 8 чалавек. З Воршы прыйшлі 8 подпісаў, з Койданава — 26 подпісаў, з Вулькі (Лунінеччына) — 24 подпісы, з Луніна — 3. Подпісы прыйшлі таксама зь Бярозы, Вельямовіч, Ставаў, Узногі, Чэрвеню, Століна, Воршы, Ратамкі, Каралёва, Трабаў, з украінскай вёскі Старыя Бандуны. 4 подпісы даслалі жыхары Салігорску. Сьвятлана Канапацкая, Ганна Раманоўская і яшчэ 5 чалавек напісалі нам зь Ліды.

Тым часам на запыт ТБМ да Міністэрства інфармацыі пра закрыцьцё праграмы "Голас душы" прыйшоў наступны адказ: "Міністэрства інфармацыі сумесна зь Белтэлерадыёкампаніяй разгледзела Ваш ліст і паведамляе, што з 1 студзеня 2002 г. Беларускае радыё перайшло на новую сетку вяшчаньня. Кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі прапанавала Кардыналу Казіміру Сьвёнтку, арцыбіскупу, Мітрапаліту Менска-Магілёўскаму, вырашыць пытаньне аб перадачы на беларускай мове на першым канале рэспубліканскага радыё з 8.30 да 9.00 нядзельнай імшы з удзелам прадстаўнікоў Менска-Магілёўскай архіяпархіі рымска-каталіцкай царквы. Зьвяртаем Вашу ўвагу на тое, што ў адпаведнасьці з артыкулам 14 Закону "Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях" і статусам рымска-каталіцкай грамады сьвятых Сымона і Алены дзейнасьць гэтай грамады абмежавана тэрыторыяй г.Менску. Белтэлерадыёкампанія арганізоўвала і будзе надалей арганізоўваць перадачы, прысьвечаныя галоўным рэлігійным сьвятам, а таксама запрашаць сьвятароў вядучых рэлігійных канфэсій да ўдзелу ў абмеркаваньні праблем духоўнага выхаваньня. Міністар М.Падгайны". Гэта значыць, што лёс каталіцкае перадачы на Першым канале нацыянальнага радыё вырашаны станоўча, а хто яе будзе весьці, залежыць цяпер толькі ад кардынала Сьвёнтка. Спадзяемся, што гэтая пачэсная справа будзе даверана а.Уладзіславу Завальнюку.

## навіны за тыдзень

### Прафсаюзы супраць акцыянаваньня

**Днямі ў Менску лідэры Беларускага незалежнага прафсаюзу абмеркавалі становішча, якое склалася на прадпрыемствах нафтахімічнай галіны ў сувязі зь іх акцыянаваньнем.** Працоўным калектывам прапанавалі самім выступіць з ініцыятывай акцыянаваньня, хоць насамрэч такое рашэньне прыняў урад, які будзе вызначаць і будучых інвэстараў. Прафсаюзы выступаюць супраць перакладаньня адказнасьці за вынікі прыватызацыі на плечы работнікаў.

### Арэндная плата аднолькавая не для ўсіх

**6 лютага Канстытуцыйны суд Беларусі вырашыць, ці адпавядае Канстытуцыі інструкцыя, якая вызначае парадак фармаваньня ставак платы за арэнду нежылых памяшканьняў** для юрыдычных асобаў недзяржаўнай формы ўласнасьці. Пытаньне гэтае ўзьняла палата прадстаўнікоў. Дэпутаты лічаць, што існая інструкцыя выклікае няроўнасьць: прыватныя юрыдычныя асобы плацяць больш за дзяржаўныя прадпрыемствы.

### Ліцэнзіі для сацыёлягаў

**Паводле інфармацыі зь Беларускай асацыяцыі аналітычных цэнтраў, Адміністрацыя прэзыдэнта зьбіраецца ўвесьці ліцэнзаваньне сацыяльных дасьледаваньняў.** Прадстаўнікі незалежных дасьледчых і аналітычных цэнтраў разглядаюць гэта як спробу ўладаў паставіць пад адміністрацыйны кантроль незалежныя сацыяльныя дасьледаваньні.

**Ул.інф.**

скандал тыдня

# Мікола Маркевіч: Яны ізноў пралічацца

**14 лютага журналісту "Пагоні" Паўлу Мажэйку будзе прад'яўленае абвінавачаньне па артыкуле Крымінальнага кодэксу "Паклёп у адносінах да прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі". Журналісту пагражае да пяці год пазбаўленьня волі. Хутчэй за ўсё, у той жа дзень аналягічнае абвінавачаньне будзе прад'яўленае і рэдактару "Пагоні" Міколу Маркевічу.**

Днямі Павал Мажэйка быў у чарговы раз выкліканы ў пракуратуру. Пры канцы допыту сьледчы ўручыў Мажэйку позву на 14 лютага, патлумачыўшы, што будзе прад'яўляць абвінавачаньне.



Позву ў суд Міколу Маркевічу паказалі за тры дні да яго нагаадлёту ў Нью-Ёрк, калі ўжо была аформленая віза, купленыя квіткі. Родныя баяліся, што мо й ня выпусьцяць яго зь Беларусі.

Хітра гуляюць лукашэнкаўцы. Цягнулі з крымінальнай справай паўгоду, да адлёту рэдактара "Пагоні" ў ЗША. Намякаюць: папрасі, Мікола, прытулак там. Хто табе адмовіць, калі супраць цябе крымінальная справа ўзбуджаная? А мы тут без тваёй "Пагоні" спакойна жыць будзем. Але Маркевіч не думае заставацца ў ЗША. "Чаго яму там рабіць?" — кажа ягоная жонка Вольга. 11 лютага ён мае вярнуцца і зьбіраецца разам з Мажэйкам ісьці ў пракуратуру 14-га, акурат на дзень усіх закаханых.

Журналісты і дзеячы культуры Гарадзеншчыны рыхтуюць адкрытыя лісты да пракурора Гарадзенскай вобласьці Васіля Літвінава, грамадзкасьці Беларусі й сьвету, дзе выкажуць сваё абурэньне з нагоды перасьледу журналістаў.

**Э.Л.**

## лісты ў рэдакцыю

# Я маю гімн

**Пытаньне беларускага гімну, актуалізаванае апошнім часам, няпростае. Загадзя можна ўпэўнена цьвердзіць, што да новага гімну, які б ён ні быў, знойдзецца багата прэтэнзіяў.**

Для адных ня будзе іншага варыянту, апроч гімну "другой сьвежыні" (гэтак, як расейцы стварылі сабе гімн "трэцяй сьвежыні"). Другім патрэбны толькі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." Трэція апантана змагацьмуцца за "Палянэз" Агінскага (ён жа — "Разьвітаньне з Радзімай"). Чацьвертыя наагул напісалі свой, новы варыянт гімну... Але навошта такое зацятае змаганьне? Гімн, як і іншая дзяржаўная сымболіка — герб і сьцяг, ёсьць нечым гістарычна ўкарэненым, "апрабаваным". Гімн мае такую ж значнасьць, як і іншая сымболіка, — найперш *гістарычную.* Ніхто ж не адмаўляе гістарычнага бел-чырвона-белага сьцягу на падставе таго, што ёсьць прыгажэйшыя спалучэньні колераў! Мы выбіраем гэты сьцяг не праз ягоныя эстэтычныя вартасьці, а найперш таму, што ён гістарычны. Тое самае і з гербам "Пагоня" — таму, што ёй 700 гадоў. У такім гістарычным "спаборніцтве" варыянт "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." мае безумоўнае першынство перад песьняю "Магутны Божа".

Аднак існуе твор, які далёка перасягае ўсе названыя вышэй. Твор, які выконваўся нашымі продкамі менавіта ў "гімнавай" якасьці. Гэта "Багародзіца", якую сьпявалі воі Вялікага Княства перад бітвай. Велічнае апісаньне такога моманту — у Караткевічавым рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні":

"Усе пешыя, у латах і кальчугах, са звычайнымі і двухручнымі мячамі ў руках, з авальнымі шчытамі, у якіх былі ўпісаны шасьціканечныя крыжы, у белых плашчах, яны стаялі на бялёсай вапняковай зямлі, пад гарачым апошнім сонцам. Белыя на белым.

Увесь акаём перад імі варушыўся. І тады нехта засьпяваў старажытную "Багародзіцу". Страсным і грубым голасам:

Пад Тваю літасьць...

Пад Тваю літасьць прыпадаем,
Багародзіца Дзево,
Маленьняў нашых не адрынь
у журбе,
А ад бед ізбаві нас,
Адзіна і чыстая і благаслаўлёная.

Журботныя, празрыстыя галасы падхапілі яе, панесьлі:

На цьвярдыню Тваю мы ўпаваем,
Багародзіца Дзева.

Плыў над імі, над пусташшу страсны харал. Нібы на мячах, узьнятых угору. Цягнуўся пусткаю доўгі ланцуг.

Наперадзе, моцна адарваўшыся, ішлі военачальнікі ў белых плашчах.

Яка імя Твае!

Яка слава твая!

У апошняй мужнай і безнадзейнай тузе ўзьляталі галасы. А вочы бачылі, як вырваўся наперад слон, страшная, нібы пекла, жывая гара, як паляцела коньніца.

О ўсяпетая...
О ўсяпетая Маці,
Рождшая ўсіх сьвятых сьвяцейшае
Слова.
Сёньняшняе наша прыемшы
прынашэніе,
Ад усякія збаві напасьці ўсіх
І будучыя ізьмі мукі табе
вапіюшчых.
Алілуя.
Алілуя!
Алілуя!!!"

З "Багародзіцай" на вуснах ішлі ў бой і Вітаўтавы палкі ў Грунвальдзкай сечы... "Багародзіца" — гэта наш сярэднявечны гімн, гэта нашая повязь зь Вялікім Княствам, з славай нашых продкаў. "Багародзіца" — гэта покліч нашае славы і ўспамін пра нашую старажытнасьць. Яна — найбольш удалы варыянт гімну, калі браць пад увагу найперш гістарычны аспэкт. Не бяды, што твор мае выразна хрысьціянскае адценьне. Пагатоў нічога дзіўнага ў гэтым для твору Сярэднявечча якраз і няма.

**Аркадзь Шанскі, Менск**

# Ад рэдакцыі: умовы конкурсу гімнаў

**Сталі вядомыя ўмовы конкурсу гімнаў. Даслаць у камісію свае варыянты гімну можна ад 22 студзеня да 10 сакавіка 2002 г. Паколькі конкурс ананімны, у канвэрт разам з тэкстам альбо нотамі (ці тэкстам і нотамі) укладаецца заклеены канвэрт з укладзенымі ў сярэдзіну яго каардынатамі аўтара. Каб потым можна было знайсьці аўтара, на абедзьвюх капэртах трэба напісаць свой дэвіз. Напрыклад, "Рагнеда" або "Зубр". Дасылаць можна толькі адзін варыянт гімну! Адрас, на які дасылаць: Міністэрства культуры, пр.Машэрава, 11, Менск. На канвэрце трэба пазначыць "на конкурс" і напісаць Ваш дэвіз.**

**Старшыня ТБМ А.Трусаў мяркуе, што чым больш людзей прапануюць для конкурсу "Магутны Божа", "Пагоню", "Не загаснуць зоркі ў небе" ці "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", тым болей шанцаў, што адзін зь іх будзе прыняты.**

# Мае віленскія Каляды

**Мне пашанцавала. Сёлета Каляды я сустракаў у Паўночнай Сталіцы: на**

## цытаты тыдня

### Пра "Дэмакратычны альянс"

Зразумела, што адзін з матываў Ганса-Георга Віка — гэта спроба ўпарадкаваць шматлікія й часам малакантраляваныя фінансавыя плыні й стварыць адну, зь якой "жывілася" б уся беларуская дэмакратычная грамадзкасьць.

**Юрась Карманаў, радыё "Рацыя", 1 лютага**



### Антыгегеманісты

...Падзеі 11 верасьня 2001 году паказалі, што спробы ЗША, Ізраілю і іншых заходніх краін нібыта з-за барацьбы з тэрарызмам навязаць сьвету палітыку гегеманізму, перакрэсьліць статут ААН і прынцыпы міжнароднага права сустракаюць рэзкі супраціў.

**Леў Крыштаповіч, "Белорусская нива", 25 студзеня**

рэформа мэдыцыны

# За грошы ці за так?




**Калі вы думаеце, што галоўнае пытаньне нашай мэдыцыны "як вылечыць хворага?", вы памыляецеся. Галоўнае сёньня — дзе знайсьці грошы. Нашай ахове здароўя паўафіцыйна, але на самым высокім узроўні пастаўлены дыягназ "жабрацтва" і загадана шукаць грошай сваімі сіламі. 30% ад неабходных сродкаў мэдыкі мусяць зарабіць самі. Гэта азначае, што адзін з трох хворых павінен лячыцца платна альбо кожны мусіць аплаціць са сваёй кішэні траціну атрыманых мэдычных паслугаў. Плаціць трэба за ўсё — да такой высновы зараз прыходзяць многія, і мэдыцына тут не выключэньне. Тым больш мэдыцына сучасная, высокатэхналягічная і энэргаёмістая. Але адной псыхалягічнай гатоўнасьці аддаць грошы мала, трэба мець яшчэ адпаведную арганізацыйную структуру, мэханізмы рэгуляваньня цэнаў на паслугі, а галоўнае — фінансавыя магчымасьці.**

Ва ўсім гэтым працэсе ёсьць тры зацікаўленыя бакі. Ініцыятарам пераменаў выступае дзяржава, якую фінансавыя цяжкасьці вымушаюць шукаць спосабаў эканоміі сродкаў. Рухае ёй не жаданьне жыць па-новаму, а немагчымасьць існаваць па-старому. Даволі цяжка ўявіць сёньняшніх уладцаў у якасьці прынцыповых і кампэтэнтных рэфарматараў.

Ёсьць зацікаўленасьць у зьменах і сярод пацыентаў, бо ўзровень мэдычных паслугаў пагаршаецца з кожным годам, яны робяцца ўсё больш "блатнымі" і ўсё менш даступнымі, асабліва высокакваліфікаваныя. Часам, нават маючы грошы, хворы ня можа атрымаць адэкватную дапамогу, бо ня ведае, да каго і як зьвярнуцца.

Даволі складанае стаўленьне да новаўвядзеньняў у лекарскім асяродзьдзі. Паводле вынікаў леташняга апытаньня, у Магілёве прыватную мэдыцыну падтрымліваюць толькі 15% дактароў, за страхавую мэдыцыну выступаюць 50%.

Лекараў нельга назваць прагрэсіўнай і актыўнай сацыяльнай групай. На тое ёсьць шэраг прычынаў. Па-першае, многія зь іх маюць нізкі прафэсійны ўзровень, бо ў савецкай сыстэме адсутнічала канкурэнцыя ды іншыя стымулы да падвышэньня ўзроўню індывідуальнай падрыхтоўкі. Такія дактары баяцца страціць і тое, што маюць сёньня. Па-другое, яшчэ за савецкім часам лекары мелі даволі нізкія даходы ў параўнаньні з тэхнічнай або навуковай інтэлігенцыяй. Кампэнсавалася гэта "падарункамі" ад пацыентаў. Боязь згубіць вось гэты, хай "натуральны", але ж "прыварак", таксама спыняе некаторых дактароў. Бо ў платнай мэдыцыне, дзе разьлік ідзе ў адкрытым грашовым варыянце, "каньячна-цукерачныя" адносіны губляюць усякі сэнс. Страхі дактароў небеспадстаўныя.

На сёньня ёсьць два варыянты пераменаў у нашай мэдыцыне.

Першы — так званы "віцебскі варыянт", калі бюджэтныя грошы аддаюцца паліклінікам, якія ўсімі сіламі пачынаюць іх эканоміць: менш робяць абсьледаваньняў, непатрэбных кансультацыяў, шпіталізацыяў, абыходзяцца меншай колькасьцю супрацоўнікаў і г.д. Звычайна такі экспэрымэнт канчаўся тым, што зэканомленыя грошы ўрэшце "зразаліся" зь бюджэту паліклінікі і стараннасьць прыносіла "стаханаўцам" адну шкоду.

Другі варыянт — тое, пра што цяпер столькі гаворкі, — каб усе паслугі паліклінік сталі платнымі. Цэны зацьверджаныя міністэрствам на пачатку мінулага году і з улікам інфляцыі сёньня даступныя многім. Але, па-першае, няма жорсткіх крытэраў, калі адну і тую ж паслугу рабіць за грошы, а калі за так. Досьвед паказвае, што ў "бясплатнікі" часьцей трапляюць чыноўнікі высокага рангу, кіраўнікі прадпрыемстваў, бізнэсоўцы ды іншыя катэгорыі, якія цяжка аднесьці да малазабясьпечаных. А па-другое, з кошту платных паслугаў толькі 10% ідзе на заробак лекару. Напрыклад, за прыём аднаго хворага тэрапэўт атрымлівае 100 рублёў, а прыняўшы за дзень 30 чалавек, ён заробіць 3000 руб. — грошы сьціплыя. Вось чаму ў такіх платных паслугах не зацікаўленыя ні мэдыкі, якія страцяць у заробках нават у параўнаньні зь сёньняшнімі акладамі, ні хворыя, якія, заплаціўшы грошы, будуць чакаць новага ўзроўню абслугоўваньня, а ўбачаць тую ж галечу і абыякавасьць.

Такім чынам, выгаду у гэтых новаўвядзеньнях можа знайсьці толькі дзяржава. Яна здолее нешта зэканоміць у найбліжэйшыя год-два, але ў пэрспэктыве ад такіх псэўдарэформаў карысьці ня будзе. Яны толькі падарвуць давер да больш сур'ёзных пераўтварэньняў, напрыклад, увядзеньня страхавой мэдыцыны, і расьцягнуць стагнацыю нашага грамадзтва на няпэўны час. Але яшчэ больш важна разуменьне таго, што задачы аховы здароўя нельга вырашыць ізалявана ад іншых праблемаў і "дыягназ" трэба ставіць не асобна мэдыцыне, камунальнай службе або сельскай гаспадарцы, а ўсёй сацыяльна-эканамічнай сыстэме, тады і "лячэньне" будзе прызначанае мэтанакіравана і кампэтэнтна.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

## За што будзем плаціць

**Мэдычныя ўстановы маюць права браць грошы за некаторыя паслугі яшчэ з 1996 г., аднак яны гэтым амаль не карыстаюцца, бо расцэнкі мізэрныя. Дый дзейнічае звычайная ўраўнілаўка — за кансультацыю ў прафэсара і ў вясковага доктара трэба заплаціць адны й тыя самыя 1200 рублёў, а мэдык зь іх атрымае рублёў 100. Астатнія ідуць у "агульную скарбонку" ўстановы. Міністэрства аховы здароўя зьбіраецца падвышаць цэны на платныя мэдычныя паслугі, а таксама павялічваць іх колькасьць. Хутчэй за ўсё, плаціць трэ будзе за талёнчыкі ў паліклініках, за ўсе стаматалягічныя паслугі, за частку дыягнастычных аналізаў. Сацыяльна значныя паслугі, кшталту лячэньня сухотаў ці ракавых захворваньняў, застануцца дармавымі, як і выклік "хуткай" (плаціць за яе будуць толькі госьці Беларусі з далёкага замежжа), дапамога пры родах. Бясплатнымі застануцца таксама хірургічныя апэрацыі й асноўныя лячэбныя працэдуры.**

## Расцэнкі на платныя паслугі ў дзяржаўных паліклініках Магілёва

| | |
|---|---|
| Унутрымускульная або падскурная ін'екцыя | 269 руб. |
| Унутрывеннае кропельнае ўвядзеньне раствораў ("кропельніца") | 5965 руб. |
| Замер артэрыяльнага ціску на дзьвюх руках | 538 руб. |
| Рэнтгенаграма лёгкіх | 4542 руб. |
| Рэнтгенаграма пазваночніка | 3590 руб. |
| Рэнтгенаграма чэрапа | 3832 руб. |
| Ультрагукавое дасьледаваньне органаў жывата | 7400 руб. |
| Індывідуальны пост санітаркі (за суткі) | 1122 руб. |
| Знаходжаньне асобаў, што даглядаюць пацыента | |
| (без харчаваньня) | 6382 руб |
| (з харчаваньнем) | 8113 руб. |
| Адзін ложкадзень у 2-мясцовай палаце палепшанай камфортнасьці (безь лячэньня) | 8844 руб. |

**некалькі сьвяточных дзён гасьцінна прыняла адна віленская сям'я. Я даўно марыў пахадзіць па вулках места, якое павінна быць сапраўднай сталіцай Беларусі.**

На здымках і малюнках Вострая Брама мне чамусьці не падабалася. Хацелася нечага больш велічнага, больш урачыстага. Але калі я ўбачыў яе на свае вочы, быў папросту ўзрушаны! Гэтая брама нібы вядзе падарожніка з сучаснага ў мінулае. Дарма што цяпер яна ў цэнтры места. Вострая Брама дагэтуль выконвае свае непасрэдныя функцыі. Яна злучае два розныя сьветы. Праходзячы праз яе, трапляеш з шырокіх вуліцаў новай Вільні ў лябірынты старога места. На ёй знаходзіцца сьвятыня ўсіх хрысьціянаў Беларусі - абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Менавіта невялічкую копію абраза Божай Маці, аздоблены бурштынам, я выбраў сабе на памяць сярод шматлікіх пекных віленскіх сувэніраў. Шпацыруючы па вулках Паўночнай Сталіцы, немагчыма не завітаць хаця б у адзін касьцёл. Кожны мае нешта асаблівае. Адзін уражвае ляпнінай, другі — фрэскамі, статуяй Панны Марыі ці жырандоляй у выглядзе старога карабля зь ветразем. І ў кожным непаўторныя ясьлі - кампазыцыі на тэму Божага Нараджэньня. У старым Бэрнардынскім касьцёле, што прыляпіўся да касьцёла Сьвятой Ганны, чакала неспадзяванка. На ўваходзе каля ясьляў сталі жывыя восьлік ды авечка з малымі ягнятамі. Такое маглі зрабіць толькі віленчукі. Усе наведнікі былі ў захапленьні.

Дарэчы, у Вільні расейская мова гучыць на вуліцах места ня менш, чым летувіская. Трохі радзей можна пачуць польскую мову. А на маю беларускую мову амаль усе, да каго я зьвяртаўся, спрабавалі адказваць мне на польскай, часьцей за ўсё вельмі кепскай, пераходзячы потым на звыклую расейскую. Наагул віленскія гандляры адкажуць табе хоць на якой мове, абы купіў у іх што.

Вільнюс мусу — Летува Русу, што азначае: Вільня наша — Літва расейская. Так казалі літоўцы пасьля далучэньня свайго краю да СССР. За такі падарунак, як Вільня, яны папросту мусілі нечым ахвярваць, нават сваёй свабодай, тым больш што часова.

Пасьля вяртаньня дахаты падумалася, што трэба пазычыць у літоўцаў адно слова. Дакладней, вярнуць ва ўжытак сваё, беларускае. *Bažničia* — па-нашаму бажніца. І ўжываць яго трэба замест слоў "касьцёл" ды "царква".

**Яўген Са-чук, Пінск**

дзе варта быць

## Шэсьце й карнавал на 14 лютага




**Малады Фронт ужо падаў у Менгарвыканкам заяўку на правядзеньне масавага шэсьця 14 лютага.** Пачнецца яно а 17-й з плошчы Якуба Коласа, пройдзе па праспэкце Скарыны й вуліцы Янкі Купалы і завершыцца сьвяточным карнавалам ля Опэрнага тэатру.

## Новы зборнік "Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 году",




**падрыхтаваны аналітычнай групай пад кіраўніцтвам Валера Булгакава, ня мае і ня меў падобных у Беларусі. У кнізе аналізуюцца палітычныя працэсы ў Беларусі ад 1990 да 2001 г., пішацца пра ўсе палітычныя партыі і ўсіх вядомых палітыкаў краіны. Палова кнігі прысьвечаная непасрэдна розным аспэктам леташняе барацьбы – кампаніям апазыцыі і Лукашэнкі, дынаміцы грамадзкай думкі і ўрокам выбараў. Прыемна, што сярод аўтараў кнігі – сталыя аўтары "НН".**

**Пытайцеся ў незалежных распаўсюднікаў, бо ў кнігарні яе наўрад ці прапусьцяць.**

## ПОЛЬСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ ФУНДАЦЫЯ СВАБОДЫ

сумесна з Польска-амэрыканскай камісіяй Фулбрайта абвяшчае адкрыты конкурс на праграму стыпэндыяў імя Лэйна Кіркланда на 2002—03 акадэмічны год. Праграма ставіць на мэце перадачу й распаўсюджваньне польскага досьведу ў галіне сыстэмнай трансфармацыі іншым краінам Усходняй Эўропы ў межах дадатковага двухсэмэстравага навучаньня ў польскіх ВНУ сумесна са стажаваньнем у дзяржаўных і прыватных установах на працягу некалькіх тыдняў. Праграма працуе ў галінах: эканоміка і кіраваньне; грамадзкая адміністрацыя (урадавая і самакіраваньня); бізнэс-адміністрацыя; права; палітычныя навукі; сацыяльныя навукі. Праграма Кіркланда разьлічаная на прэтэндэнтаў, гатовых выкарыстаць набытыя ў Польшчы веды й уменьні, найперш выкладчыкаў ВНУ; экспэртаў, палітыкаў, супрацоўнікаў урадавых установаў і самакіраваньня; прадпрымальнікаў і мэнэджэраў; лідэраў недзяржаўных арганізацыяў; журналістаў. Прэтэндэнты павінны мець ня больш за 35 гадоў (у выключных выпадках — 40), актыўна працаваць у сваім асяродку, мець значныя дасягненьні. Неабходная вышэйшая адукацыя (для кандыдатаў з ВНУ — пажадана ступень доктара/кандыдата навук) і досьвед працы па спэцыяльнасьці, ня меншы за 2 гады, веданьне польскай (альбо ангельскай) моў на ўзроўні, што забясьпечвае разуменьне лекцыяў і сэмінараў.

Неабходныя дакумэнты: заява (асабістая анкета з фатаздымкам, ліст з матывацыяй удзелу ў праграме, прапановамі адносна перабываньня і далейшымі плянамі (да 2 старонак); *Curriculum Vitae* разам са сьпісам публікацыяў; копія дыплёму (ці копія дыплёму кандыдата навук); два лісты з апісаньнем дасягненьняў, кваліфікацыі кандыдата і далейшымі плянамі, зьвязанымі зь яго разьвіцьцём і працай на прафэсійным і грамадзкім полі (па-польску ці па-ангельску). Лісты павінны быць высланыя непасрэдна ў Камісію Фулбрайта асобамі, што рэкамэндуюць кандыдатаў. Для ўдзельнікаў праграмы прадугледжаная стыпэндыя эквівалентам 500 даляраў. Таксама аплачваюцца ўнівэрсытэцкія выдаткі, пражываньне ў Польшчы, страхоўка, дарога туды і назад, закупка навуковых матэрыялаў. Прадастаўляецца кампутар і прынтар. Апошні тэрмін дасыланьня заяваў — 11 сакавіка 2002 г. Арыгіналы дакумэнтаў трэба выслаць поштай на адрас: *Polsko-Amerykańska Komisja Fulbrighta, ul.Nowy Świat 4, 00-497 Warszawa – Polska*. Таксама можна даслаць копіі дакумэнтаў на e-mail: fulbright@fulbright.edu.pl ці u.moczydlowska@fulbright.edu.pl Фармуляры для заяваў і інфармацыйныя матэрыялы можна замовіць поштай, па тэлефоне ці праз *e-mail* у Польска-амэрыканскай камісіі Фулбрайта. Т.: (104822) 628-79-50; 625-69-32; 625-69-78. Матэрыялы гэтыя таксама можна знайсьці на старонцы Камісіі Фулбрайта па адрасе: http://www.fulbright.edu.pl

## REAGAN-FASCELL DEMOCRACY PROGRAM

Амэрыканская недзяржаўная некамэрцыйная арганізацыя *"The National Endowment for Democracy"* абвясьціла аб пачатку праграмы *"Reagan-Fascell Democracy Program"*. Праграма разьлічаная на актывістаў грамадзкіх арганізацыяў, навукоўцаў і журналістаў, якім патрабуюцца веды ў галіне дэмакратыі. Удзел можна ўзяць у двух курсах: курс *"Practitioner"* прадугледжвае сустрэчы й дыскусіі з амэрыканскімі калегамі ды экспэртамі і прызначаецца для ўдасканаленьня практычных і тэхналягічных навыкаў ды абмену досьведам (на працягу 3—5 месяцаў); курс *"Research and Writing"* ("Дасьледаваньне і напісаньне") прадугледжвае напісаньне дасьледчыцкай працы ці журналісцкіх матэрыялаў (на працягу 5—10 месяцаў). Кожны практыкант будзе атрымліваць штомесячную стыпэндыю (3,5—7,5 тыс. даляраў), мэдычную страхоўку і аплату расходаў на падарожжы. Дадаткова магчымая аплата дзелавых паездак па ЗША.

Ахвотныя ўзяць удзел у праграме *"Practitioner Track"* мусяць даслаць на 5—10 старонках: апісаньне працы, якую прэтэндэнт робіць дзеля пабудовы і ўмацаваньня дэмакратыі ў сваёй краіне; пералік мэтаў, дзеля якіх ён бярэ ўдзел у праграме, у тым ліку крыніцы інфармацыі, доступ да якіх ён жадае атрымаць і г.д.; папярэдні праект сваёй дасьледчыцкай ці журналісцкай працы; думкі аб тым, як гэтая праграма можа дапамагчы справе пабудовы дэмакратыі ў ягонай краіне, рэгіёне і г.д.

Ахвотныя ўзяць удзел у праграме *"Research and Writing Track"* мусяць даслаць на 5—10 старонках: думкі пра тое, як іх праект можа дапамагчы тэорыі і практыцы разуменьня дэмакратыі грамадзтвам; кароткае апісаньне таго, як дасьледаваньне ўпісваецца ў агульны кантэкст публікацыяў на гэтую тэму; указаньні, якім чынам удзел у праграме дазволіць аблегчыць гэтую працу; інфармацыя аб папярэдніх публікацыях (кнігі, даклады, артыкулы і г.д.). Дадаткова неабходныя: 8 (восем) копіяў падрабязных *Curriculum Vitae* ці рэзюмэ; 3 (тры) рэкамэндацыйныя лісты; указаньне магчымага часу й працягласьці практыкі.

Тэрмін атрыманьня дакумэнтаў ад ахвотных узяць удзел у восеньска-зімовых праграмах 2002 г. — 1 красавіка 2002 г. (рэгістрацыя будзе праведзеная ў канцы чэрвеня 2002 г.), ад ахвотных узяць удзел у праграмах 2003 г. — 17 верасьня 2002 г. (рэгістрацыя будзе праведзеная ў канцы студзеня 2003 г.) Усе зьвесткі патрэбна дасылаць поштай, пажадана электроннай. Паштовы адрас: *Program Assistant, Fellowship Programs. International Forum for Democratic Studies, National Endowment for Democracy, 1101 15th street, N.W., Suite 800, Washington, DC 20005*. Т.: 202-293-03-00, факс: 202-293-02-58. E-mail: fellowship@ned.org. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсьці на сайце www.ned.org.

# Рай стане ў Амэрыцы

## *рэпартаж з Солт-Лэйк-Сыты*

**Калі яны перайшлі горы й апынуліся ў скалістай даліне, іхны правадыр і прарок Брыгам Янг сказаў: "Се — месца!". Ён загадаў паставіць намёты ў бязводнай салёнай пустэльні, а праз дзьве гадзіны пасьля прыбыцьця ягоныя вернікі пачалі араць неўрадлівую зямлю.**

**Наступнага дня яны ўжо садзілі бульбу, сеялі пшаніцу, загацілі ручай, каб пусьціць ваду на высахлую ральлю. Так выглядаў пачатак сёньняшняй магутнасьці.**

**Патрэбная была вялікая вера альбо вялікая пыха, каб невялікі ручай назваць Ярданам, а саланчак — Зямлёй Ізраілю. Але, як вучыў прарок Янг, гэтая негасьцінная даліна была Зямлёй Абяцанай, адданай Богам ва ўладаньне Царкве Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён — мармонаў. Бо ж Брыгам Янг сказаў: "Се — месца, да якога прывёў нас Бог!".**

### Дыскусіі не было

У ліпені 1864 г. пасьля паўгоду пакутлівых вандровак (толькі ў другую ноч маршу замерзьлі дзевяцёра немаўлят) 146 чалавек засялілі даліну. Праз два гады іх было пяць тысячаў. Сёньня — адзінаццаць мільёнаў па ўсім сьвеце. Царква сьвятых апошніх дзён разьвіваецца хутка, як аніводная іншая ў сьвеце.

Крыху асвойтаўшыся ў салёнай даліне, яны распачалі будоўлю храму — Тэмплю, закрытага для няверных. Будавалі 20 гадоў: 177 пакояў для малітвы, шлюбаў, хросту, абсталяваных з раскошай (залатая купеля, якую цягнуць залатыя быкі, мармур, пазалочаныя фрэскі, на адной зь вежаў — залаты анёл Мароні, які трубіць у залатую трубу). Цяжка паверыць, што 150 гадоў таму мармоны прыехалі сюды як выгнаньнікі на 72 укрытых палатном вазах.

Тэмпль стаіць у цэнтры Солт-Лэйк-Сыты — сталіцы штату Юта. Ён арганізуе плян гораду. Большы за храм толькі найвышэйшы ў горадзе (у некалькі дзясяткаў паверхаў) будынак мармонскай адміністрацыі. Вуліцы нумаруюцца паводле набліжанасьці да храму: 1, потым 2, 3 і г.д., пакуль вузкія вулкі перадмесьцяў не зьлюцца з гарамі.

У пляне Солт-Лэйк-Сыты ёсьць нешта ад сымбалю і мармонскай таямніцы. Чым бліжэй Тэмпль, тым прыгажэйшым здаецца горад, бо фізычна бліжэйшымі робіцца сьвятасьць і пуп зямлі.

— Так і мы, — кажа мне Джэф, мармон з Солт-Лэйк-Сыты. — Мармоны зь Юты лічаць бліжэйшымі да Бога, лепшымі за іншых мармонаў. На немармонаў яны паглядаюць звысоку. Яны думаюць, што толькі яны ведаюць праўду. А Бог жа ганіць пыху.

Джэф, мармон з мармонскай сям'і (гэта істотна, бо большасьць вернікаў царквы — нэафіты), кажа, што ў Солт-Лэйк-Сыты пануе маральная задуха. Ён сын царкоўнага ярарха, верыць насамрэч, не на паказ, прытрымліваецца рэлігійных запаветаў. І марыць зьехаць зь Юты.

### Залатая легенда прарока Сьміта

Брыгам Янг, які прывёў мармонаў у Юту, мусіў быць незвычайным чалавекам, больш незвычайным, чым першы прарок Джозэф Сьміт.

Бо што зрабіў Джозэф Сьміт? Уклаў каноны веры, вызначыў структуру царквы (на чале — пажыцьцёва абраны беззаганны прарок, атачаны, як у Бібліі, дванаццацьцю апосталамі), паслаў у сьвет першых місіянэраў. Небагата — можа, таму што ў яго не было часу.

У 1827 г. Сьміт абвясьціў, што анёл Мароні паказаў яму месца на ўзгорку Кумора ў Новай Англіі, дзе закапаная залатая табліца са Словам Божым. Дзякуючы магічным камяням Урым і Тумім ён змог прачытаць і скапіяваць тэкст, напісаны таямнічай мяшанкай стараэгіпэцкага й халдэйскага альфабэтаў.

Сьміт прачытаў пасланьне анёла і паведаміў, што Хрыстос пасьля ўваскрэсеньня навучаў у Амэрыцы. Што індзейцы — нашчадкі няверных, якія ў 285 г. н.э. зьнішчылі пабожных нэфітаў (ад Нэфа — уцекача з Палестыны, які за паўстагодзьдзя да нараджэньня Хрыстовага прыплыў у Амэрыку на караблі, аснашчаным компасам). Тэкст анёла Мароні апісваў падарожжа Калюмба, зьнішчэньне індзейцаў, калянізацыю Амэрыкі, вайну за незалежнасьць.

На гэтым сканчаюцца прароцтвы, правераныя гісторыяй, і пачынаюцца астатнія: Хрыстос зноў зьявіцца на Зямлі недзе на амэрыканскім Сярэднім Захадзе. Хрыстос абяцаў, што Злучаныя Штаты будуць для вернікаў краем вечнага шчасьця — пры жыцьці й пасьля сьмерці.

Наш суайчыньнік пісьменьнік Мэльхіёр Ваньковіч (з роду Валентыя Ваньковіча, аўтара славутага партрэта Адама Міцкевіча), які жыў у Солт-Лэйк-Сыты, назваў Царкву Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён амэрыканізмам у найчысьцейшай існасьці. І дзівіўся, чаму ў вялікім, сучасным, багатым амэрыканскім горадзе, у заможным штаце, удвая большым за Польшчу, захоўваецца тэакратычная закасьцянелая структура. Ваньковіч пытаўся: чаму мармоны, якія вераць словам беспамылковага прарока, даюць Амэрыцы вялікіх палітыкаў і фінансістаў, чаму іх царква эканамічна пасьпяховая? Чаму сярод людзей, якія вераць у залатую табліцу й рай на Сярэднім Захадзе Амэрыкі, — найбольшая (у працэнтах) колькасьць інтэлектуалаў?

І адказваў: ня ведаю.

### Барада — знак супраціву

Пра дзяцінства і юнацтва Джэфа няма чаго доўга гаварыць: з маленства засвойваў асновы веры, хадзіў у храм, у 19 гадоў на два гады выехаў зь місіянэрскай службай на другі край зямлі. Істотней тое, як ён выглядае. Джэф, падстрыжаны налыса маладзён у акулярах, мае бараду, якую даглядае, як рэліквію. Лысая галава і барада для жанатага мужчыны маюць у Солт-Лэйк-Сыты палітычнае значэньне.

Ня менш важная за выгляд Джэфа гісторыя ягонай жонкі. Ехала калісьці прыгарадным цягнікам задуменная 20-гадовая дзяўчына, для якой перавярнуўся сьвет. Яна кахала старэйшага мужчыну, які абяцаў ажаніцца, а выявіўся жанатым.

Пабачыла двух хлопцаў, якія сьмяяліся зь ейнага кольца ў носе. "Чаго ржаце?" — кінула яна ім. А яны: у Юце ніхто ня носіць такіх кольцаў. Гэта было ейнае першае спатканьне з мармонскімі місіянэрамі.

— Потым мы сустракаліся амаль штодня, — кажа яна. — Яны распавядалі мне пра сваю веру, пра месца сям'і, значэньне сямейнага жыцьця, пра мужчынаў, якія ня здраджваюць. Я была ў такім стане, што, калі б спаткала егавістаў, стала б егавісткай. Але менавіта мармоны далі мне духоўную падтрымку, дапамаглі мне, калі іншым было не да мяне.

Праз год Івона прыняла мармонскае хрышчэньне, праз два пераехала вучыцца ва ўнівэрсытэт Брыгама Янга. Пазнаёмілася з Джэфам, яны пабраліся.

— Перад шлюбам здарылася так, — распавядае яна, — што мы спалі ў адным ложку. Джэф сказаў мне "дабранач" і павярнуўся сьпінай. Я была ўпэўненая, што ён стане да мяне чапіцца, і ня ведала, што мне трэба рабіць. Нашая вера забараняе дашлюбны сэкс, я была нэафіткай, адданай запаветам, але не хацела, каб ён пачуўся адкінутым.

Івона, як і Джэф, ня паліць, не ўжывае алькаголю, кавы і гарбаты. І, як і Джэф, думае, што ў будучыні паедзе некуды зь місіяй. Затое яна п'е кока-колу, хоць Джэф колы ня п'е (кола ўтрымлівае забаронены кафэін), і ганарыцца, што яе мужу-мармону з мармонскай сям'і, выгадаванаму ў мармонскім унівэрсытэце, гэта не перашкаджае.

— Бо Джэф, — кажа яна, — не такі, як іншыя мармоны зь Юты, ён цярпімы й адкрыты. Бо ёсьць мноства такіх мармонаў, якія, калі б дазналіся, што я п'ю кока-колу, ужо лічылі б мяне горшай, нявернай.



Помнік Брыгаму Янгу пры ўезьдзе ў Солт-Лэйк-Сыты.

І Івона сама падсьмейваецца, расказваючы пра колу:

— Чаму мармоны зь Юты крывяцца на кока-колу, але ядуць чакаляду? У чакалядзе ж яшчэ больш кафэіну.

І сама адказвае:

— Чакаляду тут елі заўжды, а колу п'юць чужынцы.

### Усё ў вас тут будзе

...Новая вера спадабалася амэрыканцам не адразу — мажліва, таму, што разбурала падмурак веры пабожных пурытанаў: Бог — гэта таямніца, а Сьміт казаў, што бачыў Бога; Бог вызначыў манагамную сям'ю, а Сьміт цьвердзіў, што Біблія загадвае шматжонства. Мармонаў выгналі з Новай Англіі, а калі яны аселі ў штатах Ілінойс і Місуры, іх білі, палілі пасевы й дамы, нішчылі друкарні й млыны, без суду садзілі ў турмы.

У 1832 г. набожны прэсьвітэрыянскі натоўп выкачаў прарока Сьміта ў смале і пер'і.

У 1838 г. пратэстанцкі судзьдзя вынес яму сьмяротны прысуд, пазьней адменены.

У 1844-м натоўп выцягнуў прарока з турмы й лінчаваў.

У 1846 г. губэрнатар Ілінойсу падпісаў дэкрэт аб выгнаньні мармонаў (афіцыйна адкліканы толькі праз 132 гады).

Патрэбныя былі вялікія адвага і вера, каб у XIX ст. на Ўсходзе і Сярэднім Захадзе быць мармонам. Аднак у наступную нядзелю пасьля таго, як натоўп лінчаваў прарока Сьміта, падчас набажэнства Царквы Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён, якое вёў Брыгам Янг, да іх дадалося некалькі вернікаў.

Брыгам Янг мусіў мець незвычайную моц. Ён хрысьціў добраахвотна навернутых у той час, калі пераход у мармонства быў роўны выгнаньню, ён правёў сьвятых апошніх дзён праз сухія прэрыі і Скалістыя Горы. У дадатак ён рабіў прароцтвы, якія ажыцьцяўляліся.

Калі мармоны паміралі з голаду ў даліне Вялікага Салёнага Возера, ён сказаў:

— Неўзабаве вы будзеце мець усяго больш і таньней, чым на Ўсходзе.

І што? У Каліфорніі выбухае залатая ліхаманка, праз Солт-Лэйк-Сыты цягнуцца караваны шукальнікаў, пакідаючы ў паселішчы мармонаў — адзіным паселішчы ў салёнай пустэльні — сабраную ў цяжкую дарогу маёмасьць.

Гэта Янг заклаў Солт-Лэйк-Сыты, паставіў Тэмпль, атачаны цудоўным садам, накрэсьліў плян гарадзкіх вуліцаў, спраектаваў пры храме Каўчэг — будынак, велізарны бліскучы дах якога нагадвае шкарлупіну яйка. У галоўнай залі Каўчэгу, вядомай ва ўсіх Злучаных Штатах цудоўнай акустыкай, прарокі двойчы на год абвяшчаюць Слова Божае.

Янг пусьціў ваду ў пустэльню, каб заміж салёных траваў і чэзлых кедрыкаў у ёй вырасьлі найлепшыя ў сьвеце яблыні, вішні, чарэшні, пэрсікі й абрыкосы.

Ён пераканаў мармонаў у неабходнасьці місіянэрскай службы, набываючы мноства новых вернікаў у Юце, Айдага, Каліфорніі, Арызоне, Нью-Мэксыцы. А перадусім ён

### Штат Юта

70% насельніцтва штата Юта, у якім жыве больш за два мільёны чалавек, – вернікі Царквы Ісуса Хрыста Сьвятых Апошніх Дзён, вядомыя яшчэ як мармоны (хоць самі яны пазьбягаюць такое назвы). У сталіцы гэтага штата Солт-Лэйк-Сыты месьціцца галоўная ўправа Царквы.

### Юта ў параўнаньні

У Юце адзін з самых нізкіх у ЗША паказчыкаў беспрацоўя (каля 3%). Штат займае другое месца па агульным узроўні здароўя насельніцтва, перадапошняе – па ўзроўні бюджэтных выдаткаў на мэдычнае абслугоўваньне і па колькасьці хворых на сэрца, дыябэт, рак, захворваньні лёгкіх, печані, сасудаў мозгу. Насельніцтва Юты – самае маладое ў ЗША: сярэдні ўзрост там 26,8 году (па ЗША – 34,3). Юта мае самы нізкі ўзровень абортаў і найменшую колькасьць пазашлюбных дзяцей. Узровень злачыннасьці ў штаце нязьменна трапляе ў дзясятку самых нізкіх у ЗША. У Юце самы высокі ў ЗША ўзровень адукацыі й найбольш пэрсанальных кампутараў на душу насельніцтва.

### Хто такія мармоны

Мармоны лічаць, што першапачатковая Царква Ісуса Хрыста зьнікла зь зямлі ў хуткім часе пасьля сьмерці апосталаў. Бязь іхнае ўлады і кіраўніцтва людзі пачалі зьвяртацца да іншых крыніцаў дзеля разуменьня веравучэньня, у выніку чаго мноства ясных і каштоўных ісьцінаў было страчана. За мінулыя стагодзьдзі з-за адсутнасьці апостальскай улады першапачатковая царква раскалолася на мноства плыняў.



Анёл Мароні перадае пліты Кнігі мармонаў Джозэфу Сьміту.

Сябе мармоны лічаць вернікамі сапраўднай Царквы Ісуса Хрыста, што была адноўленая ў першай палове XIX ст. разам з усёй першапачатковай уладаю, таямніцамі й арганізацыяй, уключна з жывым прарокам і апосталамі, праз якіх Хрыстос кіруе сваёй царквою. Каб адрозьніваць яе ў часе ад першапачатковай Царквы Ісуса Хрыста, адноўленая царква была названая Царквою Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён.

Сьвятым Пісьмом яны лічаць Біблію і летапіс пад назваю "Кніга Мармона: новыя сьведчаньні аб Ісусе Хрысьце", у якім утрымліваецца аповед аб служэньні Хрыста на Амэрыканскім кантынэнце пасьля ягонага ўваскрэсеньня. Прарокі, што жылі ў Амэрыцы, як і старазапаветныя, вялі летапіс (выгравіраваны на мэталёвых аркушах) аб адносінах Бога і людзей на гэтым мацерыку. Джозэф Сьміт (1805-1844), першы прарок царквы, пераклаў той летапіс. У мармонаў няма аплачванага духавенства. Сьвятаром можа быць любы варты гэтага мужчына-вернік. Узначальвае царкву прэзыдэнт (зараз гэта Гордан Гінклі), які лічыцца прарокам.

### Канфэрэнц-цэнтар у Солт-Лэйк-Сыты

У гонар новага тысячагодзьдзя і з улікам сусьветнага росту царквы ў сталіцы штату Юта быў пабудаваны канфэрэнц-цэнтар плошчай у 150 тыс. $м^2$. Там самая вялікая ў сьвеце заля для рэлігійных сходаў, разьлічаная на 21 тысячу месцаў. Найноўшая апаратура, якая забясьпечвае трансьляцыю сэсіяў з канфэрэнц-цэнтру, дазваляе данесьці працу паседжаньняў на 24 мовах па царкоўнай лічбавай спадарожнікавай сетцы да малітоўных дамоў ЗША, Канады, Мэксыкі, краінаў Карыбскага басэйну, Цэнтральнай і Паўднёвай Амэрыкі, часткі Ўсходняй Эўропы й Паўднёвай Афрыкі. У зале ёсьць арган, які мае 130 рэгістраў і налічвае агулам 7667 асобных трубаў. Гранітная падлога колеру чырвонага дрэва, панэлі зь вішнёвых й грушавых дошак, скульптуры, вітражы, карціны, кветкі, маленькія дрэўцы аздабляюць інтэр'ер канфэрэнц-цэнтру. На даху будынку месьціцца фантаны, вадаспады, дэкаратыўныя вазы, вялікі поплаў з сыстэмай арашэньня, растуць палявыя кветкі і 1400 дрэваў.

зьбярог і павялічыў маёмасьць царквы, не дапусьціў чарговых рэпрэсіяў і пагромаў, зрабіў так, каб баяліся не мармонаў, але мармонаў.

## Іншыя ня любяць нас, мы ня любім іншых

Пакуль я дабраўся да Юты, мяне кармілі дзіўнымі апавяданьнямі.

— Солт-Лэйк-Сыты — гэта мэтраполія, — казалі мне. — Але будзь асьцярожны ў правінцыі, у малых мястэчках, там цябе могуць напаткаць непрыемнасьці.

Мне казалі, што, нават знаходзячыся на бурлівай вуліцы, я буду самотны ў атачэньні непрызнасьці:

— Яны на нюх вызначаць, што ты чужы.

Мне раілі ня зьбочваць з галоўных дарог, хіба што ў нацыянальных парках: у Юце цудоўныя краявіды. Каб я сачыў за сваімі словамі, не пытаўся пра крамы зь півам і не дзівіўся, чаму ў гатэлях няма кавы. Словам, каб я паглядзеў цудоўныя каньёны, Тэмпль у Горадзе Салёнага Возера і Парк Сыты, дзе разгорнецца зімовая Алімпіяда, а потым як мага хутчэй выбіраўся зь Юты.

— Там усё так, як усюды ў ЗША: крамы, вуліцы, нават піўнух, — тлумачылі мне. — Але... атмасфэра, настрой — гэта цяжка перадаць. Гэта адчуваецца, і гэта непрыемна.

Калі я пытаў, чаму, мне адказвалі неканкрэтна, затое множылі прыметнікі:

— Яны дзіўныя, замкнёныя, падступныя, злыя. Ці ведаеш ты, што шмат хто зь іх мае многа жанок?

Ад часу драматычнага канфлікту Царквы сьвятых апошніх дзён са Злучанымі Штатамі мінула сто год, але гісторыя не забылася.

— Чаму многія людзі ня любяць мармонаў? — спытаўся я неяк у Івоны і Джэфа.

— А чаму ня любяць мурынаў, жыдоў, гомасэксуалістаў? — спыталіся яны.

Праз хвіліну Джэф дадаў:

— Іншыя ня любяць мармонаў таму, што мармоны іх ня любяць.

## Прароцтва Брыгама Янга

Праз два гады пасьля таго, як мармоны аселі ў салёнай даліне, Юта сталася часткай Злучаных Штатаў — дзяржавы, ад якой яны ўцяклі ў пустэльню. Сьвятыя апошніх дзён змыкаюць шэрагі, Брыгам Янг бароніць веру і сьвятую зямлю.

Таго, хто сумняваўся ў дактрыне, маглі зарэзаць; сям'ю Паршш выразалі, бо яна хацела вярнуцца на Ўсход. Мармоны ўзброіліся індзейцаў, каб тыя выразалі пасяленцаўнемармонаў, а калі гэта не давала плёну, паліцыя прарока Янга "Анёлы сьмерці" ладзіла засады на караваны, якія ішлі праз горы.

У Маўнтын Мэдаў "Анёлы" зьнішчылі дарэшты караван са 157 чалавек; забойцамі кіраваў прыёмны сын прарока Янга. Вашынгтон быў абураны, ён хацеў навесьці парадак. У Юту ўвайшлі войскі, якія толькі што перамаглі Мэксыку. Салдатаў чакала выпаленая прэрыя, трупы быдла, паваленыя масты. Армія заняла Солт-Лэйк-Сыты, але ў гэтым не было патрэбы. Горад абязьлюдзеў, сады былі высечаныя, аддзелы факельшчыкаў падпальвалі набітыя саломай дамы. "Анёлы сьмерці" нішчылі вайсковыя харчовыя транспарты; цяпер войска залежала ад мармонаў: яму пагражаў бы голад, калі б яно не падпісала міру.

Вашынгтон таксама хоча згоды, хаця войска прагне помсты; кожны ведае, хто забіваў і паліў. Таго прыёмнага сына расстралялі, астатнія забойцы трапілі пад суд. Але суды ў руках мармонаў; справу пра разьню ў Маўнтын Мэдаў спускаюць на тармазах, як і дзясяткі іншых.

Брыгам Янг абараніў мармонскую Зямлю Абяцаную. Калі ён вёў вернікаў у Юту, пракракаваў, што ніхто ніколі й нідзе ня будзе іх перасьледаваць. Ён стрымаў слова.

## Жонкі пракока

Калі Мэлькіёр Ваньковіч падарожнічаў праз Юту, мармонскія жонкі былі тэмай, якая цікавіла яго больш за ўсё. Ён папракаў Брыгама Янга, які нібыта меў 52 "паловы", хоць гісторыкі ўнівэрсытэту ў Прова цьвердзяць, што жанок у прарока было "ўсяго" зь дзясятак. Амаль у кожным спатканым мужчыну Ваньковіч бачыў мнагажэнца і з ахвотай цытаваў Марка Твэна, які неяк абедаў разам з пракокам Янгам. Падчас абеду ўвайшла жонка №11 з прэтэнзіяй, што ён падараваў брошку жонцы №6.

"У мяне тут 27 жонак, — сказаў прарок пісьменьніку, — усім трэ будзе даць па брошцы. Ды хіба гэта ўсё? Я ж у гарах і стэпах, у лясох і далох маю мноства жонак. Усіх іх я зьведаў. І бачыце, спадару, што робіцца: у момант мужчынскага ўздыму я даў шостаму нумару (адразу не магу прыгадаць імя) брошку вартасьцю 25 даляраў. Ці ведаеце вы, чым гэта скончыцца? — ён узяў алоўак. — За гэтую кароткую прыемнасьць я заплачу 2625 даляраў. А яшчэ буду бясконца параўноўваць, ці ня горшыя яны адна ад другой, і вяртаць. Нейкі пякельны госьць даў цішком аднаму дзіцяці сьвісток і ўцёк. Прымчаліся, каб даў і іншым. Ня верылі, што гэта даў ня я. Я паслаў сваіх "Анёлаў сьмерці", але яго не адшукалі. Я мусіў выдаць 110 сьвістокў — і цяпер у мяне з-за гэтых сьвісткоў увушшу сьвісьціць".

Калі Твэн убачыў жонак прарока (што старанна цытуе Ваньковіч), ён прызнаў, што шматжэнства мармонаў — не распуста, а хутчэй мужчынскі духоўны подзьвіг: "Такіх непрыгожых стварэньняў я ніколі раней ня бачыў".

Сам Ваньковіч бачыць у палігаміі крыніцу сучаснага мармонскага дабрабыту: "Брыгам Янг, які адмоўна ставіўся ў маладосьці да шматжэнства, стаўшы перад пэрспэктывай паходу на цалінную тэрыторыю, зразумеў, наколькі моцнай дапамогай яно было б. (...) За тры тыдні да пачатку выправы ён пабраўся шлюбам з 11 жонкамі ў працоўным веку — ад 17 да 40 гадоў".

У Юце гэтая колькасьць павялічылася да 52 жонак; быў сярод мармонаў, аднак, і рэкардсмэн з 74 жонкамі. Жонкі й дзеці маглі працаваць. "Цяпер разумею, — працягвае Ваньковіч, — чаму Янг, які меў некалькі дзясяткаў дзяцей, зарабіў мільёны і чаму край, куды ён прывёў некалькі сотняў людзей, на час яго смерці ў 1877 г. налічваў 140 тысячаў кампактнага, працавітага, багабойнага, кіраванага энэргічнай тэакратыяй насельніцтва".

Для Джэфа палігамія — гэта гісторыя яго царквы:

— Уяві сабе адзінокую кабету, якая жыла ў Юце сто гадоў таму. Яна б галадала, магла б нават памерці, а муж, хоць адзін на гурт, быў гарантыяй выжываньня. Зрэшты, палігамію практыкавалі толькі некалькі адсоткаў мармонаў; апроч таго, у 1890 г. царква забараніла шматжэнства.

У забытых сьветам закутках Юты, Айдага, Нэвады можна яшчэ й сёньня спаткаць паселішчы шматжэнцаў. Не прызнаныя царквой, яны лічаць сябе сапраўднымі мармонамі, бо жывуць так, як загадалі прарокі Сьміт і Янг. Закон супраць іх ня мае сілы: Юта — вялікая мармонская сям'я, усе могуць адшукаць супольных продкаў, а таму не даносяць на сваякоў.

## Мармоны ў Беларусі

**У Беларусі гэтая царква была зарэгістраваная ў 1993 г. На сёньня адзіная ў нас Менская парафія налічвае тры сотні вернікаў. Ёсьць сярод іх і моладзь, і старыя (адной пары — за восемдзесят), і студэнты, і вайскоўцы (мармонам не забаронена служыць у войску). Таксама ў Беларусі знаходзяцца 10 місіянэраў — дзевяць амэрыканцаў і немка. Свайго малітоўнага дому (дому сходаў) беларускія мармоны ня маюць, таму арандуюць памяшканьне ў Доме вэтэранаў (Янкі Купалы, 21), дзе зьбіраюцца штонядзелю а дзясятай. Гэтым летам, як і штогод, яны выпраўляюцца ў Нямеччыну, у тамтэйшыя храмы, дзеля атрымання сьвятых тайнаў.**

## Добра нам...

Прапрапрадзед прафэсара Ўолтэра Ўіпла належаў да тых некалькіх адсоткаў, якія мелі па некалькі жонак. Лінія прафэсара выводзіцца ад другой жонкі. Яны жылі ў Юце заўжды, не ўяўлялі сабе жыцьця дзе-небудзь іншым месцы.

— Я думаю, — распавядае Ўіпл, лінгвіст, прафэсар славістыкі ва ўнівэрсытэце Брыгама Янга, — што мы самыя шчасьлівыя людзі ў сьвеце. Калі б было іначай, якім цудам у царквы так павялічвалася б колькасьць вернікаў?

Прафэсар пытаецца: ці ёсьць у Амэрыцы іншы такі ж вялікі горад, як Солт-Лэйк-Сыты, дзе ня трэба замыкаць дом, аўтамабіль? Няма.

Якое веравызнаньне так багата ўвагі надае здароўю (нельга паліць, піць, ужываць харчовыя дабаўкі)? Аніводнае.

— Можа, гадоў сто пяцьдзясят таму мы былі занадта ўтрапёныя й фанатычныя. Але цяпер гэта мінула.

— А якія вы цяпер?

— Поўныя энтузіязму, радасныя, што ведаем праўдзівую веру. Зірні, колькі нашых хлопцаў і дзяўчат добраахвотна едуць зь місіяй. Прыйдзі ў Тэмпль — пабачыш, зь якім запалам маладыя місіянэры абвяшчаюць Слова Божае.

Сын прафэсара Ўіпла якраз вярнуўся зь Ляйпцыгу. Перш чым выехаць у Нямеччыну, ён прайшоў спэцыяльныя шкаленьне для місіянэраў, навучыўся цярплівасьці, лагоднасьці, паразуменьню. Ён прабыў у Ляйпцыгу два гады, хадзіў па дамах з пасланьнем прарока Мароні. Жыў сьціпла за грошы, дасыланыя з дому, як і тысячы ягоных раўналеткаў: на ўтрыманьне кожнага місіянэра сем'і адкладаюць па некалькі сотняў даляраў штомесяц, царква не дае ні цэнту.

Калі прафэсар Уіпл быў маладым, ён прабыў два гады ў місіі ў Швайцарыі. Пазьней быў кіраўніком місіі ў Польшчы. У ягоным кабінэце

Працяг на старонцы 12.



Гукі фанфараў абвяшчаюць адкрыцьцё шоў мармонаў на ўзгорку Кумора, дзе знаходзіцца пазалочаная статуя анёла Мароні. Шоў мармонаў адбываецца штолітень ад 1937 году і зьбірае каля 100 тыс. гледачоў.

# падзеі за тыдзень

## 5 тыс. штрафу "польскаму Лукашэнку"

**Анджэю Лепэру, дэпутату Сойму і лідэру партыі "Самаабарона", далі 20 тыс. злотых (5 тыс. даляраў) штрафу за абразу прэзыдэнта Квасьнеўскага і двух міністраў.** Анджэя Лепэра, што стаўся вядомы праз свае папулісцкія прамовы і абяцаньні "разабрацца з тымі, хто раскраў Польшчу", усё часьцей параўноўваюць з Лукашэнкам. У сярэдзіне 90-х Лепэр зьбіраўся нават прасіць палітычнага прытулку ў Беларусі.

## Дактароў падазраюць у забойстве

**7 чалавек арыштаваныя ў сувязі з гучнай справай больніцы хуткай дапамогі ў Лодзі. Гэта дактары і ўладальнікі пахавальных фірмаў. Сьледзтва пачалося два тыдні таму, калі журналісты *Gazety Wyborczej* і *Radio LodZ*** высьветлілі, што дактары хуткай дапамогі часам, каб атрымаць грошы ад бюро рытуальных паслуг, зь якімі мелі гешэфты, адмыслова не сьпяшаліся да пацыентаў, а то й "дапамагалі" ім памерці, выкарыстоўваючы лекі "Павулон". Сьледзтва працягваецца.

## 20 працэнтаў ад працэнтаў

**Ад 1 сакавіка ўладальнікі рахункаў у польскіх банках будуць вымушаныя плаціць 20% падатку ад працэнтаў, якія налічваюцца за ўтрыманьне грошай у банку.** Гэта тычыцца і беларусаў, якія апошнім часам ахвотна трымаюць свае грошы ў банках Польшчы.

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава**

## Ва Ўкраіне спрыяюць беларускай царкве

**Патрыярх Кіева і ўсяе Русі-Ўкраіны Філарэт на сустрэчы з протаярэем Іванам Спасюком** даў згоду на тое, каб сьвятары незарэгістраванай у Беларусі Аўтакефальнай праваслаўнай царквы атрымлівалі бясплатную духоўную адукацыю ва Ўкраіне. Каля 20 беларускіх юнакоў будуць вучыцца ў адпаведных установах Кіева, Роўна і Чарнігава.

## Арыштавалі Вольгу Корбут

**Вольгу Корбут, вядомую ў мінулым беларускую гімнастку,** вінавацяць у крадзяжы прадуктаў на суму 19 даляраў у адной з крамаў прыгараду Атланты (штат Джорджыя). З-пад арышту Корбут выпусьцілі пад залог у 600 даляраў. Паводле словаў самой гімнасткі, яна проста забылася свой кашалёк у машыне і пайшла па яго, каб расплаціцца. А вазок з прадуктамі, які ўзяла з сабой, зьбіралася пакінуць ля дзьвярэй крамы. Памочнік мясцовага шэрыфа, які падрабязна ахоўнікам у гэтым супэрмаркеце, кажа зусім іншае: быццам бы Вольга ўжо перакладала пакупкі — сыр, сіроп, фінікі, гарбату і прыправы — у сваю торбу, калі ён яе затрымаў. Тым часам былы трэнэр Корбут Рэнуальд Кныш, як паведамляе "Звязда", упэўнены, што так яно і было: у маладосьці, паводле яго слоў, за Вольгай таксама назіраліся дробныя "грашкі".

## Расейская армія скарачаецца

**Міністар абароны Расеі Сяргей Іваноў паведаміў, што на працягу 2001 г. "штатная колькасьць Узброеных сіл была скарочана на 91 тыс. вайскоўцаў".** За гэты пэрыяд было скарочана яшчэ й 14500 чалавек зь ліку цывільнага пэрсаналу арміі ды флёту. Як сказаў міністар, на 1 студзеня 2002 г. у расейскім войску налічвалася 1274 тыс. вайскоўцаў.

Штогод у расейскім войску ў перастрэлках, няшчасных здарэньнях і ад хваробаў гінуць каля 4500 салдатаў.

## "Выбірай" па-зымбабвійску

**Прэзыдэнт Зымбабвэ Робэрт Мугабэ назваў цяперашнія адносіны ягонай краіны з былой мэтраполіяй Вялікай Брытаніяй "палітычнай вайной".** Мугабэ вінаваціць брытанскія ўлады ў тым, што яны падтрымліваюць ягонага апанэнта на будучых прэзыдэнцкіх выбарах кандыдата ад партыі "Рух за дэмакратычныя рэформы" Моргана Цвангірая. Мугабэ назваў свайго суперніка брытанскай марыянэткай, абаронцам інтарэсаў белаксуркаў. Сябе ж Мугабэ называе абаронцам інтарэсаў чарнаскурых.

## Здарэньне ў Рыё-дэ-Жанэйра

**У чацьвер у Рыё-дэ-Жанэйра патокам паветра ад рэактыўнага самалёта, які ўзьлятаў, адкінула таксоўку, што заехала з трасы на ўзьлётную паласу.** Аўтамабіль праляцеў 25 мэтраў і прызямліўся на скалах бухты Гуанабара. Машына разьбілася, кіроўца шпіталізаваны зь пераломам асновы чэрапа і знаходзіцца ў коме. На думку дырэктара кампаніі, у якой працаваў таксіст, няшчаснае здарэньне адбылося па віне адміністрацыі аэрапорту, паколькі папераджальныя агні і знакі на ўзьлётнай паласе дрэнна бачныя.

## Славаччына: дэкларацыя самастойнасьці ад ЭЗ

**Парлямэнт Славаччыны, якая зьбіраецца неўзабаве ўвайсьці ў Эўразьвяз,** прыняў дэкларацыю пра незалежнасьць краіны ад Зьвязу ў выпадку, калі пастановы апошняга будуць пярэчыць хрысьціянскім каштоўнасьцям. Славацкія парлямэнтары захавалі таксама за сабой права прымаць рашэньні, адрозныя ад пастановаў Эўразьвязу, у галінах абароны жыцьця й годнасьці асобы, аховы сям'і, шлюбу і здароўя, а таксама ў сфэры асьветы і выхаваньня.

## Курдзкая мова як "замежная"

**Больш за дзесяць тысячаў курдзкіх студэнтаў і навучэнцаў разгарнулі ў Турэччыне кампанію за прызнаньне курдзкае мовы.** Ва ўнівэрсытэты і ўправы адукацыі ідуць пэтыцыі пра ўключэньне курдзкае мовы ў навучальную праграму. Восеньню турэцкая канстытуцыя пазбылася некаторых "лінгвістычных" абмежаваньняў: цяпер больш за 12 мільёнаў турэцкіх курдаў могуць карыстацца сваёй мовай "у прыватным парадку". Цікава, што патрабаваць яе вывучэньня ў школе — антыканстытуцыйна, бо паводле Асноўнага закону ў якасьці роднай можна вывучаць толькі турэцкую мову. Але курды знайшлі выйсьце і патрабуюць дазволіць ім вывучаць мову як замежную.

## Латвія: наступ на аборты

**У Латвіі абмежавалі права рабіць аборты.** Цяпер забіваць зародкаў можна толькі да 12 тыдняў, лекар павінен папярэдне растлумачыць кабеце ўсе наступствы і даць 72 гадзіны на роздум. Што праўда, лібэралы сьцьвярджаюць, што гэтыя абмежаваньні ўсё адно ня выправяць дэмаграфічнай сытуацыі ў краіне. Правая ж кажуць, што захаваньне ранейшага дазволу на спароны раўназначнае падтрымцы генацыду латыскага народу.

## Зьнік мільён грузінаў

**Грузінаў паменела на мільён. Паводле папярэдніх вынікаў нядаўняга перапісу, насельніцтва Грузіі складае 4,4 млн асобаў.** У 1989 г. у краіне жыло 5,5 млн чалавек.

## Не па самавар

**Беларуская дэлегацыя з 16 вайскоўцаў і прадстаўнікоў прамысловасьці на чале з намесьнікам генэральнага дырэктара канцэрну "Белрэсурсы" Аляксандрам Патанцавым зьезьдзіла ў Тульскую вобласьць.** Нашыя ўзброеныя састарэлі, насьпеў час іх мадэрнізаваць. Таму на расейскіх абаронных прадпрыемствах беларусы перадусім цікавіліся новымі сыстэмамі супрацьпаветранай абароны, прадукцыяй патроннага заводу, узорамі новых узбраеньняў для баявых машынаў дэсантных войскаў.

**Сяргей Рак**

## з усёй краіны

### Па выкліку – таксі і дзяўчынкі

**У Берасьці супрацоўнікі спэцслужбаў выявілі, што адна дыспэтчарка таксапарку прымала замовы на толькі на возьніцтва, але й на дастаўку кліентам дзяўчынак лёгкіх паводзінаў.** А "пракалолася" яна на тым, што прапанавала дзьвюх дзяўчат 20 і 19 год (адна з Навапольцку, другая з Камянецкага раёну) — па 50 даляраў за кожную — супрацоўнікам спэцслужбаў, замаскаваным пад "кліентаў".

### Банкаматаў будзе болей

**Сёньня на Берасьцейшчыне ёсьць толькі чатыры банкаматы, якія належаць "Беларусбанку" і ўсталяваныя ў абласным цэнтры.** У 2002 г. зьявіцца яшчэ 15. Паралельна зь імі на Берасьцейшчыне дзейнічае 35 электронных тэрміналаў, якія абслугоўваюць кліентаў, што маюць плястыкавыя карткі.

### У Стрыбаве будзе крама

**У вёсцы Стрыбава (Жабінкаўшчына) мясцовы прадпрымальнік купіў хату ды перарабляе яе на краму.** Зараз ён улагоджвае неабходныя юрыдычныя захады. На працягу году крама павінна запрацаваць.

### Не да сыру ды кілбасаў

**Напярэдадні Калядаў у сельскія крамы Іванаўскага раёну завезьлі кілбасу й тлустыя селядцы,** спадзеючыся, што пасьля перадкалядная посту сяляне кінуцца спустошаць пабагацелыя прылаўкі. Аднак многія прадукты так і зьлежыліся на паліцах крамаў. Людзі на вёсцы небагатыя і бяруць адно хлеб, соль ды крупы.

### Па конях!

**У гаспадарках Берасьцейшчыны паболела коней — да 20 тысячаў у калгасах і да 15 тыс. на прыватных падворках.** Прычым дагляданых сівых ды гнядых часьцяком нашмат лепш, чым якія трактары ці малатарні.

І.Хведаровіч, Берасьце

### Ізноў пра падпальшчыкаў

**У мінулым нумары "НН" пісала пра баранавіцкіх падлеткаў, якія нібыта аблілі й падпалілі 51-гадовага мужчыну.** Як высьветліла сьледзтва, пацярпелы выпіваў у гасьцёх. Гаспадары пасьля пайшлі спаць, пакінуўшы яго аднаго на кухні. Той, відаць, тамака і заснуў з цыгаркай. У кватэры выяўлены абгарэлы ўслон, канапа і фіранкі. Ачуняўшы ў шпіталі, мужчына пачаў вярзьці пра падлеткаў-падпальшчыкаў, што й сталася падставай для чутак. Цяпер ён адмаўляецца ад сваіх словаў, кажа, што нічога наагул з таго вечара не памятае.

### Затрымалі за хабар

**У пятніцу ў Баранавічах арыштаваны падчас атрымання хабару дырэктар мясцовага малочнага камбінату Трахім Гурыновіч.** Апэратыўнікі ўварваліся ў кабінэт, як толькі ён узяў грошы. Вартасьць хабару прыкладна 1000 даляраў. Гурыновіч ужо некалі быў асуджаны за раскраданьне маёмасьці, і невядома, чаму і як ён здолеў пасьля ўладкавацца кіраўніком на камбінат.

Руслан Равяка, Баранавічы

### Мост у Парэ ацалеў

**Праз паводку на рацэ Стыр ледзь не разбурыўся драўляны аўтамабільны мост каля вёскі Парэ Пінскага раёну, пабудаваны летась.** У ноч на 2 лютага вада ў рацэ паднялася на 30 см, і праз суткі крыгі таўшчынёй паўмэтра маглі зьнесьці мост. Каб прадухіліць пагрозу разбурэньня, сапёрам давялося ўзрываць лёд. Вайскоўцы працягваюць дзяжурыць на рацэ.

### Вайскоўцы-ўцекачы

**Мінулай ноччу трое каравульных адной з вайсковых часьцей, што ва Ўруччы, разам зь лейтэнантам Аляксандрам Дзявяткіным разьзброілі варту і дзяжурнага, сапсавалі сродкі сувязі і, узброіўшыся 2 пісталетамі й 4 аўтаматамі з больш чым трыма тысячамі патронаў, зьехалі на дзяжурнай машыне.** Пры гэтым яны захапілі з сабой 17 чалавек. Ужо ў 6.45 раніцы іх затрымалі ў вёсцы Астрошыцы Лагойскага раёну. Пацярпелых няма, узбуджаная крымінальная справа.

Б.Т.

### 5 км на карачках

**За студзень у хірургічны кабінэт смургонскага шпіталю зьвярнуліся зь пераломамі 112 чалавек, 21 зь іх — дзеці.** Часьцей за ўсё траўмуюцца вэлясыпэдысты, п'яніцы і старыя кабеты. Адна бабулька зламала нагу, дык 5 км паўзла, як магла, да шашы на карачках.

### Лавіце ды плаціце

**На Вішнеўскім вадасховішчы зазвычай багата аматараў зімовай рыбалкі.** Але апошнім часам за адпачынак з вудай сталі штрафаваць — не папярэдзіўшы, не паставіўшы ніводнай шыльды аб платнай рыбалцы. Па 10 тысячаў дзяруць інспэктары Мядзельскага лясьніцтва з кожнага рыбака, абгрунтоўваючы свае дзеяньні тым, што вадасховішча належыць Нацыянальнаму парку Беларусі. Можна, канечне, купіць квіток за 2,5 тыс., які дазваляе безь перашкод сядзець ля лункі цэлы дзень, але да вёскі, дзе знаходзіцца лясьніцтва, дарога існуе толькі тэарэтычна. Яшчэ ніхто з смургонскіх не адважыўся туды дабрацца. І толькі тутэйшым вяскоўцам адпачынак на возеры нічога не каштуе. Трэба толькі спраўку зь сельсавету мець, што ты тут жывеш. І вуду.

### 68 прытонаў

**У Смургонях афіцыйна зарэгістравана 10 кватэр, гаспадары якіх вядуць антыграмадзкі лад жыцьця** — зьбіраюць шумныя кампаніі, перахоўваюць скрадзеныя рэчы, парушаюць нормы эксплюатацыі газу, ня плацяць за сьвятло, п'юць, б'юцца, жанчынаў нядобрых водзяць. Прытоны, адным словам. Неафіцыйных злачынных хат яшчэ больш — 58. Каб паставіць іх на ўлік у міліцыі, патрэбны заявы суседзяў. Але людзі баяцца заяўляць, каб не адпомсьцілі.

Тацяна Скарынкіна, Смургоні

### Засьпіртаваныя Дайлідкі

**Нядаўна супрацоўнікі памежнай камэндатуры, міліцыі й падатковай інспэкцыі затрымалі ля вёскі Дайлідкі грузавы "мэрсэдэс", якім кіраваў жыхар Астраўцу К.** У аўтамабілі было дзевяць 200-літровых бочак са сьпіртам. Дакумэнтаў на груз у кіроўцы ня выявілася. А назаўтра каля тых самых Дайлідак памежнікі знашлі пакінуты аўтамабіль УАЗ-452 зь сямю аналагічнымі бочкамі сьпірту. Гаспадар грузу пакуль не зьявіўся і наўрад ці зьявіцца.

Мар'ян Вянгроўскі, Астравец

### Прыехаў протаярэй

**На тым тыдні памежную вайсковую часьць №2044 наведаў начальнік аддзелу па сувязях з Узброенымі Сіламі (ёсьць гэткі ў Экзархаце) протаярэй айцец Сергій.** Бацюшка гутарыў з салдатамі, адказваў на пытаньні, падараваў ім Біблію, праваслаўны каляндар і рэлігійныя кнігі. Памежнікі, у сваю чаргу, паказалі госьцю вайсковую частку і яе гонар — сабачы гадавальнік.

Ірына Ясінская, Смургоні

### Новае дзіцячае аддзяленьне

**Пасьля працяглай рэканструкцыі здадзенае ў эксплюатацыю дзіцячае аддзяленьне гарадзкой лякарні імя Сямашкі.** Цяпер перадэзду ў новыя будынкі або тэрміновага аднаўленьня старых чакаюць станцыя хуткай дапамогі, псыханэўралягічны, тубэркулёзны, скурна-вэнэралягічны дыспансэры, радзільны дом.

### Крамаў менее

**11 крамак зачыненыя з пачатку году ў Аршанскім раёне.** Такое рашэньне мясцовая ўлада тлумачыць стратнасьцю гандлю на вёсцы.

Віктар Лютынскі, Ворша

— калёнка Алеся Бяляцкага —

## Беларусы ў горадзе



Тыя, хто размаўляе па-беларуску ў горадзе, маюць, сярод усіх іншых, праблему — якой беларускай мовай гаварыць з расейскамоўнымі. Бо ж гарадзкая беларуская мова — гэта ня мова "Звязды" і БТ, да якой збольшага прызвычаеныя пасіўныя носьбіты мовы. І беларускамоўны чалавек стаіць перад дылемай: ці спрашчаць, вульгарызаваць сваё звыклае маўленьне, ці ўвесь час сутыкацца зь непаразуменьнем, усьмешкамі й перапытваньнямі.

Некаторыя мае знаёмыя лічаць, што трэба прывучаць народ да нармальнага маўленьня, і таму ўпарта просяць у кавярнях прынесьці "філіжанку кавы" , а ў крамах паказаць "масянжовы імбрычак". І часта гэта дае жаданы эфэкт. Аднаго майго знаёмага, які папрасіў у кавярні "кубачак чаю", інстынктыўна баючыся, што афіцыянтка не зразумее, тая радасна паправіла: "Вы няправільна кажаце, па-беларуску слушна будзе "гарбата", а ня "чай".

Часта ў расейскамоўных прабіваецца дзіўнае жаданьне папраўляць цябе, "бо па-беларуску ніхто чыста размаўляць ня ўмее, і вы ў тым ліку". Гэта зьвязана з няўсьвядомленым комплексам віны перад беларускай мовай. Так, нядаўна, у кветкавым аддзеле адчыталі майго дванаццацігадовага сына, які штосьці там спытаўся пра сымбіёз зялёнага і чырвонага кактусаў. Прадаўшчыца сказала, што "глядзецць" — гэта не па-беларуску". Давялося ісьці ў кветкавы аддзел і гучна абмяркоўваць зь ім перад прадаўшчыцай эстэтычныя перавагі кактусаў з доўгімі іголкамі перад кароткаігольчатымі, найперш дзеля таго, каб супакоіць яго, дый каб і ёй паказаць — усё нармальна, прывыкай.

Беларускамоўных у гарадах яшчэ ня так багата, каб яны маглі пачувацца нязмушана. Найбольш складанасьцяў мова прыносіць людзям ціхмяным і сьціплым. Другая знаёмая распавядае: "Я так не люблю, каб на мяне зьвярталі ўвагу, а тут толькі пачнеш размаўляць — уся ўвага на цябе. Ні ў цырульні з кабетамі пагаманіць, ні ў краме ў чарзе. Стаіш, маўчыш, як вады ў рот набраўшы. Стамілася, так хочацца быць такой, як ўсе".

Некаторыя ў выніку пачынаюць гаварыць на спрошчаным валапюку. Яшчэ адна мая знаёмая накінулася на мяне, калі я сказаў: "перыць бялізну". "Вось таму і лічаць беларускую мову "кардвай", што вы прыдумляеце гэткія слоўцы", — сказала яна мне. "Добра, хай будзе "праць", — паправіўся я, — "перыць" — гэта нашае, усходнепаляшуцкае. Але "праць" — гэта і па-польску, па-чэску, па-украінску, і, упэўнены, яшчэ на некалькіх славянскіх мовах. Усе славяне "пралі", чаму мы павінны адмаўляцца ад гэтага?" Толькі для расейскамоўных "праць" — слова цяжкаватае. Мая знаёмая падсьвядома пралічыла гэта і палічыла за лепшае ўжываць слова "мыць".

Іншы мой знаёмы нават з замежнікамі — амэрыканцамі, немцамі, віетнамцамі — размаўляе па-беларуску. На расейскую не пераходзіць. "Раз прыехалі — хай вучаць", — перакананы ён.

Беларуская гарадзкая мова — гэта ўжо не фэномэн, гэта паказьнік культуры нашага грамадзтва. Усё часьцей і часьцей псыхалягічныя праблемы замяняюцца праблемамі філялягічнымі. Зьнікаючы ў вёсцы, мова жыве і разьвіваецца ў горадзе — так яно і мае быць.

Алесь Бяляцкі

### Новыя прызначэньні

**Аляксандар Лукашэнка прыняў 1 лютага шэраг кадравых рашэньняў.** Ён прызначыў: Аляксандра Шчурка — намесьнікам міністра ўнутраных справаў і начальнікам міліцыі грамадзкай бясьпекі і спэцыяльнай міліцыі; Леаніда Глухоўскага — намесьнікам міністра ўнутраных справаў і начальнікам Сьледчага камітэту МУС Беларусі; Мікалая Кохана — намесьнікам старшыні Дзяржаўнага камітэту пагранічных войскаў і начальнікам выведкі пагранічных войскаў; Уладзімера Капліенку — намесьнікам старшыні Дзяржкамітэту пагранічных войскаў па ўзбраеньні й начальнікам узбраеньня пагранічных войскаў; Яўгена Камарніцкага — намесьнікам старшыні Дзяржаўнага камітэту пагранічных войскаў па тыле і начальнікам тылу пагранічных войскаў. Васіль Пугачоў стаў першым намесьнікам міністра замежных справаў; Аляксандар Герасіменка, Аляксандар Міхневіч і Аляксандар Мычоў — намесьнікамі міністра замежных справаў; Сяргей Філіпаў — першым намесьнікам міністра архітэктуры і будаўніцтва; Міхаіл Абрамчук, Анатоль Нічкасаў і Леанід Сакалоўскі — намесьнікамі міністра архітэктуры і будаўніцтва; Мікалай Верхавец — першым намесьнікам міністра транспарту і камунікацыяў Беларусі; Аляксандар Мінін — першым намесьнікам міністра транспарту і камунікацыяў Беларусі й дырэктарам дэпартамэнту "Белаўтадар"; Аляксандар Несьцяровіч і Ўладзімер Уласеня — намесьнікамі міністра транспарту і камунікацыяў; Віталь Калугін — намесьнікам міністра юстыцыі.

## навіны за тыдзень

### Пляны "Газпрому" няясныя

**4 лютага адбылося пасяджэньне рады "Газпрому", прысьвечанае інвэстыцыйнай і экспартнай палітыцы.** Паводле словаў сябра рады Барыса Фёдарава, было вырашана адмовіцца ад пабудовы новага газаправоду праз Беларусь і Польшчу. Замест гэтага канцэрн зьбіраецца скончыць будаўніцтва галіны газаправоду "Ямал—Эўропа" і павялічыць ягоную прапускную здольнасьць. Аднак віцэ-прэм'ер Віктар Хрысьценка абвергнуў гэтае паведамленьне.

### Гасьцінная Нямеччына

**Летась нямецкая амбасада выдала беларусам болей за 112 тысячаў візаў — нашмат больш, чым амбасада якой іншай краіны.** Візы атрымалі 97% асобаў, якія зьвярталіся па іх. Найчасьцей прычынай адмовы было паданьне непраўдзівых зьвестак. Штогод колькасьць асобаў, якія жадаюць зьезьдзіць у Нямеччыну, павялічваецца на 10—15%.

### Расейскія спартоўкі выступяць за Беларусь

**Міжнародны алімпійскі камітэт дазволіў чатыром расейскім спартоўкам выступаць за Беларусь на XIX зімовых Алімпійскіх гульнях.** Гаворка ідзе пра 37-гадовую алімпійскую чэмпіёнку 1988 г. па лыжных гонках Сьвятлану Нагейкіну, як калег па лыжнай камандзе 27-гадовых сёстраў Веру і Натальлю Зяцікавых, а таксама пра 21-гадовую фігурыстку Юлію Салдатаву.

Э.Л.

### 99 толькі для Грэцкага

**Ніводзін хакеіст клюбу НХЛ *"Los Angeles Kings"* ня будзе граць пад нумарам 99,** пад якім выступаў легендарны хакеіст беларускага паходжаньня Ўэйн Грэцкі. Так вырашылі ўладальнікі каманды. Грэцкі, які зьяўляецца аўтарам 60 рэкордаў НХЛ, граў у складзе каманды 8 гадоў. Цяпер 41-гадовы хакеіст выконвае абавязкі старшыні алімпійскага камітэту Канады.

Ян Мацур

## Дзень балатоў



**2 лютага насельнікі беларускіх пушчаў і балотаў адзначалі Міжнародны дзень водна-балоцістых угодзьдзяў. У гэты дзень 1971 году ў іранскім горадзе Рамсар было падпісанае пагадненьне пра захаваньне важных у плянэтарным маштабе балотаў. На сёньня больш за сто краінаў зьяўляюцца ўдзельнікамі Рамсарскай канвэнцыі. 982 тэрыторыі складаюць сьпіс балотаў сусьветнага значэньня, а іх агульная плошча перавысіла 71 млн. гектараў.**

**Беларусь ратыфікавала Рамсарскую канвэнцыю ў 1999 г. Статус першага Рамсарскага ўгодзьдзя на нашай тэрыторыі мае балота Спораўскае, што ў абалоне Ясельды. Гэта ці ня самы буйны ў Эўропе комплекс абалонных нізінных балотаў мэзаторфнага тыпу. Агульная ягоная плошча складае каля 135 км². Нягледзячы на зьмены клімату і мэліярацыю, яно застаецца адным з самых натуральных нізінных балотаў у Эўропе. Спораўскае — адно з самых буйных у сьвеце месцаў жыцьця вяртлявай чарацянкі — птушкі, 60% папуляцыі якой жыве ў Беларусі.**

Дзьмітры Галубоўскі, Ігар Бышнеў

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Альховічы Вялейскага пав. Віленскай губ.** У аднаго чалавека на хаўтурах жонкі гульня дайшла да таго, што адзін хлопец, Каятан, зь сьмелымі жартамі прыстаў да дачкі нябожчыцы. Дзеўка нарабіла крыку, прыбег бацька на ратунак, але папаў крэпка каменем па галаве, што яго абамлеўшага, аблітага крывёю паднялі, ён яшчэ і цяпер хварэе.

У вёсцы **Глыбочанах** пайшлі двое п'яных паляваць на ваўкоў. Адзін зь іх выстраліў у зьвера, але папаў шротам у твар таварышу.

Зьмітрок Бядуля. 2 (15) лютага 1912. № 5

# Беларусы ў Солт-Лэйк-Сыты

**Для незалежнай Беларусі гэта трэція зімовыя гульні. Упершыню самастойнай камандай нашыя спартоўцы выступілі ў 1994 г. у нарвэскім Лілехамэры. Тады беларусы прывезьлі з краіны вікінгаў два срэбныя мэдалі — зарабілі іх біятляністка Сьвятлана Парамыгіна і канькабежац Ігар Жалязоўскі. Не ўзялі мы золата і чатыры гады таму на алімпійскіх гульнях у Нагана — выступілі яшчэ горай, чым у Лілехамэры, атрымалі толькі два бронзавыя мэдалі (фрыстайліст Зьміцер Дашчынскі і біятляніст Аляксей Айдараў).**

Дый зараз нашая каманда мае найбольшыя шанцы ў біятлёне і фрыстайле. У біятлёне гэта як індывідуальныя гонкі (тут спадзеў на Аляксея Айдарава, Алега Рыжанкова, Вадзіма Сашурына), так і мужчынская эстафэта, дзе да вышэйназваных трох далучыцца яшчэ адзін лыжнік — ці Рустам Валіулін, ці Аляксандар Сыман.

Рэальна беларусы могуць заваяваць мэдалі і ў фрыстайле, дакладней у ягоным відзе — акрабатыцы. Шанцы ёсьць і ў Алы Цупер, якая здабыла нядаўна золата на Кубку сьвету ў Лэйк-Плэсыдзе, і ў Аляксея Грышына, што ідзе другім у агульным заліку Кубку сьвету.

Яшчэ месяц таму ў беларускіх аматараў спорту не было надзеяў на канькабежны спорт. Але пры канцы студзеня Анжаліка Кацюга ўзяла золата на Чэмпіянаце сьвету ў Нарвэгіі. Ейная дыстанцыя 500 і 1000 м.

Амаль няма надзеяў на лыжныя гонкі. На сусьветных першынствах нашыя лыжнікі ў найлепшым выпадку трапляюць у другі дзясятак. Праўда, у нядаўнім інтэрвію "Спартовай панараме" Сьвятлана Нагейкіна, алімпійская чэмпіёнка Калгары (1988), цьвёрда запэўніла, што здабудзе мэдаль. Пабачым.

І, несумненна, будзем "хварэць" за нашую хакейную дружыну.

Хакейны алімпійскі турнір складаецца з 14 камандаў. Каб трапіць у наступны раўнд, беларусам трэба заняць першае месца ў сваёй кваліфікацыйнай групе (апрача нас, у яе ўваходзяць Украіна, Францыя, Швайцарыя). У другой такой самай кваліфікацыйнай групе — Славакія, Аўстрыя, Нямеччына, Латвія. Пераможцы ў кожнай групе трапляюць у групы вышэйшага ўзроўню: "C" (Расея, ЗША, Фінляндыя) і "D": (Канада, Чэхія, Швэцыя). У "лягчэйшую" групу "C" трапіць каманда, якая заняла вышэйшае месца на Чэмпіянаце сьвету ў 1999 г. Зборная Славакіі была тады на 7-м месцы, Беларусь — на 9-м, Аўстрыя — на 10-м, Латвія — на 11-м, Нямеччына — увогуле на 20-м.

Такім чынам, калі беларусы перамагаюць у сваёй групе, а ў суседняй перамагаюць славакі, то славакі трапляюць у групу з Расеяй, ЗША, Фінляндыяй. А беларусы будуць біцца з Канадай, Чэхіяй, Швэцыяй. Калі ў суседняй групе перамагаюць латышы, аўстрыйцы ці немцы, беларусы трапяць у групу з расейцамі, ЗША, Фінляндыяй.

Спаборніцтвы на адкрытым паветры (лыжныя гонкі, біятлён, фрыстайл, паўночнае дваябор'е) будуць ладзіцца ў Юце раніцай ці ўдзень — то бок па нашым часе сканчацца яны мусяць максымум апоўначы. Горш з канькавымі відамі спорту, якія часам будуць праходзіць там пад вечар.

Мы падамо *беларускі час* спаборніцтваў, які розьніцца ад Солт-Лэйк-Сыты на 9 гадзінаў уперад, а ўжо Вам, шаноўныя чытачы, выбіраць, чым карыстацца — БТ, расейскімі каналамі ці "Эўраспортам". У Юту вылецелі 8 беларускіх тэлевізійнікаў. Яны абяцаюць паказаць у жывым этэры ўсе мужчынскія гонкі біятляністаў, мужчынскі і жаночы фіналы па фрыстайле, хакейныя матчы з Украінай і Швайцарыяй, забегі на 500 і 1000 м у канькабежак-жанчынаў. Будуць працаваць ужывую таксама "Эўраспорт" і "НТВ-спорт".




**Нашая галоўная надзея на мэдалі — Вадзім Сашурын. Заваяваўшы тытул чэмпіёна сьвету сярод юніёраў у 1989 годзе, Вадзім з зайздроснай пэрыядычнасьцю працягвае зьбіраць узнагароды. Чэмпіён сьвету ў каманднай гонцы ў 1996 г., эстафэце ў 1999 г., двойчы ўзяў срэбра на чэмпіянаце сьвету 2001 г. На мінулых Алімпійскіх гульнях у эстафэце заняў 4-е месца. Гэтым разам зычым Вадзіму ўсё ж дасягнуць верхняй прыступкі п'едэсталу. І не аднойчы...**

**Асоль Сьлівец, прыгажуня з загадкавым імем. Яна ўжо тройчы заваёўвала бронзавыя мэдалі: на Кубку Эўропы ў 2001 годзе, чэмпіянатах сьвету сярод юніёраў у 2000 і 2001 гадах. А ёй жа яшчэ няма 20-ці!**

# Склад беларускай алімпійскай зборнай

Капітан алімпійскай зборнай — біятляніст Алег Рыжанкоў, кіраўнік дэлегацыі — міністар спорту й турызму Яўген Ворсін.

**Біятлён:** Аляксей Айдараў (1974), Рустам Валіулін (1976), Алег Рыжанкоў (1967), Вадзім Сашурын (1970), Аляксандар Сыман (1977), Ксенія Зікункова (1979), Яўгенія Куцапалава (1978), Людміла Лысенка (1973), Вольга Назарава (1977), Алена Хрусталёва (1980). **Лыжы:** Дзяніс Вераб'ёў (1979), Раман Віралайнен (1981), Сяргей Далідовіч (1973), Аляксандар Саньнікаў (1971), Мікалай Семяняка (1976), Аляксей Трыгубаў (1971), Аляксандар Шалак (1980), Натальля Зяцікава (1974), Вера Зяцікава (1974), Натальля Каліноўская (1977), Алена Калугіна (1972), Вікторыя Лапаціна (1981), Сьвятлана Нагейкіна (1965), Ірына Скрыпнік (1970). **Паўночнае дваябор'е** (скачкі на лыжах з трампліну + гонка перасьледу): Сяргей Захаранка (1974). **Скачкі на лыжах з трампліну:** Андрэй Лыскавец (1974). **Фрыстайл:** Аляксей Грышын (1979), Дзьмітры Дашчынскі (1977), Дзьмітры Рак (1976), Асоль Сьлівец (1982), Ала Цупер (1979). **Хуткасны бег на каньках:** Анжаліка Кацюга (1970), Сьвятлана Чапельнікава (1979), Аляксей Хатылёў (1983), Ігар Макавецкі (1984). **Фігурнае катаньне:** Сяргей Давыдаў (1979), Юлія Салдатава (1981). **Шорт-трэк:** Юлія Паўловіч (1978). **Хакей: варатары** — Андрэй Мезін (1974, "Кепіталз", Нямеччына), Леанід Фацікаў (1968, "Касэль", Нямеччына), Сяргей Шабанаў (1974, "Мэталюрг" (Новакузьнецк), Расея); **абаронцы** — Аляксандар Журык (1975, "Крылы Саветаў", Расея), Уладзімер Копаць (1971, "Нафтахімік", Расея), Алег Мікульчык (1964, "Хімік", Расея, Д2), Алег Раманаў (1970, "Поўначсталь", Расея), Алег Хмыль (1970, "Лада", Расея), Ігар Матушкін (1965, "Шэлефтэа", Швэцыя, Д2), Сяргей Стась (1974, "Крэфэльд"), Аляксандар Макрыцкі (1971, "Абэрхаўзэн", абодва Нямеччына); **нападнікі** — Аляксандар Андрыеўскі (1969, "Хімік", Д2), Алег Антоненка (1971), Андрэй Расолька (1968, абодва — "Поўначсталь"), Вадзім Бекбулатаў (1970, "Дынама-Энэргія", Д2), Канстанцін Кальцоў (1981, "Спартак" Масква), Аляксей Калюжны (1977, "Мэталюрг" (Магнітагорск)), Зьміцер Панкоў (1974, "Мэталюрг" (Новакузьнецк), Андрэй Скабелка (1970, "Салават Юлаеў"), Уладзімер Цыплакоў (1969, "Ак-Барс", усе дзевяць — Расея); Андрэй Кавалёў ("Абэрхаўзэн"), Васіль Панкоў ("Аўгсбург", абодва — Нямеччына); Зьміцер Дудзік (1977, "Гомель").

# Беларускія дні ў Солт-Лэйк-Сыты

| Дзень | від | пол | час |
|---|---|---|---|
| **Пятніца, 8 лютага** | Скачкі на лыжах з трампліну. 90 м. Кваліфікацыя | Мужчыны | 18.00—20.00 |
| | Урачыстае адкрыцьцё XIX-х зімовых Алімпійскіх гульняў | | 03.00—06.00 |
| **Субота, 9 лютага** | Лыжныя гонкі. 15 км | Жанчыны | 18.00—20.30 |
| | Лыжныя гонкі. 30 км | Мужчыны | 21.00—23.00 |
| | Паўночнае дваябор'е. Скачкі на лыжах з трампліну. 90 м | Мужчыны | 18.00—20.15 |
| | Хакей. Беларусь — Украіна | | 23.00 |
| **Нядзеля, 10 лютага** | Скачкі на лыжах з трампліну. 90 м. Фінал | Мужчыны | 17.30—20.00 |
| | Паўночнае дваябор'е. Індывідуальная гонка на 15 км | Мужчыны | 18.00—19.00 |
| | Хуткасны бег на каньках. 3000 м | Жанчыны | 22.00—00.30 |
| **Панядзелак, 11 лютага** | | | |
| | Біятлён. Індывідуальная гонка на 15 км | Жанчыны | 20.00—0.30 |
| | Біятлён. Індывідуальная гонка на 20 км | Мужчыны | 20.00—0.30 |
| Аляксей Айдараў. Біятлён | Хуткасны бег на каньках. 500 м | Мужчыны | 22.00—23.30 |
| | Хакей. Беларусь — Францыя | | 04.00 |
| **Аўторак, 12 лютага** | Скачкі на лыжах з трампліну. 120 м. Кваліфікацыя | Мужчыны | 17.30—20.00 |
| | Лыжныя гонкі. 10 км. Клясычны стыль | Жанчыны | 18.00—22.30 |
| | Лыжныя гонкі. 15 км. Клясычны стыль | Мужчыны | 18.00—22.30 |
| Анжаліка Кацюга. Канькі | Хуткасны бег на каньках. 500 м | Мужчыны | 22.00—23.00 |
| | Фігурнае катаньне. Кароткая праграма | Мужчыны | 02.15—06.15 |
| **Серада, 13 лютага** | Скачкі на лыжах з трампліну. 120 м. Фінал | Мужчыны | 17.30—20.00 |
| | Біятлён. 10 км. Спрынт | Мужчыны | 20.00—00.00 |
| | Біятлён. 7,5 км. Спрынт | Жанчыны | 20.00—22.30 |
| | Хакей. Беларусь — Швайцарыя | | 01.00 |
| | Хуткасны бег на каньках. 500 м | Жанчыны | 02.00—03.30 |
| Алег Рыжанкоў. Біятлён | Шорт-трэк. 1500 м. | Жанчыны | 03.00—06.30 |
| **Чацьвер, 14 лютага** | Лыжныя гонкі. Гонка Гундэрсэна | | |
| | (клясычны стыль + вольны стыль). 10+10 км. | Мужчыны | 18.15—21.45 |
| | Хуткасны бег на каньках. 500 м. Фінал | Жанчыны | 02.00—03.30 |
| | Фігурнае катаньне. Адвольная праграма | Мужчыны | 02.45—07.00 |
| | Хакей. А2—В2 | | 05.00 |
| Юлія Салдатава. | Хакей. А3—В3 | | 00.00 |
| Фігурнае катаньне | Хакей. А4—В4 | | 06.00 |
| **Пятніца, 15 лютага** | Лыжныя гонкі. Гонка Гундэрсена. 5+5 км | Жанчыны | 18.00—23.00 |
| | Хакей. Расея — кваліфікант 1 | | 20.00 |
| | Хакей. Чэхія — кваліфікант 2 | | 04.00 |
| Сяргей | Хакей. Канада — Швэцыя | | 01.00 |
| Захаранка. Лыжнае дваябор'е | Хакей. Фінляндыя – ЗША | | 05.45 |
| **Субота, 16 лютага** | Біятлён. Гонка перасьледу. 12,5 км | Мужчыны | 18.00—20.00 |
| | Біятлён. Гонка перасьледу. 10 км | Жанчыны | 21.00—23.00 |
| | Фрыстайл. Акрабатыка. Кваліфікацыя | Мужчыны | 19.00—22.00 |
| | Фрыстайл. Акрабатыка. Кваліфікацыя | Жанчыны | 19.00—22.00 |
| | Шорт-трэк. 500 м. Фінал | Жанчыны | 03.00—07.00 |
| Аляксей Грышын. | Хакей. Фінляндыя — кваліфікант 1 | | 05.45 |
| Фрыстайл | Хакей. ЗША — Расея | | 06.30 |
| **Нядзеля, 17 лютага** | Лыжныя гонкі. Эстафэта 4х10 км | Мужчыны | 18.00—20.30 |
| | Хуткасны бег на каньках. 1000 м | Жанчыны | 02.15—04.15 |
| | Хакей. Канада — кваліфікант 2 | | 04.00 |
| | Хакей. Швэцыя — Чэхія | | 01.00 |
| **Панядзелак, 18 лютага** | | | |
| | Біятлён. Эстафета 4х7,5 км | Жанчыны | 20.30—22.30 |
| | Фрыстайл. Акрабатыка. Фінал | Жанчыны | 21.00—22.00 |
| | Хакей. ЗША — кваліфікант 1 | | 20.00 |
| Алла Цупер. Фрыстайл | Хакей. Расея — Фінляндыя | | 22.30 |
| | Хакей. Чэхія — Канада | | 01.00 |
| | Хакей. Швэцыя — кваліфікант 2 | | 04.00 |
| **Аўторак, 19 лютага** | Лыжныя гонкі. 1,5 км. Спрынт | Жанчыны | 18.00—23.30 |
| | Лыжныя гонкі. 1,5 км. Спрынт | Мужчыны | 18.00—23.30 |
| | Фрыстайл. Акрабатыка. Фінал | Мужчыны | 21.00—22.00 |
| Дзьмітры Дашчынскі. | Хуткасны бег на каньках. 1500 м | Мужчыны | 22.00—00.30 |
| Фрыстайл | Фігурнае катаньне. Кароткая праграма | Жанчыны | 02.15—06.30 |
| **Серада, 20 лютага** | Біятлён. Эстафета 4х7 км | Мужчыны | 20.00—22.00 |
| | Хуткасны бег на каньках. 1500 м | Жанчыны | 22.00—00.00 |
| Юлія | Шорт-трэк. 1000 м. Кваліфікацыя | Жанчыны | 03.00—06.00 |
| Паўловіч. | Хакей. Чвэрцьфіналы | | 20.00, 22.30, 01.00, 05.15 |
| Шорт-трэк | | | |
| **Чацьвер, 21 лютага** | Паўночнае дваябор'е. Спрынт. Скачкі з трампліну 120 м | | 18.30—20.30 |
| | Лыжныя гонкі. Эстафэта. 4х5 км | Жанчыны | 21.30—22.45 |
| | Фігурнае катаньне. Адвольная праграма | Жанчыны | 02.45—07.00 |
| **Пятніца, 22 лютага** | Паўночнае дваябор'е. 7.5 км. Спрынт | | 18.00—19.30 |
| **Субота, 23 лютага** | Лыжныя гонкі. 50 км | Мужчыны | 18.30—22.00 |
| | Хуткасны бег на каньках. 5000 м | Жанчыны | 22.00—23.45 |
| | Шорт-трэк. 1000 м. Фінал | Жанчыны | 03.00—06.00 |
| **Нядзеля, 24 лютага** | Лыжныя гонкі. 30 км | Жанчыны | 18.30—21.00 |

Урачыстае закрыцьцё алімпійскіх гульняў (03.00—06.00)

Анатоль Сідарэвіч

# Нашаніўцы ў 1920 годзе

28 лютага 1920 г. Старшыня Рады Народных Міністраў і міністар замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч падаў у адстаўку і зноў стаўся простым грамадзянінам Вільні. Але бяз справы сядзець ён ня мог. Цягам сакавіка—верасьня 1920 г. пад ягонай рэдакцыяй і пры ягоным чынным удзеле ў Вільні выходзяць два калектыўныя выданьні ("Зборнік Наша Ніва" ды зборнік "Памяці Івана Луцкевіча"), а таксама брашура "Польская акупацыя ў Беларусі". На дварэ быў 1920 г. Не пасьпеў "Зборнік Наша Ніва" ўбачыць сьвет, як у Вільню прыйшла Чырвоная Армія. Луцкевіч, як былы прэм'ер-міністар БНР, трапіў у ЧК і на кароткі час стаў "госьцем" знакамітых Лукішак. (То было першае зьняволеньне Луцкевіча ў Лукішках. Другі раз ён трапіць у гэтую вязьніцу ў 1927 г., а трэці — у 1939-м.)

Разам з маскоўскім войскам на Віленшчыну прыйшлі і правадыры літоўскіх камуністаў (Вінцас Капсукас, Зігмас Ангарэціс ды інш.). Яны плялі змову супраць ураду Ковенскае Літвы, але абачлівы Ленін не даваў ім санкцыі на "пралетарскае паўстаньне". 3 жніўня РСФСР прызначыла свайго паўнамоцнага прадстаўніка ў Літве, а 6-га ў Вільні была падпісаная дадатковая дамова, паводле якое гэты горад павінен быў перайсьці пад уладу ковенскага ўраду да 1 верасьня. У адпаведнасьці з дамоваю ад 12 ліпеня савецкі паўнамоцны прадстаўнік перадаў літоўскаму ўраду 3 млн. залатых рублёў. Пілсудзкаму й ягонаму атачэньню рад-няволя давялося таксама іграць ролю прыхільнікаў літоўскага сувэрэнітэту, а тут яшчэ й Ліга Нацыяў насядала. Пры пасярэдніцтве Лігі пасьля працяглых перамоваў 7 кастрычніка Польшча падпісала ў Сувалках дамову зь Літвою, у якой прызнала яе права на тыя беларускія тэрыторыі, якія ёй аддала 12 ліпеня РСФСР.

Палітыка начальніка Польскае дзяржавы выклікала "нездавальненьне" генэрала Люцыяна Жалігоўскага, камандзіра 1-е беларуска-літоўскае дывізіі Войска Польскага, і 8 кастрычніка 1920 г. наш зямляк з Ашмяны "ўзбунтаваўся" супраць свайго земляка з-пад Сьвянцянаў. 9 кастрычніка Вільня і вакольныя тэрыторыі трапілі пад кантроль беларуска-літоўскае дывізіі, а яе камандзір стаў на чале новага дзяржаўнага ўтварэньня — Сярэдняе Літвы, тэрыторыя якой пасьля ўсіх зьмяненьняў ахоплівала Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Лідзкі, Сьвянцянскі й Троцкі паветы.



Уладзімер Знамяроўскі



Антон Луцкевіч

Як і кожная дзяржава, Сярэдняя Літва мела свой кабінэт — Урадавую Камісію. Сярод міністраў (дырэктараў дэпартамэнтаў) быў і беларус — д-р Вацлаў Іваноўскі (ведамства гандлю), а беларускі сэктар у дэпартамэнце асьветы ўзначальваў Браніслаў Тарашкевіч.

## Газэта

Калі ў Вільні і на Віленшчыне зьявілася новая ўлада, высьветлілася, што Гедымінавай сталіцы, Сярэдняй Літве і Заходняй Беларусі патрабуецца беларуская газэта. Раней як было? У Менску выходзіла штодзённая Лёсікава "Беларусь", у Вільні — тыднёвікі "Крыніца" і "Незалежная думка", але ў Менск прыйшлі бальшавікі, "Незалежную думку" забаранілі палякі, "Крыніца" таксама мела праблемы... І вось 28 кастрычніка 1920 г. выйшаў першы нумар адноўленага тыднёвіка "Наша Ніва".

Чатыры паласы, зусім новы лягатып, ня вельмі якасныя папера і друк... Кошт нумару — 3 маркі (у Польшчы ў пераходны пэрыяд грашоваю адзінкаю была марка польская). Адрас рэдакцыі й адміністрацыі знаёмы: Вільня, Завальная, 7 (там і да вайны была рэдакцыя "НН"). Друкавалася газэта ў друкарні каапэратыўнага таварыства "ДРУК" па вуліцы Вастрабрамскай, 5 (з пачатку лістапада друкарня вярнулася на вул. Троцкую, 13). Пазначана таксама, што газэта "выходзіць штотыдзень у панядзелкі", але №1 выйшаў у чацьвер 28 кастрычніка, №2 — у панядзелак 1 лістапада, а №3 — дзеля пераезду друкарні з Вастрабрамскай на Троцкую — аж праз 11 дзён (у чацьвер 12 лістапада), №4 — у аўторак 16 лістапада; дакладна ў панядзелак выйшлі №5—9. З №3 частка матэрыялаў друкавалася лацінкаю. Вядома, у кожным нумары на апошняй старонцы напісана, што друк дазволены вайсковаю цэнзураю. Амаль усе матэрыялы друкаваліся "кілбасою", пад парадак, "падвалы" здараліся зрэдзьчасу. "Кілбаса" дазваляла лёгка на месца выразанага цэнзураю матэрыялу перасунуць наступны. Таму "белыя плямы" на першай і ўнутраных палосах адсутнічалі, затое ў суцэльную "белую пляму" магла ператварыцца значная частка апошняе паласы, як у №3.

Першы нумар адноўленае "Нашае Нівы" адкрываўся традыцыйным рэдакцыйным дзённікам, у якім сярод іншага чытаем: "Старыя працаўнікі "Нашае Нівы" сьпярша думалі аднавіць сваю часопісь у форме месячніка. Аднак непамысныя варункі і захоп нашага штандару — нашага тытулу — літоўскім выдавецтвам у польскай мове прымусілі нас выпусьціць у сьвет прыгатаваны ўжо да друку матэрыял для першага (маёвага) нумару ў постаці "Зборніку Нашае Нівы". Цяпер мы маем магчымасьць вярнуцца да старое формы... нашага выдавецтва і будзем выпускаць "Нашу Ніву" як тыднёвік — на жаль, з прычыны цяжкога матэрыяльнага палажэньня пакуль што вельмі невялікі".

Ужо ў першым нумары прысутнічалі тыя рубрыкі, у якіх друкаваліся матэрыялы й астатніх 8 нумароў "Нашае Нівы". Гэта рэдакцыйны дзённік, "Агляд друку", "Хроніка" (пра дзейнасьць беларускіх установаў ды арганізацый у Вільні), "З усяе Беларусі", "Заграніцай". Друкаваліся й мастацкія творы. У першым нумары выступілі настаўнік і вучаніца: выкладчык Віленскае беларускае гімназіі Максім Гарэцкі пачаў друкаваць "Прысягу" (заканчэньне было ў №4), а ягоная вучаніца Натальля Арсеньнева дэбютавала ў друку вершам "Мой родны край" (у наступных нумарах газэта надрукуе яшчэ колькі твораў юнае паэткі). Як і ў даваеннай "Нашай Ніве", вядучым публіцыстам быў Луцкевіч (Ант.Навіна, І.Мялешка). Выступіў у газэце і Аляксандар Уласаў. Пакуль што нават аўтар слоўніка беларускіх псэўданімаў Янка Саламевіч ня ведае, хто назваў сябе Сяргеем Чараўніком і Ярашэўскім (публіцысты) ды Ігнатам (Ігналем) Румянкам (пісаў вершы).

Зьмест газэты быў вызначаны самім часам: перамовы ў Рызе, Слуцкае паўстаньне, іншыя антыбальшавіцкія выступленьні, паход генэрала Булак-Балаховіча... Характар тыднёвіка — дэмакратычны.

## Рэдактар "Нашае Нівы": спроба вярнуць імя

У першых двух нумарах адноўленае "Нашае Нівы" на 4-й паласе было напісана (захоўваем правапіс): "Рэдактар і Выдавец: Рэдакцыйная Колегія". Хто ўваходзіў у калегію, мы можам толькі здагадвацца. Не маглі не ўваходзіць прынамсі дзьве асобы — Луцкевіч і чалавек, які дзеля абставінаў вымушаны быў выйсьці на авансцэну 12 лістапада.

Мы памятаем, што паміж выхадам №2 "Нашае Нівы" (1 лістапада) і №3 прайшло 11 дзён. Гэты інтэрвал я тлумачыў вяртаньнем друкарні з Вастрабрамскай вуліцы на Троцкую. Але было яшчэ адно здарэньне, якое не магло не спарадзіць трывогі ў калектыве рэдакцыі. Пра яго мы чытаем у №3 газэты:

"1 лістапада ў вядомага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча па загаду II аддзелу даводзтва арміі "Сярэдняе Літвы" зроблены ў кватэры вобыск. Узяты розныя рукапісы, брашуры і т.п.

Назаўтра грам. Луцкевіч быў пакліканы на ваху* II аддзелу дзеля дапросу ў 10 гадз. раніцы. Тут яму было заяўлена, што яго вінавацяць у выданьні "проціпольскай" брашуры "Польская акупацыя ў Беларусі". На гэта грам. Луцкевіч адказаў, што брашура выдана да часу ўтварэньня "Сярэдняе Літвы" і гаворыць аб дзеяньнях

# Тры выдавецкія праекты Антона

"Зборнік Наша Ніва" выйшаў да паходу Чырвонае Арміі на Польшчу. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова ўбачыць, што на апошняй старонцы яго папяровае вокладкі рэклямуюцца штодзённая газэта "Беларусь", часопісы "Руњ", "Саха" ды тыднёвік "Незалежная думка", што спыніў сваё існаваньне 11 ліпеня 1920 г. — якраз у дзень, калі Чырвоная Армія ўзяла Менск.

"Зборнік Наша Ніва" — гэта 48 старонак тэксту. Фармат — 164x237 мм. Зборнік убачыў сьвет у друкарні каапэратыўнага таварыства "ДРУК", што месьцілася ў Вільні па вуліцы Троцкай, 13.

У прадмове да зборніка згадвалася "Наша Ніва" 1906—15 г. і зазначалася, што "кіданыя ёй шырока зярняты нацыянальнае сьвядомасьці пападалі на добры грунт, усходзілі і ўрэшце далі багаты ўраджай". Не затрымліваючыся падрабязна на разглядзе падзеяў 1916—19 г., аўтар пісаў: "Цяпер, калі перад нашым народам стаіць задача рэалізацыі ідэі дзяржаўнае незалежнасьці, калі творацца сапраўды моцныя асновы нашае нацыянальнае культуры... мы, старыя супрацоўнікі "Нашае Нівы", ізноў згуртаваліся і прыступаем да прыпыненае працы". Спамянуўшы Івана Луцкевіча, Цётку, Максіма Багдановіча, Лявона Гмырака, якія не дажылі да 1920 г., адзначыўшы, што "нарасьлі новыя сілы", аўтар гэтак тлумачыць, чаму выдаецца менавіта "Зборнік Наша Ніва":

"Існаваньне штодзённай беларускай газэты і некалькіх тыднёвых здымае з нас абавязак асьвятляць штодзённыя бягучыя справы і дае магчымасьць абмежавацца справамі і пытаньнямі прынцыповага характару. Мы будзем падыходзіць да разьвязкі гэткіх пытаньняў, узіраючыся ў далейшую будучыню, а не ў сягоньняшнія хутка мінаючыя і зьменныя настроі. Дзеля гэтага мы і выбралі форму выдавецтва (слова "выдавецтва" тут сынонім слова "выданьне" — **А.С.**) непэрыядычнага і ў гэтым зборніку памяшчаем тыя матэрыялы, якія нам удалося пакуль што згуртаваць".

Якія ж матэрыялы былі надрукаваныя ў зборніку? Перш-наперш, артыкул Антона Луцкевіча — Ант.Навіны "Палітычныя лёзунгі беларускага руху", у якім цалкам або фрагмэнтарна былі пададзеныя дакумэнты Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага (1915—16), Віленскай беларускай канфэрэнцыі (студзень 1918) і трэцяя Устаўная грамата Рады БНР.

Іншы аўтар зборніка, інжынэр Аляксандар Галавінскі, разумеў, што пасьля шасьці гадоў войнаў "дзеля фінансова-эканамічнае адбудовы краю нашага... ніяк нельга абысьціся без заграгічнае помачы". У ягоным артыкуле "Ўвагі аб фінансава-эканамічнай адбудове Беларусі" зьмешчаныя табліцы зь пералікам неабходнага абсталяваньня на першыя 5 паваенных гадоў. Табліца №1 утрымлівае сьпіс рэчаў, патрэбных для сельскай гаспадаркі, культурнага жыцьця і асьветы: гэта плугі, сеялкі, косы, малатарні, элітная жывёла, гэта і пэўная колькасьць "добра абстаўленых лябараторыяў" — мэханічных, хімічных, фізычных, фізычна-хімічных і інш., "клінік унівэрсытэцкіх", тыпа-літа-цынкаграфій, радыёстанцый... Фабрыкі й заводы падаюцца ў табліцы №2 (сылікатная тэхналёгія, мінэральная тэхналёгія, мэталюргічныя заводы, выраб машын, паравых катлоў і турбінаў для гідраэлектрастанцыяў) і №3 (заводы "спажыўнае тэхналёгіі" — харчовае прамысловасьці; заводы арганічнае тэхналёгіі, то бок тартакі, паперні, цэлюлёзныя фабрыкі, выраб драўлянага вугалю, штучных тканінаў, тэкстылю, фарбаў, лекаў і г.д.). На падставе падлікаў Галавінскі зрабіў выснову: "Па ўсіх трох табліцах на першыя пяць гадоў патрэбна жывога і мёртвага інвэнтару і мэханічнага абарудаваньня дзеля найбольш патрэбных для нашага краю фабрык і заводаў, прыблізна лічачы, на суму каля двухсот дзесяці мільёнаў залатых рублёў (210775000 залатых рублёў)". Галавінскі скончыў свой артыкул сказам: "І ўсё гэта мы маем магчымасьць атрымаць з заграніцы пры магчымасьці наладжаньня незалежнае фінасовае і эканамічнае гаспадаркі Беларусі". Карысна было б пачытаць гэта нашым інтэгратарам.

Эканамічнай праблематыцы прысьвечаны й артыкул рэдактара-выдаўца "НН" у 1906—14 г. Аляксандра Ўласава "Хатнія промыслы ў Беларусі".

У зборніку пасьмяротна надрукаваны артыкул Івана Луцкевіча "Ай Кітаб". Тамсама друкуецца ў перакладзе на беларускую ўрывак з "Ай Кітабу". Далей зьмешчаныя "Хаўтурны марш" польскага паэта Карнэля Ўейскага ў перакладзе Янкі Купалы, твор Максіма Гарэцкага "Патаёмнае", а таксама тры ўрыўкі з "Гітаньялі" Рабіндраната Тагора (пераклад зроблены з польскага перакладу Яна Каспровіча). У разьдзеле "Бібліяграфія" знаходзім рэцэнзію на аповесьць Гарэцкага "Дзьве душы", анатацыі на брашуру Аляксандра Цьвікевіча "Беларусь", на кнігу "*Weissruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Mit 93 Abbildungen und einer Karte*", што выйшла ў Бэрліне пад рэдакцыяй Вальтэра Егера, на зборнік "Падарунак беларускаму жаўнеру", выдадзены Беларускаю вайсковаю камісіяй, а таксама на брашуру А.Ж. (Аркадзя Смоліча) "Беларуская Сацыял-Дэмакратычная партыя, яе мэты і заданьні. Папулярны выклад праграмы". Аўтарам рэцэнзіі на аповесьць Гарэцкага бясспрэчна зьяўляецца Антон Луцкевіч, які падпісаўся крыптанімам А.Л., а пад анатацыямі подпісаў няма. У зборніку зьмешчаны таксама пералік беларускіх пэрыёдыкаў, выдадзеных ў траўні 1920 г., беларускіх нацыянальных установаў, кароткія агляды "Стан школьнае справы", "Беларускі тэатар" і "Эканамічныя арганізацыі", а таксама нататка пра Беларускую вайсковую камісію. Такі зьмест "Зборніка Нашае Нівы".

Матэрыялы для ілюстраванага зборніка "Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі сьмерці яго (20.VIII.1919 — 20.VIII.1920)" зьбіраліся і за бальшавікамі. Пра гэта сьведчыць хоць бы дата пад адным з матэрыялаў — 15.VII.1920. Зборнік быў падрыхтаваны недзе да сярэдзіны жніўня. У ім зьмешчаны артыкул А.Луцкевіча "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча", успаміны Лялі Мэнке, Адварда Будзькі, Максіма Гарэцкага, Леапольда Родзевіча, Міхала Каха-

чужой дзяржавы — Польшчы, дзеля чаго ён, Луцкевіч, адмаўляецца ад дачы якога-колечы тлумачэньня ў гэтай справе.

Пасьля сьпісаньня пратаколу, грам. Луцкевічу было заяўлена, што ён арыштаваны, і яго пераслалі пад канвоем жандара ў II аддзел, дзе праздяржалі ў вязьніцы ўвесь дзень. Толькі позна ўвечары яго выпусьцілі на волю, абязаўшы падпіскай бяз згоды II аддзелу не выяжджаць зь Вільні і на кожны вызаў зьявіцца ў дэфэнзыву".

Зацеміўшы, што Луцкевіч сядзеў і за царом, і за бальшавікамі, і за Жалігоўскім, і за Пілсудзкім, і зноў за бальшавікамі (за адным кайзэрам не сядзеў), адзначым, што ў тым самым нумары "НН", у якім паведамлялася пра арышт, на 4-й паласе зьявілася новая інфармацыя: "Рэдактар і Выдавец У.Знамяроўскі". І вось з трэцяга па апошні нумар "Нашу Ніву" падпісваў У.Знамяроўскі.

Хто ён, Уладзімер Знамяроўскі? Дакладнага ягонага жыцьцяпісу ня маю. Пэўныя анкетныя зьвесткі льга знайсьці ў архіве Віленскага акруговага суду: Знамяроўскага судзілі за перадрук у "Беларускім дэкляматары" (1928) пэўных вершаў Купалы й Цёткі. Паколькі ўсё тыя ж матэрыяльныя ўмовы не дазваляюць мне паехаць у Вільню, дзе знаходзіцца архіў, магу сказаць, што Знамяроўскі паходзіў з Латгаліі, скончыў у Вільні гандлёвую школу, працаваў карэктарам у "старой" "Нашай Ніве". (Усе гэтыя зьвесткі паведаміў д-р Арсень Ліс.)

Можна прыпусьціць, што Знамяроўскі жыў у Вільні і пад нямецкаю акупацыяй. У 1919 г. ён выступіў як адзін з рэдактараў газэты "Беларуская думка" (28.4—27.7; забаронена палякамі). У 1920 г. быў выдаўцом ужо згаданае газэты "Незалежная думка" (забаронена палякамі). У тым самым годзе разам з Адвардам Будзькам фундаваў выданьне "Гісторыі беларускае літаратуры" Гарэцкага (выйшла ў друкарні каапэратыўнага таварыства "ДРУК"; першы водгук на яе ў №5 "Нашае Нівы" надрукаваў Антон Луцкевіч). У 1923 г. быў рэдактарам-выдаўцом газэты "Воля народу" (21—25.10; выйшла 2 нумары). Адзін час быў рэдактарам газэты "Беларуская крыніца". У Беларускай Энцыкляпэдыі (т.7) маецца артыкул д-ра Ліса "Знамяроўскага У. выдавецтва". З гэтага тэксту можна даведацца, што выдавецтва працавала ў 20-я — сярэдзіне 30-х г. і выпусьціла каля 20 назваў кніг, у тым ліку "Расейска-беларускі слоўнік" Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх (2-е выд.), "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ўсевалада Ігнатоўскага (4-е выд.), "Дзеда Завалу" Ядвігіна Ш. (2-е выд.). З выдавецкаю дзейнасьцю Знамяроўскага зьвязаны і ліст Гальяша Леўчыка да яго, зьмешчаны ў кнізе "Доля і хлеб" (Менск, 1980; укладальнікі Я.Саламевіч і Н.Ляшковіч).

Зьвесткі, якія я атрымаў ад Янкі Брыля, датычаць 1938 г. Яны сьведчаць, што Знамяроўскі меў пэўнае дачыненьне да выпуску часопісу "Шлях моладзі".

У маладыя гады Я.Брыль ставіў аматарскія спэктаклі. У артыкуле "Праз паўвеку" ("Тэатральная Беларусь", 1993, №3) ён піша пра свае пераклады п'есаў Лява Талстога "Першы вінакур" і "Ад яе ўсе якасьці". Гэтыя пераклады Янка Брыль хацеў надрукаваць асобнаю кніжачкаю, каб іх маглі выкарыстаць іншыя аматарскія тэатральныя гурткі. І гэтаму "спрыяў Макар Краўцоў". Адмыслова для гэтага артыкулу пісьменьнік сёе-тое ўдакладніў. Ён быў асабіста знаёмы зь Міхасём Васільком, пляменьнікам Макара Краўцова. Гэта й надало маладому аўтару сьмеласьці ў 1938 г. напісаць Краўцову ў Вільню. Аўтар нацыянальнага гімну прыслаў Брылю паштоўку, у якой паведамляў, што меў размову са Знамяроўскім і той сказаў, што лепш было б спачатку надрукаваць абедзьве п'есы ў "Шляху моладзі", а гэтыя наборы потым выкарыстаць для друкаваньня асобных адбіткаў-кніжачак. На жаль, вайна разбурыла гэтыя пляны..

Вось тая жменя фактаў пра Ўладзімера Знамяроўскага, якія мне ўдалося сабраць, працуючы над біяграфіяй Антона Луцкевіча. Я не выключаю, што Знамяроўскі меў самае непасрэднае дачыненьне і да друкарні каапэратыўнага таварыства "ДРУК", у якой убачылі свет і зборнікі нашаніўцаў 1920 г., і "Польская акупацыя..." Луцкевіча, і газэта.

Перад намі паўстае яшчэ даволі расплывісты сылюэт працаўніка на ніве беларускае культуры. Мажліва, маладыя дасьледчыкі здолеюць напісаць ягоную біяграфію, стварыць паўнавартасны партрэт, а пакуль што трэба вярнуць імя У.Знамяроўскага хоць бы на 16-ю старонку сучаснае "Нашае Нівы" — запісаць яго ў шэрагу іменаў галоўных рэдактараў тыднёвіка, бо найвыдатнейшы, паводле Максіма Гарэцкага, нашаніўскі публіцыст Антон Луцкевіч ніколі не ўзначальваў рэдакцыю фармальна.

...Апошні нумар "Нашае Нівы" ў Сярэдняй Літве выйшаў 20 сьнежня. Як паведамляе ў Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі д-р Ліс, яна была забаронена польскаю (то бок сярэднелітоўскаю) вайсковаю цэнзураю. Аднак Вільня не засталася безь беларускае газэты: 13 сьнежня "Наша Ніва" зьмясьціла абвестку, што "ў гэтым тыдні пачне зноў выходзіць *Krynica*, беларуская хрысьціянска-дэмакратычная часопісь (лацінскімі літарамі)". А на Куцьцю, 24 сьнежня, да "Крыніцы" далучыўся тыднёвік "Наша думка". Ягоным рэдактарам-выдаўцом быў нашанівец Максім Гарэцкі.

* камэндатуры.

# Луцкевіча

новіча, Язэпа Салаўя і Клаўдзія Душэўскага (пра аднаго аўтара ўспамінаў, А.Сегеня, зьвестак ня маю і таму імя назваць не магу). Тамсама надрукаваныя верш Ежы Янкоўскага ды імпрэсія Зьмітрака Бядулі "Сьвятое гэта месца!..", прысьвечаныя І.Луцкевічу.

Што датычыць брашуры "Польская акупацыя ў Беларусі", дык пад тэкстам гэтага твору пазначана, што напісаны ён у Вільні "ў ліпені 1920 году". Міжволі вынікае пытаньне: да прыходу бальшавікоў ці пасьля іх прыходу ў Вільню? Адказ знаходзім у тэксьце. Распавёўшы пра адну сваю гутарку зь Пілсудзкім пра ўсходнюю палітыку Польскае дзяржавы, аўтар адзначаў: "Гэта гутарка была ўвосень 1919 г., — а хутка выявілася, якія гэта палітычныя "ходы" меў на думцы Пілсудзкі. У Вільні яго давернік, капітан Славак, каваў інтрыгі проці незалежнасьці Літвы, закідваючы іх сеці на Коўну і падгатаўляючы тамака польскую змову проці літоўскага ўраду. Змова гэная была ў пару выкрыта літвінамі і расстроена, — але падземную работу Слаўка вялі далей яго замясьціцелі ажно да моманту заняцьця Вільні чырвоным войскам і прымусовага прызнаньня Польшчай гэткай нялюбай незалежнасьці Літвы".

Вось гэты абзац і дае нам падставу сьцьвярджаць, што праца над брашурай "Польская акупацыя ў Беларусі" скончылася пасьля прыходу бальшавікоў у Вільню.

Твор гэты выдадзены на беларускай і польскай мовах. Перакладаючы сваю брашуру на мову нашых заходніх суседзяў, Луцкевіч хацеў паказаць злачынствы польскае ваеншчыны ды цывільнае адміністрацыі шырокай польскай грамадзкасьці, асабліва тым, хто менаваў сябе сацыялістамі. Брашура выдадзеная пад сапраўдным імем і прозьвішчам аўтара, што з Луцкевічам здаралася радка. Такім чынам вядомы польскім дзеячам беларускі дзяяч дэманстраваў сваё стаўленьне да афіцыйнае польскае палітыкі.

Ажыцьцявіць тры гэтыя праекты Антону Луцкевічу дапамаглі ці ня дзесяць "старых" нашаніўцаў. Ня толькі былыя актыўныя аўтары ды супрацоўнікі рэдакцыі Аляксандар Уласаў, Янка Купала, Зьмітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Адварды Будзька, але і Леапольд Родзевіч, і Клаўдзі Дзюк-Душэўскі, якія пад уплывам "Нашае Нівы" далучыліся да беларускага руху. Да кола нашаніўцаў належаў і Язэп Салавей, адзін з пачынальнікаў сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі, рэдактар газэты "Гоман" зь сярэдзіны 1917 і да спыненьня яе выхаду ў канцы 1918 г.

**А.С.**

## навіны

### Фільм пра Пушкіна

**Рэжысэрка Арына Волах завяршае працу над фільмам пра мастака Алеся Пушкіна.** Стужка атрымала назву няіснага інтэрнэт-адрасу "www.pushkin.by", бо закранае праблемы захаваньня чалавечае ідэнтычнасьці ў інфармацыйную эру. Фільм вельмі лірычны: твар скандальна вядомага героя не зьяўляецца ў кадры аніводнага разу, камэра ўвесь час "назірае" за рукамі мастака. Фундатарамі стужкі выступілі землякі Пушкіна з Крупскага раёну — дрэваапрацоўчая фірма "Пільня" й фэрмэрская гаспадарка "Васілёк".

### Культура + мастацтва

**Дзеля скарачэньня выдаткаў і ўзмацненьня кантролю над мастацкімі выданьнямі** Міністэрства культуры пастанавіла аб'яднаць часопіс "Мастацтва" й газэту "Культура" ў холдынг пад назвай-абрэвіятураю "КіМ". Мяркуецца, што кіраваць холдынгам будзе супрацоўніца Міністэрства інфармацыі Ліліяна Анцут, а цяперашнія рэдактары часопісу й газэты Аляксей Дудараў і Людміла Крушынская стануцца ейнымі намесьнікамі. Чакаецца скарачэньне штатаў абодвух выданьняў.

**Юрась Барысевіч**

### Крыж і паўмесяц

**Камісія па ўпарадкаваньні і выкарыстаньні гістарычнай сымболікі створаная пры Аршанскім гарвыканкаме.** Уласныя гербы займеюць цяпер горад Барань і мястэчка Балбасава. Адносна візытоўкі Воршы спрэчак няма: з пачатку 90-х вернуты ва ўжытак герб з выявай срэбнага крыжа й залатога паўмесяца пад ім у блакітным полі, атрыманы разам з магдэбурскім правам у 1620 г.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

новая кніга




**Пытайцеся ў незалежных распаўсюднікаў**

# Дынастыя Ціхановічаў

**У Палацы мастацтваў працуе ўнікальная выстава "Дынастыя", прысьвечаная 90-годзьдзю беларускага мастака Яўгена Ціхановіча і памяці Ўладзіслава Галубка, Валянціна, Генрыха і Яна Ціхановічаў, якіх ужо няма з намі. Чатыры пакаленьні гэтай творчай сям'і — мастакі, анімалісты, карыкатурысты і графікі — амаль цэлае стагодзьдзе плённа працавалі і радавалі аматараў прыгожага сваімі творамі. Не прапусьціце магчымасьць пабачыць на ўласныя вочы іх творы — выстава працуе да 10 лютага.**
**На адкрыцьці юбілейнай выставы мастака прысутнічалі Ніл Гілевіч, Сяргей Законьнікаў, Аляксей Марачкін, Мікола Купава і іншыя дзеячы мастацтваў Беларусі. 90-гадоваму Яўгену Ціхановічу быў уручаны мэдаль "Адраджэньне Беларусі". На здымку: ён вісіць у юбіляра на шыі, на бел-чырвона-белай стужцы.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## дзе варта быць

### Дабрачынны паказ

**11 лютага на сцэне Купалаўскага тэатру адбудзецца дабрачынны паказ спэктаклю "Кахаю, спадзяюся, чакаю..."** паводле п'есы сучаснага швэдзкага драматурга Э.Сварлінга "Шлюха з Гарлему" ў пастаноўцы Валер'я Масьлюка — рэжысэра Віцебскага тэатру, які памёр летась. Збор ад спэктаклю пойдзе на выданьне зборніка паэзіі Валер'я Масьлюка.

### Тры ўзоры сучаснага мастацтва

**У Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва працуюць тры выставы, якія варта наведаць.** Да 15 лютага мастак Ігар Саўчанка прэзэнтуе другую частку свайго праекту "Спакусы Сяргеева". Яна мае назву "Выбранае" і ўключае найлепшыя творы мастака за ўсе гады ягонае творчасьці. З 5 лютага да 1 сакавіка ў музэі будзе працаваць выстава гарадзенскага мастака-каваля Юрася Мацка пад назвай "Крыга". Ягоныя вырабы дапамагаюць пабыцца стэрэатыпу, згодна зь якім кавальства асацыюецца адно з ужытковымі вырабамі. З 12 лютага да 7 сакавіка свае карціны тамсама выстаўляе Андрэй Вацура. Экспазыцыя "Ўсё маё будзе твам" — гэта ягоныя разважаньні на тэму свайго часу і свайго шляху ў гэтым жыцьці. Усе выставы можна наведваць штодня акрамя нядзелі і панядзелка ад 11-й да 19-й.

### Да юбілею Шырмы

**10 лютага аб 11-й кінатэатар "Зьмена" запрашае на праграму, прысьвечаную 110-годзьдзю Рыгора Шырмы,** стваральніка і працяглага кіраўніка Беларускай акадэмічнай харавой капэлі, музычнага дзеяча і фалькларыста. У праграме прагляд дакумэнтальнай стужкі "Песьня на ўсё жыцьцё", сустрэча зь Янкам Брылём, Нілам Гілевічам і Васілём Ліцьвінкам, а таксама са стваральнікамі фільму — сцэнарыстам Арсенем Лісам і рэжысэрам Людгардам Гедравічусам.

### Суботнік у Курапатах

**Валанцёры заклікаюць усіх ахвотных прыходзіць на ўрочышча на талаку ў суботу аб 11-й гадзіне.** Абаронцы Курапатаў разам з гісторыкамі й сябрамі арганізацыі "Мартыралёг" акрэсьлілі межы ахоўнай тэрыторыі помніка, і цяпер ім патрэбная дапамога, каб усталяваць на гэтых межах адмысловыя слупкі.

### "Partisan" у Калегіюме

**У аўторак 12 лютага ў Беларускім Калегіюме (вул.Харужай, 16) адбудзецца прэзэнтацыя часопісу "Partisan"** з удзелам рэдактара і аўтараў. Пачатак у 18.30.

### "Nihil"

**15 лютага а 19-й на сядзібе ТБМ (вул.Румянцава, 5) рэдакцыя часопісу "Nihil" зьбіраецца абвесьціць вайну мове як такой.** Паралельна адбудзецца прэзэнтацыя новага нумару. (Часопіс прадаецца на кніжных выставах у КЗ "Менск", Акадэміі навук, галоўным корпусе БДУ, на сядзібах БНФ, ТБМ.)



## БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

**У Таронта (Канада) заснаваная новая беларуская газэта "Беларускае слова".** У першым, студзеньскім, нумары публікуецца справаздача з 38-га зьезду Згуртаваньня беларусаў Канады, хроніка дзён, а таксама літаратурны альманах "Шкварка".

Адрас для допісаў: 524 St. Clarens Ave., Tcronto, ON, M6H 3W7

# Рай стане ў Амэрыцы

Працяг са старонкі 5.

васяць гуральскія малюнкі на шкле, прафэсар можа ўкруціць дыялектнае слоўка. Ягоныя студэнты размаўляюць па-чэску, па-ўкраінску, па-расейску, па-беларуску. Яны любяць краіны, дзе былі зь місіяй; на думку парфэсара, гэта найлепшыя амбасадары тых краінаў. Яны навярнулі па некалькі душаў, пераняліся самі, пасталелі, вырасьлі. Сын Уолтэра Уіпла перастаў сварыцца зь сястрой, пакінуў юначы бунт. Паводле словаў прафэсара, місіянэрства дае большыя веды і досьвед, чым шматгадовае навучаньне.

— У сьвет мы высылаем маладых, — тлумачыць ён, — бо да маладых людзі маюць давер. Маладосьць ідэалістычная, яна марыць служыць праўдзе. У місіянэрстве мы дасягаем посьпеху, бо ведаем, як падтрымаць, заахвоціць, знайсьці слабых, каб дапамагчы ім духоўна. Гэта вельмі сумленны мэтад, шчыры, чысты, адкрыты. Мы ня кажам, што іншая вера благая. Мы пераконваем, што нашая — праўдзівая.

— А ці адыходзяць вернікі ад царквы?

— Нашая царква іх не адрынае. Ты можаш паліць і быць мармонам: тытунь — невялікі грэх, мы будзем дапамагаць чалавеку перадолець загану. Але людзі, якія жывуць насуперак прынцыпам, пачуваюцца кепска, ня ладзяць з Богам і супольнасьцю. Іхнае адчуваньне віны бывае мацнейшым за нашую падтрымку; тады яны адыходзяць ад нас, бо нешчасьлівыя самі праз сябе.

— Як вы імкняцеся дапамагчы?

— Паказваем на слабасьці, размаўляем: нішто так не падтрымлівае, як ціск асяродзьдзя. Мы прымаем правілы, якія адмаўляюць непажаданыя паводзіны. У студэнцкіх інтэрнатах унівэрсытэту Брыгама Янга дзяўчаты і хлопцы жывуць у асобных будынках. Чаму? Бо нашая вера забараняе распусту, мы ня хочам, каб моладзь сутыкалася са спакусамі.

## ...бо мы аднолькавыя

Унівэрсытэт Брыгама Янга месьціцца на схілах высокіх гораў: роўна падстрыжаныя газоны, чыстыя прысады, дагледжаныя будынкі, ціхія студэнты. Адукацыю атрымліваюць пераважна маладыя мармоны, рэкамэндаваныя біскупамі; толькі ім царква вяртае 70% высокае платы. Унівэрсытэт ганарыцца ці не найлепшай у ЗША школай лінгвістыкі, створанай мармонскімі місіянэрамі, цудоўнымі факультэтамі бізнэсу, адміністрацыі й права. А таксама ганаровым кодэксам, "выкліканым да жыцьця ідэямі й прынцыпамі Царквы Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён", якога ня мае ніводная іншая амэрыканская вышэйшая школа.

Кодэкс, за выкананьнем якога сочыць студэнцкая рада і ўнівэрсытэцкая паліцыя, патрабуе жыць паводле запаветаў веры, гаварыць "чыстай" мовай, шанаваць братоў, адмовіцца ад харчовых дабавак. А перадусім, хоць гэта й апошні пункт, — дапамагаць іншым у выкананьні загадаў кодэксу.

На думку Джэфа і Івоны, ганаровы кодэкс спрычыніўся да таго, што ўнівэрсытэт Брыгама Янга замест таго, каб ісьці наперад, адступае ў мінулае стагодзьдзе.

Агульнапрынятыя нормы вызначае рада, а за іх выкананьнем сочыць паліцыя, якая можа сярод ночы ўваходзіць у студэнцкія пакоі й правяраць, паліць моладзь ці не. Калі дзяўчыну засьпеюць у мужчынскім інтэрнаце, яна, хоць бы й была найлепшай па пасьпяховасьці, можа развітацца з навучаньнем. Тое ж тычыцца і хлопца, які бавіцца ў дзявочым пакоі.

— На занятках мастацтва прафэсары ня разглядаюць скульптур Мікелянджэля, бо ён паказваў людзей аголенымі, а аголенасьць — гэта дрэнна, — распавядае Джэф.

— Ці ведаеш, што азначае "дапамагаць іншым у выкананьні загадаў кодэксу"? — пытаецца Івона. — Гэта азначае даносіць і шпегаваць, як тут кажуць — паказаць супольнасьці слабога. У нас тут данос не данос, у нас гэта высакароднае дзеяньне, вартае ўхвалы, і нікога не цікавіць, якія матывы кіруюць даносчыкамі. Бальшыня зь іх віжуюць за сябрамі дзеля ўласнае карысьці: хочуць заняць чыёсьці месца, маюць на кагосьці зуб. Рэлігія тут — толькі выдатная нагода. Хто сабе тлуміць галаву верай? Але найгорш тое, што бальшыні такая завядзёнка не перашкаджае. Ва ўнівэрсытэце, табе скажуць: гэта фантастычнае месца, мы ўсе такія самыя, усе аднолькава думаем. Кодэкс гонару? Ён дазваляе слабым удасканальвацца, усім нам спрашчае існаваньне, мы ведаем, што дабро, а што зло.

## Лепш ніводзін, чым усе

— Даносамі, — дадае Джэф, — займаюцца ня ўсе мармоны, а толькі закасьцянелыя, замкнёныя супольнасьці, якія ўзвышаюць сябе над іншымі, баяцца навакольнага сьвету. Бо мы, хоць у Юце няма большае сілы, чым мармоны, баімся "іншасьці".

Мармоны зь Юты мяркуюць, што, змушаючы ўсіх выконваць уласныя правілы, яны ратуюць сьвет.

— Джэфе, хіба ты ня любіш сваю царкву?

— Я добры мармон, выконваю ўсе правілы рэлігіі. Я ня п'ю алькаголю, хоць дактары кажуць, што малыя порцыі могуць быць карыснымі для здароўя. Але ў Юце, між сваіх, мне ніякавата. Бо ў Бібліі пішацца, што трэба любіць Бога і блізкага. Ёсьць нейкая вышэйшая задума ў тым, што мы створаныя рознымі. Сьвет не скончаецца ў Солт-Лэйк-Сыты. Мая царква вельмі кансэрватыўная, і ў гэтым няма нічога кепскага, але людзі думаюць, што кансэрватыўнасьць — тое самае, што адмаўленьне іншага. А раней жа нас саміх, мармонаў, лічылі бадлам толькі таму, што мы былі іншымі.

## Мне няма калі з табой гаварыць

Калі я ўваходжу ў сады вакол Тэмплю, адчуваю магутнасьць мармонаў. Храм — велізарны, белы, па-амэрыканску эклектычны — мешаніна ўсіх архітэктурных стыляў. Побач дом прарока Джозэфа Сміта — пыхлівы шматпавярховы будынак 30-х гадоў, некалі самы прэстыжны гатэль Солт-Лэйк-Сыты, сёньня — пэрліна ў мармонскай кароне. За тры крокі — шкляная вежа адміністрацыі царквы; зь верхняга паверху адкрываецца цудоўны від на горы, Вялікае Салёнае Возера, найбольшы ў сьвеце кар'ер медзі, які выглядае нібы кратэр гіганцкага вулкану. Са шкляной вежы кіруюць мармонскай імпэрыяй: 11 мільёнаў вернікаў, тысячы місіянэраў, цэрквы, вучэльні, банкі, прадпрыемствы, гатэлі, кар'еры.

Па садох Тэмплю нельга шпацыраваць самотна. Ужо пры брамах, зьвернутых на чатыры бакі сьвету, падпільноўваюць маладыя місіянэркі, ладныя, у аднолькавых шэрых гарнітурах і шэра-чорных плашчах. Яны пытаюцца:

— Ці патрэбны праваднік?

Гарды, невысочанькая бляндынка, па волі царквы прысланая ў Солт-Лэйк-Сыты з Канады, паказвае мне здымкі багатых пакояў храму і ўсхвалявана пытаецца:

— Праўда ж, мы і ў мастацтве найлепш у сьвеце служым Госпаду?

Яна праводзіць мяне да Каўчэгу; па-над вялізнай заляй пад круглай столлю, што нагадвае плянэтарый, стаіць шматмэтровая фігура Хрыста, а з дынамікаў, схаваных у мурах, гучыць вучэньне анёла Мароні на ўсіх мовах сьвету. Гарды кажа:

— Гэта самае дасканалае месца ў сьвеце.

Яна пачынае расповед пра мармонаў, пра пакуты Джозэфа Сміта і першых сьвятых апошніх дзён, але маўчыць пра караван, зьнішчаны пад Маўнтын Мэдаў. Ад ейных словаў вее гонарам за беспамылковасьць прарокаў, захапленьне веліччу царквы.

— Ці ведаеш ты, што, калі недзе ў сьвеце здараецца землятрус, гурзавікі з Царквы Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён першыя прывозяць дапамогу? Ці ведаеш, што мармон пры патрэбе заўжды можа разьлічваць на дапамогу братоў? Ці ведаеш, што ўсе мы тут, кожны, каго ты сустрэў у доме Джозэфа Сміта, служым царкве бясплатна? Ці ведаеш, якое гэта цудоўнае пачуцьцё?

А потым:

— Ці верыш ты ў Ісуса Хрыста? Ці ведаеш ты, што Хрыстос вернецца на Зямлю ў Амэрыцы? Ці ведаеш, што да збаўленьня вядзе адна дарога, запісаная на залатых таблічках анёла Мароні? А можа, ты ня згодны?

— Ня ведаю, як яно ёсьць, але мне здаецца, што да збаўленьня можа весьці шмат дарог.

— Слухай, — Гарды паблажліва пасьміхаецца мне. — Гэта прыгожыя забабоны. Шкада толькі, што ў забабонах — хлусьня замест праўды.

Я кажу, як Джэф:

— Ёсьць жа нейкая вышэйшая задума ў тым, што мы створаныя рознымі.

— Гэта праўда, людзі розныя, таму адны спазнаюць праўду, а іншыя — не. Твой прыяцель неасьцярожны.

— А калі ён мае рацыю?

— Прабач, мне ўжо няма калі з табой гаварыць.

## Тэлефон даверу

Калі Джэфу надакучвае слухаць па *FM*-радыё пра "шчасьце ў еднасьці", альбо пра "адзіную дарогу да збаўленьня", альбо: "Ня буду размаўляць зь людзьмі, якія хлешчуць піва вечарамі"; калі ён чуе прамову мясцовага палітыка: "Я нічога ня маю супраць гомасэксуалістаў — пры ўмове, што яны жывуць ня ў Юце", — ён звоніць на радыёстанцыю, па якой выступае палітык, і кажа: "Я згодны з сэнатарам і хачу, каб усіх пэдзікаў выслалі з Солт-Лэйк-Сыты на Месяц". Ён чуе свой голас у прыёмніку і сам сябе пытаецца: адчуюць слухачы іронію ці наадварот — на наступных выбарах падтрымаюць сэнатара?

Потым ён шукае адказ на пытаньне: чаму ў пабожным Солт-Лэйк-Сыты рэзка расьце злачыннасьць, хаця агульнаамэрыканская статыстыка адзначае ейны спад? Альбо чаму ў горадзе штораз болей алькаголікаў і наркаманаў? А асабліва — чаму дзеці "самых шчасьлівых людзей у сьвеце" напярэдадне па колькасьці самагубстваў? Часам яму прыходзяць на розум адказы, якіх ён баіцца. Бо вельмі цяжка сказаць: можа, гэта нашая віна?

**Паводле *Gazety Wyborczej***



Мармоны вядуць актыўную місіянерскую дзейнасьць па ўсім сьвеце.

**Адэпты Царквы Сьвятых Апошніх Дзён верацьь, што Кніга Мармона, перададзеная ў 1832 г. Джозэфу Сьміту, зьмяшчае гісторыю народаў, якія пакінулі Ерусалім да збуданьня Бабілёнскае вежы (каля 600 г. да н.э.). Яны прывандравалі на амэрыканскі кантынэнт. Два народы згінулі, застаўся толькі народ ламанітаў, ад якіх пайшлі сучасныя індзейцы. Мармонства лічыцца адзінай спрадвечна амэрыканскай рэлігіяй, мармоны — вялікія патрыёты Амэрыкі. Паколькі яны законапаслухмяныя і маральна ўстойлівыя грамадзяне, многія зь іх — агенты ФБР і ЦРУ. Сярод іх шмат багатыроў, дый сама царква вельмі заможная. Солт-Лэйк-Сыты — адзін з самых дагледжаных гарадоў у ЗША. Узімку там асабліва бурнае жыцьцё, бо навакольныя горы — адзін з найлепшых у сьвеце лыжных курортаў. Хмары, што прыходзяць з захаду, зьбіраюць вільгаць з возера і засыпаюць горад і горы пяцьцю мэтрамі сьнегу штогод. Але самае цікавае месца ў Солт-Лэйк-Сыты — безумоўна, бібліятэка Генэалягічнага таварыства Юты.**



Тэмпль - галоўная бажніца Солт-Лэйк-Сыты

in memoriam

# Памяці Акадэміка

Іларыён Ігнаценка працаваў на адной з самых саветызаваных дзялянак беларускай гісторыі — дасьледаваў падзеі рэвалюцыі 1917 г. і ўсё, што сталася ў наступныя некалькі гадоў. Цытаты зь пісаніны некаторых "дасьледчыкаў" гэтага пэрыяду ў сёньняшніх студэнтаў гістфаку выклікаюць сьмех. Аднак ужо ў адной са сваіх першых манаграфіяў (1962 г.), прысьвечанай ролі найбяднейшага сялянства ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, дасьледчык месцамі выйшаў за рамкі ідэалягічных канонаў, паспрабаваўшы разгледзець уплыў на сялянства беларускіх нацыянальных партыяў. Наглядчыкі ад ідэалёгіі ўбачылі ў працы тады яшчэ маладога гісторыка ерась, і ў цэнтральным партыйным часопісе, маскоўскім "Коммунисте", адразу ж зьявілася адмоўная рэцэнзія на публікацыю. Ератычнымі здаваліся наглядчыкам і меркаваньні Ігнаценкі аб тым, што ўтварэньне БССР было зьвязаў, зьвязанай з фактам абвяшчэньня БНР, што БССР стваралася ня дзеля задавальненьня нацыянальных памкненьняў беларусаў, а як палітычны буфэр перад савецкай Расеяй, што ў Беларусі вырашальным фактарам рэвалюцыі была не рабочая кляса, а зрадыкалізаванае войска. І ўжо ніяк не ўкладалася ў сталінскі "*Краткий курс истории ВКП(б)*" тэза пра тое, што Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта, уласна, і не рэвалюцыя, а бальшавіцкі пераварот. І хоць гэта гаварылася ўсьлед за Леніным, але хто сёньня памятае пра таго Леніна, а Ігнаценку чытаюць.

Калі ў 1973—74 г. вялося паляваньне на "беларускіх нацыяналістаў", Іларыён Ігнаценка быў дырэктарам Інстытуту гісторыі. Зразумела, ён у тых умовах ня мог кінуцца іх бараніць, але ніякім чынам і не далучыўся да хору "*обличителей*", а заява, што ўся гэтая справа ня вартая і выедзенага яйка, шмат што значыла.

Ён быў над звыклай інстытуцкай мітусьнёй, над інтрыгамі і плёткамі, якіх хапае ў кожным калектыве. Быў сьветлы розумам, разважлівы і грунтоўны. Быў высокі і прыгожы, нейкі нават велічны. Быў сапраўдным Акадэмікам. Не прадвызначаным недзе ў адпаведным аддзеле ЦК, а Акадэмікам па сутнасьці гэтага высокага навуковага званьня.

Між сабою нашага дырэктара мы называлі "Іларыёнам". У гэтым было і пабойваньне (можа, таму, што некалі працаваў пракурорам), і павага.

Іларыён Ігнаценка ня стаў рэвалюцыянэрам у беларускай гістарычнай навуцы, догмы савецка-партыйнай гістарыяграфіі яшчэ моцна трымалі яго. Аднак ён настойліва і з гадамі ўсё больш пасьпяхова спрабаваў вырвацца зь іхных халодных абдымкаў. Гэтым ён сярод Залескіх з так званага "гістарычнага клюбу" займеў апінію ератыка і адшчапенца, а сярод гісторыкаў — глыбокую пашану.

Навуковая эліта Інстытуту гісторыі, сярод якой быў цэлы спэктар — ад ільвоў да дыназаўраў, — на розных агульных пасяджэньнях па завядзёнцы займала першы рад крэслаў. На гэтых крэслах быў і Іларыён Ігнаценка. Але ён заўсёды сядаў ад самага краю, каля акна. Можа, каб быць бліжэй да сьвятла?



**Міхась Чарняўскі**

# Скарбніца мармонаў

**Шэсьць штольняў, высечаных у граніце гораў Уосэч, што высяцца на паўднёвым усходзе ад Солт-Лэйк-Сыты, зьмяшчаюць плён мурашлівай працы сотняў мармонскіх місіянэраў, якія з 1938 г. з апаратамі для мікрафільмаваньня шчыруюць у архівах дзясяткаў краінаў сьвету.**

У памяшканьнях, бясьпеку якіх ахоўваюць сталёвыя дзьверы з электроннымі замкамі, пад 200-мэтровай скалой, якая можа вытрымаць нават удар ядзернай бомбы, знаходзяцца арыгіналы мікрафільмаў са зьвесткамі пра нараджэньні, шлюбы і сьмерці двух мільярдаў чалавек. Абвестка мармонскай генэалягічнай бібліятэкі сьціпла паперэджвае: "Ня варта спадзявацца, нібы ў нас ёсьць дакумэнты ўсіх людзей, што калі-кольвечы жылі на Зямлі".

Мікрафільмуючы дакумэнты, мармонскія місіянэры заўжды робяць два арыгінальныя пазытывы на мікрафільмавай стужцы. Пасьля спраўджаньня іхнай тэхнічнай якасьці адзін арыгінал перасылаюць у штучную пячору ў сэрцы Скалістых Гораў. Падземныя памяшканьні, акрамя натуральнай сталай тэмпэратуры, маюць дадатковыя сыстэмы кандыцыянаваньня паветра. Да нядаўнага часу ў штольню пускалі наведнікаў. Але колькі гадоў таму бібліятэкары, якія ўвесь час правяраюць стан мікрафільмаў, выявілі на некалькіх роліках споры грыбкоў. Грыбок выдалілі, але доступ у пячоры цяпер маюць толькі трыццаць супрацоўнікаў і вартаўнікоў. Нават горная дарога, якая вядзе да ўваходу, зарасла пустазельлем. Паказальнікаў на дарозе няма, уласна, навошта яны?

Другі арыгінал мікрафільму вяртаюць інстытуцыі, уласнасьцю якой ёсьць архіўныя кнігі. Для пераважнай бальшыні дзяржаўных і царкоўных архіваў гэта дастатковая кампэнсацыя за капіяваньне дакумэнтаў, якія рассыпаюцца ад старасьці. У Францыі, якая адчыніла брамы мэрыяў і парафіяў мармонскім місіянэрам, але забараніла фільмаваньне зьвестак, якія кажуць пра этнічнае паходжаньне памерлых, мармоны стварылі мікрафільмы 90% усіх даступных дакумэнтаў. Зрабілі працу, на якую не наважылася дырэкцыя Французкага нацыянальнага архіву.

Мармонская царква загадвае сваім вернікам, каб двойчы ў жыцьці яны выправіліся ў паўтарагадовую місію, папярэдне самастойна зарабіўшы грошы на сваё ўтрыманьне падчас яе. Першы раз — у 21 год, другі — пасьля таго як вырастуць дзеці. У бібліятэках і архівах звычайна сядзяць місіянэры другой катэгорыі — спакойныя, сыстэматычныя, вельмі дакладныя.

## 3300 у суткі

З арыгіналу, які знаходзіцца ў сярэдзіне гары, робіцца рабочая копіі мікрафільмаў, якія трапляюць у галоўную генэалягічную бібліятэку, разьмешчаную насупраць вялікага мармонскага храму ў самым цэнтры Солт-Лэйк-Сыты. У пяціпавярховым будынку дастаткова апаратаў для чытаньня мікрафільмаў і для здыманьня фатакопіяў, а таксама кампутараў і сталоў для тысячаў людзей адначасова.

Генэалягічная бібліятэка паўстала ў 1894 г. Але толькі супэрсучасны будынак, узьведзены ў 1985 г., і кампутарызацыя надалі ёй гэткі размах. Яна працуе без выходных ад сёмай раніцы да адзінаццатай вечара.

Кампутарызаваць усе зьвесткі зь мікрафільмаў не па сілах нават мармонам, якія працуюць зь цярплівасьцю ёгаў. Калекцыя расьце з хуткасьцю 5 тысячаў ролікаў мікрафільмаў штомесяц, што эквівалентна 15 тысячам 300-старонкавых кніг. Аднак Міжнародны генэалягічны індэкс, які зьмяшчае больш за 200 мільёнаў прозьвішчаў, і Кнігі продкаў, дзе ёсьць прозьвішчы васьмі мільёнаў памерлых душаў, ахрышчаных мармонамі, кампутарызаваны.

Тактыка шуканьня продкаў простая. Трэба ведаць назву мясцовасьці, а яшчэ лепей — парафіі, зь якой паходзяць продкі, і дату іх нараджэньня. Аднак нітка пошуку часта перарываецца, калі сям'я пераяжджала з аднае мясцовасьці ў другую. Трэба шукаць у суседніх парафіях, раіць Даніэль Шлітэр, куратар усходнеэўрапейскай калекцыі, і дадае, што найбольшая цяжкасьць — у зьменах назваў мясцовасьцяў, якія ў Беларусі, напрыклад, часта мяняліся са зрусіфікаваных на спольшчаныя.

У міжнародным аддзеле мармонскай генэалягічнай бібліятэкі, які займае ўвесь першы паверх лёху, зьмяшчаецца больш за 50 тысячаў мікрафільмаў з польскіх парафіяў. На мікрафільмы ўжо запісана больш за 60% польскіх архіўных кніг, і калі б праца ў польскіх архівах вялася хуткім тэмпам, яе можна было б скончыць за чатыры гады. У Польшчы ёсьць — гэта не азначае, што яны стала працуюць, — пяць мікрафільмавых камэраў, прывезеных мармонамі. Дзяржаўныя і касьцельныя архівы, акрамя аднаго арыгінальнага асобніка мікрафільму, атрымліваюць таксама апараты для прагляду стужак, а яшчэ 15 цэнтаў за кожны кадар мікрафільму. Такія выгадныя ўмовы не ўдалося вытаргаваць ніводнай іншай краіне.

Мармоны ня маюць звычкі скардзіцца, але ўсё ж зьдзівіліся, калі за мікрафільмаваньне "забужанскіх збораў", парафіяльных кніг з былых "крэсаў усходніх", кіраўнік адпаведнага архіву ў Варшаве запатрабаваў 50 цэнтаў за кадар, апроч дармовых камэраў і фільмаў. Згоды не дасягнулі.

Праблемы ёсьць у мармонаў у розных краінах. У Літве каталіцкі касьцёл не пагаджаецца на мікрафільмаваньне, спасылаючыся на вусную забарону Папы. Мармоны спраўдзілі ў Ватыкане, што аніякай забароны не было. Супрацьўляюцца таксама чэскія ўлады.

## Чартэр з Парыжу

Суседні зь бібліятэкай, але аніякім чынам не зьвязаны з мармонскай царквой гатэль "Говард Джонсан", уласна, выкшвае выключна на генэалягічным турызьме. У клюбе гатэлю на першым паверсе — набор адпаведнай літаратуры і тэрмінал кампутара мармонскай бібліятэкі.

Французаў у Солт-Лэйк-Сыты, напрыклад, прывозяць спэцыяльныя чартэры "*Air France*". У Парыжы, вядома, ёсьць генэалягічнае таварыства, ёсьць архівы й мікрафільмы і нават філія мармонскай генэалягічнай бібліятэкі. Але доступ да мікрафільмаў цяжэйшы, фатакопіі зь мікрафільмаў даражэй каштуюць, чакаць трэба даўжэй.

**У Солт-Лэйк-Сыты за старонку копіі плацяць 15 цэнтаў. Параўнайце: пры замове пошуку радаводу ў Нацыянальным гістарычным архіве (НГА) Беларусі трэба ўнесьці 50 000 рублёў авансам (~30 USD), кожны працоўны дзень архіўнага работніка аплачваецца ў памеры 20 000 рублёў (~12 USD). Як зазначылі супрацоўнікі архіву, пошук і складаньне радаводу займаюць каля 15 дзён.**

Ксэракапіяваньне адной старонкі дакумэнтаў у НГА каштуе 200 рублёў (~0,12 USD), але існуе плата за прадастаўленьне дакумэнтаў для ксэракапіяваньня: звычайныя дакумэнты аплачваюцца ў памеры 30% "мінімалкі" (цяперашнія 3000 рублёў, крыху менш за 2 USD), а "асаблівы каштоўныя" — 40% (адпаведна 4000 рублёў, альбо 2,35 USD).

А Галоўная дырэкцыя Дзяржаўных архіваў у Варшаве за пачатак генэалягічных росшукаў бярэ 20 даляраў уступнай аплаты, 20 даляраў за гадзіну працы пры пошуку актаў і 20 даляраў за ксэракопію кожнага знойдзенага дакумэнту.



*Пад 200-мэтровай скалой, якая можа вытрымаць удар ядзернай бомбы, мармоны трымаюць мікрафільмы са зьвесткамі пра нараджэньні, шлюбы і сьмерці двух мільярдаў чалавек.*

## Душа, стань мармонам

Звычай хрышчэньня мёртвых вынікае зь веры мармонаў у тое, што кожная душа можа заслужыць сабе збаўленьне ня толькі ў цяперашнім жыцьці, але і пасьля фізычнае сьмерці. У музэі на тэрыторыі мармонскага храму ў Солт-Лэйк-Сыты ёсьць вялікая фрэска з выявамі Хрыста, людзей, якіх ён навучае, і паселых на іншым баку абраза душаў, апранутых у белыя шаты. Але атрымаць магчымасьць збаўленьня можа толькі душа, навернутая ў рэлігію Царквы Ісуса Хрыста Сьвятых Апошніх Дзён. Мармоны падкрэсьліваюць, што ахрышчаная імі душа зусім ня мусіць карыстацца адкрытай для яе магчымасьцю зрабіцца мармонам.

"Гэта справа веры. Калі душа продка не гатовая паверыць, хрост ёй папросту ня трэба. Калі яна дасьпела да прыняцьця веры, атрымлівае шанец увайсьці ў кола сьвятых", — тлумачыла мне жыхарка Солт-Лэйк-Сыты Лідзія Раўская, якая некалькі гадоў таму перайшла ў мармонскую Царкву. Раўская паўтара году была мармонскай місіянэркай сярод суайчыньнікаў у Чыкага, але прызнае, што нікога ня здолела навярнуць. "Галоўная перашкода — што яны п'юць і паляць і ня хочуць адмовіцца ад гэтых грахоў", — кажа Раўская.

Першы прарок мармонскай Царквы Джозэф Сьміт вучыў, што Бог насяліў зямлю душамі і таму абавязак людзей — уступаць у шлюб і пладзіць дзяцей, каб душы маглі ўцялесьніцца. Пасьля сьмерці чалавека ягоная душа трапляе ў Божае Валадарства. Там душы дзеляцца на тры катэгорыі. Найвышэйшая — годныя чальцы мармонскай Царквы. Душам мёртвых праз хрост трэба даць шанец апынуцца ў той групе.

Ня ўсе, аднак, згаджаюцца з мармонскім тлумачэньнем хрышчэньня мёртвых. Летась у лістападзе з рэзкім пратэстам выступіла дзейнае ў Нью-Ёрку жыдоўскае Задзіночаньне ахвяраў Галакосту, якое адкрыла, што ў Міжнародным генэалягічным індэксе мармонскай Царквы апынулася каля 380 тысячаў пасьмяротна ахрышчаных жыдоў — ахвяраў канцэнтрацыйных лягераў. Мармоны пагадзіліся прыбраць гэтыя прозьвішчы з індэксу і паўтарылі заклік да сваіх вернікаў, каб тыя хрысьцілі толькі ўласных продкаў, іншых жа памерлых — толькі пасьля атрыманьня спэцыяльнага дазволу ад іх жывых нашчадкаў.

**Паводле *Gazety Wyborczej***

# З Лахвы — у Юту

**Говард Марк Гілман нарадзіўся ў ЗША. Гэта звычайны амэрыканец, праграміст, жыхар невялічкага "спальнага" гарадка за пяць кілямэтраў ад Нью-Ёрку. У будні працуе, у выходныя дні бавіцца на дансынгу — што паводле нашых уяўленьняў дзіўнавата для сталага мужчыны. Часам наведвае сынагогу, але значна часцей — мармонскія генэалягічныя бібліятэкі, бо спадзяецца праз іх адшукаць сваякоў у Беларусі.**

Продкі ягоныя жылі ў Лунінцы. Ягоная бабуля разам з сынам, бацькам Говарда, здолела пазьбегнуць лёсу ахвяраў Галакосту. Яны ўцяклі з краіны і неяк чынам трапілі ў ЗША. Зараз немагчыма ўжо высьветліць усе падрабязнасьці гэтай гісторыі, бо ані бацька, ані бабуля ніколі не распавядалі пра падзеі тых часоў. Толькі пасьля іхнай сьмерці Говард упершыню даведаўся пра Галакост і пра гібель сваякоў.

У Говарда не стае рашучасьці наведаць магілы сваіх продкаў. Пра родных мясьціны яму распавядаў кузэн, што нарадзіўся ў Лахве, паміж Лунінцом і Мікашэвічамі. Летась кузэн наведаў Беларусь і казаў, што дарога ў Лунінец доўгая і цяжкая, аўтамабіляў напракат няма, гарачай вады ў правінцыйных гатэлях — таксама. На шашы немагчыма купіць аніякай ежы, а вада атручаная радыяцыяй. Што праўда, людзі ў вёсках вельмі сардэчныя, але жывуць дужа бедна. На вуліцах можна яшчэ ўбачыць каня, запрэжанага ў калёсы.



Пасьля гэткіх аповедаў Гілман любіць Беларусь на адлегласьці. Ён вывучае сваю генэалёгію ў бібліятэках мармонаў і знаходзіць там шмат цікавага. Прыкладам, адшукаў рэвізкія сьпісы з Кажан-Гарадка, дзе нарадзілася ягоная бабуля. Рэвізкі сьпіс — гэта казённая папера, у якой пазначаныя нараджэньні, шлюбы, сьмерці; нешта накшталт сучаснай натарыяльнай кнігі. Царская ўлады складалі гэткія сьпісы дзеля патрэбаў падаткаабкладаньня, а сёньня нашчадкі карыстаюцца імі, каб аднавіць свой радавод. У бібліятэках мармонаў дзясяткі тысячаў гэткіх сьпісаў. Да чытачоў яны трапляюць выключна ў выглядзе мікрафільмаў. Але Говард пэўны, што мармоны маюць і арыгіналы, купленыя ў беларускіх чыноўнікаў за вялікія грошы. Цяжка сказаць, ці праўда гэта.

**Юлія Андрэева**

# Таварыства жывых паэтак

**Нядаўна я зрабіў для сябе нечаканае адкрыцьцё. Які гэта кайф — перакладаць жывых паэтаў! Ня "вечна жывых", а жывых. Тваіх сучасьнікаў, аддзеленых ад цябе адлегласьцю ў непрацяглае падарожжа цягніком і няшчыльнаю перагародкаю знаёмай табе мовы. Перакладаць клясыкаў — гэта таксама файна, але хіба папросіш у Гарацыя ці Бадлера "скінуць" мэйлам апошнія вершы? Хіба атрымаеш ад іх апошнюю кнігу з аўтографам? Хіба дасі ім на рэцэнзію новыя пераклады?**

**Апошняе — самае істотнае. Перакладаючы сучасьнікаў, па-іншаму ўсьведамляеш сваю пэрсанальную адказнасьць за зробленае. Дэнды Бадлер пагардліва не заўважыць тваіх памылак, а памяркоўны Гарацы адно па-філязофску ўсьміхнецца. Абодва ня стануць прасякацца тваёй непісьменнасьцю й нязданасьцю: на гэта ёсьць разгалінаваны штат спэцыялістаў ад гісторыі літаратуры й тэорыі перакладу! Вось жа, хочаш даведацца, чаго варты, — перакладзі таленавітага аднагодка, ды шчэ й з блізкай мовы, каб ён мог ацаніць усё. Тым больш калі "ён" — гэта насамрэч яна.**

**Так, ва ўкраінскай літаратуры — цэлае сузор'е файных паэтак. Маладзейшых ад Лесі Ўкраінкі й Аксаны Забужкі. Маладзейшых ад трыццаці. Але ўжо — нечуваная для сонных беларускіх падручнікаў рэч — уключаных у школьную праграму. Паэтак, вядомых ва Ўкраіне і, безумоўна, вартых увагі беларускага чытача. Згадайма, што польскі часопіс *"Literatura na świecie"* ў нумары, прысьвечаным сучаснай украінскай літаратуры (нумару беларускай літаратуры дагэтуль няма!), зьмясьціў падборкі вершаў Галіны Петрасаняк і Марыяны Кіяноўскай.**

**Дзьве львоўскія паэткі — Марыяна Кіяноўская й Мар'яна Саўка — маюць вельмі падобныя, але ж адрозныя імёны. Так і ў творчасьці. На першы пагляд, нешта вельмі блізкае міжсобку. Абедзьве дэманструюць падкрэсьлена жаночую й рафінавана кніжную (гэта не адно й тое самае!) паэзію. Абедзьве маюць высокую філялягічную культуру і дэманструюць яе, ані каліва не саромеючыся сваёй "далёкасьці ад народу". (Вось чаго, здаецца, бракуе нашым маладым паэтам і паэткам, што збольшага наагул не чытаюць, каб не псаваць сабе настрою, пабачыўшы ўласныя "геніяльныя знаходкі" ў тэкстах папярэднікаў!) Але тут падабенствы й сканчаюцца.**

**Марыяна Кіяноўская валодае фантастычнымі крэатыўнымі здольнасьцямі, спараджаючы падазрона вялікія тэкставыя масывы падазрона высокай мастацкай якасьці. На момант нашага знаёмства яна стварыла васямнаццаць вянкоў санэтаў (!), а само знаёмства за столікам львоўскай кавярні было ўпрыгожанае тым, што Марыяна літаральна за пару хвілін, на вачах у агаломшанага мяне, стварыла акрасанэт на маё імя й прозьвішча. Але найлепшае з усяго напісанага ёю — гэта ўсё-такі лірычныя мініяцюры, што зачароўваюць рытмам і гукапісам, зваротам да "агульных месцаў" культуры, якія не замінаюць шчырасьці асабістых прызнаньняў.**

**Наколькі лірыка Кіяноўскай музычная, арганізаваная паводле ўсіх законаў мілагучнасьці, настолькі вершы Мар'яны Саўкі плястычныя, адрасаваныя хутчэй ня вуху, а воку. І нічога дзіўнага: дастаткова зірнуць на графіку, якой аздобіла свой зборнік "Малюнкі на камені" сама аўтарка. Што асабліва цешыць мяне, дык гэта іронія й самаіронія, якая зьявілася ў апошніх вершах Мар'яны.**

**На фоне дзьвюх львоўскіх паэтак вершы Галіны Петрасаняк уражваюць сваёй стрыманасьцю ды "аскетычнасьцю", ашчаднасьцю што да ўжываньня традыцыйных паэтычных тропаў, расхістанасьцю рытму й фізычна адчувальнай сэнсавай "шчыльнасьцю" радка. Тэматычна гэта амаль заўсёды падарожжа, амаль заўсёды сустрэча зь іншымі культурамі, у люстэрку якіх яскрава відаць і свая ўласная. Гэта новыя й новыя ўцёкі ў вонкавы сьвет — і нязьменнае вяртаньне да сябе самой. Падпісваючы сваю кніжку "Сьвятло ўскраінаў", Галя пажадала мне "далёкіх вандровак і шчасьлівых вяртаньняў". Не знаходжу лепшай мэтафары для характарыстыкі яе ўласнай творчасьці.**

**Андрэй Хадановіч**



## Марыяна Кіяноўская



* * *

Ты Авідый, хоць, зрэшты, зусім не такі,
Бо жывеш у сталіцы й пакуль не ў апале,
Толькі вершы твае філіграннымі сталі,
І жанчыны імкнуць да цябе напрасткі.
Водар кожнай, бы ў корсткіх[1] напояў, п'янкі.
Залатыя і сьветлыя, нібы эмалі.
Іх навука каханьня штодня дасканалей,
Іх пяшчота, іх станы, іх сьмех шапаткі...
Альбо, можа, ня так: ёсьць прырода ракі,
І другі раз табе не ўвайсьці ў яе хвалі.
Толькі словы і сны надалей захавалі
Найінтымнейшы з дотыкаў — поціск рукі.
Непрытомнасьць із стомаю ў Томах вякі.
Так Вэрлен палка прагнуў памерці ў Італіі.
З аднаго боку — цнота, з другога — рэгаліі.
Ты — Авідый, хоць, зрэшты, зусім не такі.

* * *

Геральдыка жыцьця. Пусты магільнік.
Дзе, як бяльмо, спынілася маланка —
Аж на царкоўным купале. О'Божа!
Лаўровы ліст кухаркаю ўжываны.
Самотнік плаціць вершамі брудэрцы[2].
Галінкі сонца й каранёў ня маюць
Пад залацістым небам. Пачынае
Вандроўку Марка Пола. Па абтоках[3].
Тубыльцы. І магільнік. Без крыжоў.
І жоўтая ў глыбінях каравэля.

Сырэны плачуць, стогне Адысэй,
Бо ўжо ня можа заставацца панам.
Гудзе ў вушах натуга, нібы рана:
Адзіны раз пачуй — і звар'яцей.
Адзіны раз пачуй — і звар'яцей...
Адзіны раз памерці — і навек:
Зламаць прастору, загарнуцца ў стому.
Здарожаны і дзіўны чалавек,
Што дваццаць год вяртаецца дадому.
Ды нешта ёсьць, нязнанае яму,
Бы ўтоеныя ад дзіцяці рэчы.
Сырэны... Морак мора... Дык каму
Накіне Пэнэлёпа плашч на плечы?

* * *

Я брыла наўздагад. На строме расьцьвіў мігдаль.
Ружавела ў паветры сонца — ішло да ночы...
І каханьне маё выгрызала сьлязамі вочы,
І, як словаў часамі, паветра ня стала амаль.
Што сказаць мне табе? Ці веры дасі цяпер?
Безназоўнасьць і пустка — ні імя, ні расьліны.
Я брыла наўздагад. І ў храмах маіх хімэр
Трапяталіся птушкі — у Творцы ня стала гліны.

[1] даўкі *(тут і далей паводле Ластоўскага)*
[2] прастытутка
[3] астравы

## Мар'яна Саўка



* * *

Не прасьціна, а экран. Падымаюцца цені.
Нашыя целы суладныя ў перапляценьні
Доўгіх запясьцяў, тонкіх пальцаў, грудзей.
Сьвечка патрэсквае сонна. Вецер гудзе.

Не прасьціна, а сэанс рэтраспэкцыі. У ім
Кадры падрогваюць, быццам у фільме нямым.
Толькі адзін эпізод абрываецца, дзе
Сьнег манатонны за белым экранам ідзе.

* * *

На вуліцы Ліста ў месяц, відаць, лістапад,
Навала празрыстых небёсаў у чорнай аправе.
І гэты мінак — загарэлы і юны Сындбад.
І мы — не чужыя. І стрэнемся, можа, на каве.

А сьнілася: мора, трывожнае мора ўначы.
Чарнее прычал у закінутым порце. А потым,
Узяўшы на плечы сувой дарагое парчы,
Ты сходзіш на бераг багатым купцом-мараходам.

Апошні агеньчык пагасяць кварталы ўваччу,
І мора заціхне, і зоры зіхцець будуць цьмяна,
Ты русую дзеўчыну ў срэбную туліш парчу —
І міг не мінае, і пахне русінка мядзьвяна.

На вуліцы Ліста танцуюць сьлязінкі ў вачах
Ад шалу асеньняга сонца. Канец лістапада.
У шэрых сумётах, відаць, парахнее парча.
Калюгі і брук — нібы лялечны порт для Сындбада.

*ДЫПТЫХ (2)*

Маеш вёслы і човен. З табой перавозьнік у пары.
Паабапал ракі сонца плямы рудыя кладзе.
Валасы твае ў хвалях — заблытаны мокры гербарый,
Пара бледных далоняў — бы ластаўкі ў чорнай вадзе.

Толькі хто вы і дзе? Перавозьнік прамовіць ня ў змозе.
Цераз тоўшчу вады, як у росчын старога акна,
Гэты сьвет пераходзіць. А хто і каго перавозіць —
Не пытайся, бо ўздымецца бура зь пяшчанага дна.

## Галіна Петрасаняк

* * *

Мы перайшлі мяжу. Мы рвалі краскі ў чужых палёх,
цішком вымаўляючы словы пачутай першы раз мовы,
спалі пад чыстым небам, і бацькаўшчына ў нашых снох
зьяўлялася ўсе радзей — амаль заўсёды зімовы
суворы ды велічны краявід, і кожны яго спакмень[1]
пячатку нязьменнасьці нёс. І мы ўсё менш дасканала
згадвалі птушак яе галасы, пах дому, родны агмень —
нам гэта хутчэй дарэчным здавалася, чым замінала.
Краіна, што мы абралі, была ўжо сваёю для нас.
Захапленьне быцьцём тут сягала свайго апагею.
Ды ў самых нявінных размовах бянтэжыла нас падчас
імя дзівака з Ітакі, загадкавага Адысэя.

* * *

З вышыні птушынага лёту — дахі, вежы і купалы
прыцярушанай сьнежаньскім сьнегам непараўнанай Прагі.
Хай асеньняга дня мэлёдыя будзе гучаць з імглы,
калі даўнія праскія віны тваю спаталялі прагу
далёкіх вандровак і ўражаньняў. Ціха гас
парк на схіле й палітрай сваёю нагадваў фрэску,
музыкі на Карлавым мосьце ігралі восеньскі джаз,
устурбаваны жаночы голас кагосьці клікаў па-чэску.
Выпадковаму госьцю, які свой пакінуў дом,
сьвет, што ня тое каб новы — хутчэй зусім не адкрыты,
жыцьцё падавалася музыкай Дворжака ці вітражом
сэцэсыйным Альфонса Мухі ў саборы Сьвятога Віта.

* * *

Назаўсёды застацца ў школе дамініканак наўпоблізь Вены,
маліцца выключна ўкраінскаю, сёстрам на дзіва.
Часам пасьля вячэры родным пісаць сумленна,
пытаючыся, як здароўе й ці гародніна дома ўрадзіла.
Штодзённа хадзіць на рынак па *Schlossbergstrasse*,
прызвычаіцца да дастатку, набыць машыну,
жыць у згодзе з сабою, падзяку складаючы Спасу,
што ўсё выйшла так добра. І раптам бяз дай прычыны,
гадоў недзе праз дваццаць, калі ўжо ніхто ня будзе
пазнаваць у табе чужынку, прачнуцца зранку,
памаліцца ўкраінскаю зноў — хай дзівяцца людзі —
і, зь сябе не скідаючы вопраткі дамініканкі,
ведаючы дакладна, што і на што мяняеш,
рушыць, каб не вяртацца больш, дарогай прамой,
дзівячы тых, хто ня думаў, што слова "айчына" мае
аж так неагорную ёмістасьць.
І зьдзівіцца самой.

[1] аб'ект

## Юры Андруховіч

# Канфэрансы



## Петрасаняк

У сваіх лістох у Зальцбург я пісаў пра яе ўсякія небыліцы, якія мяжуюць з праўдаю.

Я, да прыкладу, пісаў, што яна паходзіць з найдалейшай у сьвеце вёскі, вакол якой адно горы, а далей ужо толькі мядзьведзі й мяжа з Румыніяй, то бок з Трансыльваніяй, краінай вампіраў. Зрэшты, для вампіраў не існуе ўкраінска-румынскай мяжы. З гэтай прычыны людзі ў ейнай вёсцы паміраюць ад гарэлкі й ціхага зьнякроўленьня. Хоць сама яна лічыць, быццам гэта час спыніўся.

Я пісаў, што ў адной са сваіх шыфраграмаў яна раптам ужыла недвухсэнсоўны выраз "Мы перайшлі мяжу. Мы рвалі краскі ў чужых палёх". Ці мелася на ўвазе менавіта румынская мяжа, я ня ведаю. Зрэшты, свайго часу яе бачылі таксама ў Празе, Вене, ня кажучы ўжо пра меншыя й найменшыя гарады старой Эўропы, дзе яна нібыта зарабляла сабе на вершы.

Я пісаў, што выпадкова ўбачыў у яе срэбным люстэрку. Гэта можа азначаць толькі адно — кантакты з аднарогам. Я пісаў, што ўсе мае спробы зазірнуць у ейнае люстэрка цераз плячо сканчаліся нічым, і гэта тым болей красамоўна.

Я таксама пісаў, што яе падарожжы ня маюць нейкага глыбейшага зьместу, апрача назіраньня за зьменай ляндшафту, але што можа быць глыбейшым? У сувязі з гэтым яна мусіць працаваць на чыюсьці выведку (найхутчэй — адразу на некалькі выведак альбо на ўсе бяз вынятку выведкі). Бо зьбіраньне інфармацыі пра ляндшафты ёсьць ці ня самым галоўным заняткам выведнікаў.

Я нават дазволіў сабе запытацца... Не, не пра гэта.

Я таксама пісаў пра самотнасьць, добрае віно, бэхераўку й баравічку, сьлівовіцу й *Zwetschkenschnaps*, пра ўрыўкі чужых моваў, пра поўдзень, дакладней — паўднёвы захад, схілы рэк, рэха дзён, храмы сноў, пра парк на схіле, пра, вядома ж, дрэвы, пра кожнае асобнае паркавае дрэва, пра верасьнёвы кайф у Станіславе, я да таго ж ані словам не згадаў пра музыкаў на Карлавым мосьце, як і пра ўдзячнасьць, дарэчнасьць, дакладнасьць, нагляднасьць, вышуканасьць, асацыятыўнасьць, сафійнасьць, сафічнасьць, арфічнасьць і мэтафарычнасьць усяго, на што ёй удаецца намякнуць.

Затое я з прыемнасьцю напісаў пра ейнае ліставаньне зь Ёзафам Ротам і Стэфанам Цвайгам, раптоўна абарванае зьяўленьнем Бруна Шульца. Хоць зь вядомых прычынаў усё-ткі закрэсьліў напісанае.

Але я не закрэсьліваў таго, што саму сябе яна неяк назвала "пералётным птахам", чаго выявілася дастаткова для пачатку сьледчай справы пад грыфам "*Rara Avis*" — словазлучэньнем, якое не патрабуе перакладу з лаціны, асабліва сёньня.

У апошнім лісьце я толькі пацьвердзіў вэр-

Лявон Вольскі

# ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

апавяданьне

УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

Мар'ян Адольфавіч спускаўся ў ліфце. Побач паскульгольваў ягоны (хутчэй жончын, чымся ягоны) сабака Рэй, малады баксэр. Мар'ян Адольфавіч з паўгадзінкі як вярнуўся са сваёй абрыдлай работы. Дзяржаўнае радыё, сельская гаспадарка, руцінная праца канчаткова ўжо задзяўблі нашага героя. У свае 40 ён думаў адно пра тое, каб хутчэй праляцелі гады, каб хутчэй пэнсія. Жыў бы на лецішчы, у горад наяжджаў па правіянт, па насеньне. А тут, у гэтай кватэры хай бы жылі жонка з дачкой. Кватэру яны атрымалі 15 гадоў таму. Добры раён, цэнтар, праспэкт... Нібыта і любіў ён гэтую хату, прызвычаіўся да яе за доўгія гады, але так ужо дастала яго пастарэлая жонка сваімі штогадзіннымі патрабаваньнямі й прэтэнзіямі дый ейная (нібыта не ягоная) дачка, ва ўсім салідарная са сваёй мамаю, што Мар'ян Адольфавіч гатовы быў кінуць усё зараз жа, калі б толькі надарылася мажлівасьць. Якая мажлівасьць? Пэнсія, вось якая. Іншых варыянтаў Мар'ян Адольфавіч не ўяўляў. Бо ягонае жыцьцё было падпарадкаванае штодзённай схеме, і гэтая схема не дазваляла, напрыклад, закахацца ў маладзенькую супрацоўніцу ці займець адзюльтэр з гаспадыняй радыйнае сталоўкі Аняй і цераз гэтую акалічнасьць кінуць сям'ю. Абрыдлая праца ўсё ж прыносіла нейкія грошы і давала якоесьці, нібыта прывеліяванае становішча ў мясцовай іерархіі — *супрацоўнік дзяржаўнага радыё*.

З работы ён прыйшоў нападпітку. Не, ня дужа п'яны, зьлёгку падпіты. Гэта было ягоным нармальным станам. Бо хадзіць па звыклых да болю радыйных калідорах штодня, пісаць нейкія, быццам бы праблемныя матэрыялы, асьвятляць жыцьцё беларускіх калгасаў, палеткаў і садоў безь дзяжурных ста пяцідзесяці ў абед і ста пасьля работы не ўяўлялася магчымым. Мар'ян разумеў, што гэта просты шлях да алькагалізму, але, маўляў, лёс склаўся так... Ну ня мог ён сабе адмовіць у гэтым штодзённым допінгу, дзякуючы якому ягоны твар азызнуў, а вочы займелі "стомлены ад жыцьця" выраз. Зрэшты, такіх, як ён, ціхіх выпівохаў было там, на гэтай працы, болей за палову. Звычайная практыка.

І вось ён выйшаў зь дзьвярэй пад'езду й пашыбаваў долу, у невялікі, досыць прыгожы парк. Там усе выгульвалі сваіх сабакаў, моладзь расьпівала піва, трапляліся парачкі. Яшчэ ніжэй парк пераходзіў у недагледжаны густы зараснік. Мар'ян Адольфавіч любіў шпацыраваць з сабачкам якраз там, пры сажалцы, дзе было цемнавата, змрочна й бязьлюдна. Час ад часу ён сустракаў там свайго суседа Рыгора, высокага здаровага мужыка сярэдняга веку. Рыгор ранкам і ўвечары рабіў прабежкі, а потым займаўся на снарадах. Сваім магутным круглым азадкам ён нагадваў Мар'яну Адольфавічу ягонага вайсковага сяржанта, як той стаяў перад шэрагам: "Раньсьсьмірна!", — і здавалася, што ягонае х/б зараз лусьне па шве.

Толькі Мар'ян Адольфавіч падумаў пра Рыгора, як груваcткая фігура ўзьнікла з-за дрэваў. Рыгор працаваў інструктарам у нейкай ахоўнай канторы, штодня займаўся, каб ня страціць форму, меў здаровы колер твару, адначасова ўпэўнены й неразумны вочы, моцна разьвітыя надброўныя выгбы і ваяўнічыя кавалерыйскія вусы.

Параўняўшыся з Мар'янам Адольфавічам, Рыгор, каб не спыняцца, не губляць тэмпу, пабег на месцы.

— Здароў, Мар'ян.

— Прывітаньне, — Мар'ян Адольфавіч не любіў гутарыць з Рыгорам, надта той быў "дубовы", дый размовы ўсе былі аднолькавыя:

— Как дзяла? — бадзёра, бегучы на месцы, спытаўся Рыгор.

— Ды што ў мяне можа зьмяніцца... Як заўжды.

— Ты, кстаці, Адольфавіч, напрасна п'ёш кожны дзень, — заўважыў Рыгор. — Так і сьпіцца можна. У мяне вот быў как-та пярыяд, як мяне ўволілі з арміі, дык тожа піў сільна. Так узяў жаж сябе ў рукі. Чаго і цябе жылаю.

— Ды колькі я там выпіў, — скрывіўся Мар'ян. — Шклянку якую...

— Шклянку сёньня, шклянку заўтра, глядзіш — і ўжо алькаголік. Не, праўда, завязывай, сасед, начынай спортам займацца. Бяры прымер зь мяне! — Рыгор зноўку зарагатаў.

— А што яшчэ рабіць, — звыкла пачаў наракаць на лёс Мар'ян Адольфавіч. — Нудна ўсё, абрыдла, дзень у дзень адно і тое ж.

— А патаму што не паставіў ты сабе цэлі ў жызьні. І вот усе вы так. Няма к чаму страміцца вам, вот у чом уся бяда.

— А ты да чаго імкнешся?

— Ну как да чаго? Вот стану дэпутатам, задам жару гэтым усім прахіндзеям!

— Якім? — панура запытаў Мар'ян.

— Ну, гэтым, што акапаліся ў правіцельстве. Мне б тока туды дабрацца. Усё бы перакраіў. Аны ж там нічога ня слышаць, ня знаюць. Сядзяць там па дзесяць лет. Ужо так далекі ад народа, як мы да Луны.

— Ай, зноў ты гэтую сваю песьню завёў. Надакучыла ўжо. Хто цябе туды возьме! Забудзься ты на гэта. Дый адукацыя ў цябе сам ведаеш якая...

— Дык што з таго! Адукацыя! Зато я талантлівы і жыву чаяніямі нашага народа, а ня лічнай выгадай. І вот увідзіш, Мар'ян, кагда-нібудзь я стану прэзідэнтам! А ты есьлі не паставіш сабе высокую цэль, то сап'ёшся, вот увідзіш! Давай! — і Рыгор ірвануў па зарослай сьцяжыне, сьвецячы сваім магутным сяржанцкім азадкам.

"Вар'ят", — звыкла й стомлена падумаў Мар'ян Адольфавіч і заглыбіўся ў зарасьнік. Сабачка Рэй панюхаў камель дрэва, незадаволена чхнуў і падняў нагу.

Ступаючы сярод папараці, Мар'ян Адольфавіч уявіў сябе за горадам, у лесе... Недзе побач Мар'янаў добраўпарадкаваны катэдж, дзе ёсьць усё неабходнае для жыцьця, а цяпер ён выйшаў у грыбы... Не, не ў грыбы, проста прахадзіцца, падыхаць лесам... Стоп! Што гэта за халера?!

Пасярод зарасьніку папараці пунсавела ладная, большая за вялікую ружу кветка! Мар'ян кінуўся да яе, уважліва агледзеў сьцябло. Так, гэта, безумоўна, зацьвіла папараць. Але яна ня можа цьвісьці! І тут да Мар'яна дайшло: *ён знайшоў Папараць-кветку!*

У мазгох ліхаманкава зьмяняліся словы, вобразы, урыўкі з прачытанае калісьці літаратуры. "Шчасьце, радасьць, любое жаданьне, як Залатая рыбка... Але як жадаць? Казаць услых ці самому сабе? І колькі жаданьняў выканае? Ці проста занесьці дадому, паставіць у ваду? Ці адкапаць з коранем, перасадзіць дома ў гаршчок? А жонка, дурніца гэтая? Не, дадому калі несьці, дык схаваць, каб ніхто не знайшоў. І ўсё ж такі, як жадаць? Як фармуляваць тое, чаго ты хочаш? А чаго я хачу? Я хачу спакойнага жыцьця на прыродзе... Ці яшчэ парыпацца, нажадаць сабе грошай, улады? Каб гэты галоўны рэдактар і самы галоўны шэф прыніжаліся перад табою. Поўзалі на каленях... Во была б карцінка! Трэба падумаць. Ня трэба сьпяшацца".

Рэй падбег да кветкі, панюхаў яе, чхнуў, узвыў і кінуўся прэч.

"Разумее нешта", — падумаў Мар'ян.

Урэшце ён вырашыў нічога сёньня не вырашаць, маўляў, усё адно малаверагодна, што да раніцы кветку знойдуць. А ўранку ён пойдзе на шпацыр з Рэем і... і нешта зробіць.

Уначы Мар'ян Адольфавіч ня спаў. Ён варочаўся й думаў. Розныя варыянты, як распарадзіцца нечаканым шчасьцем, круціліся ў ягоных запаленых мазгах. Прыходзілі абсурдныя, сьмелыя, нечаканыя думкі: "...Кіну ўсё, паеду ў Канаду ці, можа, лепей буду вандраваць, сьвет пабачу... А можа, замовіць сабе вечнае жыцьцё? Гледзячы колькі жаданьняў... А як жа вызначыць колькасьць іхную? Усё адно кветку трэба сарваць. Бо інакш дастанецца каму іншаму. Якому казлу". Ён так і ня здолеў заснуць. А сёмай (хацеў раней, але пабаяўся выклікаць падазрэньні ў жонкі) падняўся, узяў Рэя і, намагаючыся ісьці, як заўжды, нетаропка, пакіраваў у бок парку.

Вось і зарасьнік. Папараць, папараць, папараць... Кветкі не было. Месца знаёмае, Мар'ян шпацыруе тут штодня, памылка выключаная. Кветка была тут. Яшчэ ўчора ўвечары. "Я спазьніўся, — агаломшана гучала ў Мар'янавай галаве. — Як заўжды, спазьніўся. Яшчэ ўчора я мог зрабіць са сваім лёсам усё, што пажадаю, а цяпер... чакай пэнсіі, небарака!"

Выпіў ён з раніцы. Парушыў свой кодэкс. Але гарэлка ня брала, усю сьвядомасьць запоўніла цёмна-шэрая бясконцая скруха. Мар'ян Адольфавіч панура цягаўся па калідорах радыё, зрэшты, ніхто не зважаў на яго, як і заўсёды.

— Мар'яне! — раптам пачуў ён.

Гэта крычаў ягоны галоўны са свайго кабінэту. Мар'ян Адольфавіч мэлянхалічна й панура прасмактаўся ў дзьверы.

— Што трэба?

— Ты мне кінь гэта "што трэба"! — галоўны быў бадзёры, нават занадта. — Больш жызьні, Мар'ян! Пойдзеш сёньня на заданьне.

— Якое яшчэ заданьне? — млява пацікавіўся Мар'ян Адольфавіч.

— Сёньня прэзыдэнт агучвае новую пастанову па сельскай гаспадарцы. Рэвалюцыйныя зьмены! Пойдзеш асьвятляць.

На стале ў галоўнага ляжала разгорнутая газэта. Загаловак нешта крычаў чырвонымі літарамі пра зьмену курсу, рэвалюцыйныя зьмены, жорсткі дзяржкантроль ды іншую лухту. Пад крыклівай чырвоньню зьзяў партрэт прэзыдэнта. Мар'ян пахіснуўся й ледзьве ня грымнуўся долу. Падняўшы вочы, ён убачыў на сьцяне над галоўным рэдактарам такі самы партрэт у залатой рамачцы — шырокія плечы, ваяўнічыя кавалерыйскія вусы, знаёмы ўпэўнены й неразумны позірк з-пад магутных выгбаў...

"Дык вось каму ты дасталася!" — падумаў Мар'ян.

"Хуткую, хуткую!" — усё цішэй гучала недзе побач, і Мар'яна праглынула сіне-чорная, з рэдкімі памаранчавымі ўсплёскамі, багна.

---

сію пра тое, што насамрэч яна назаўсёды засталася ў школе дамініканак паблізу Вены. Сярод асаблівых прыкметаў: моліцца выключна па-ўкраінску сёстрам на дзіва.

І толькі мы з вамі будзем ведаць, што напраўду яна тут. Гэтая рэдкая птушка, гэтая *Rara Avis*, гэтая Галя Петрасаняк!

## Саўка

Мар'яна Саўка — адна зь першых дзьвюх літараў у дзіўным словазлучэньні "ММЮННа — Туга". На пачатку 90-х быў такі дзявочы атрад, львоўская гарадзкая партызанка. Імпэрыя завалілася, горад ляжаў у руінах, цемры, без вады, газу й паэзіі — ляжаў у чаканьні. Тады й зьявілася гэтая банда сырэн-пачатковак, і Мар'яна Саўка сярод іх, часам на чале. Часам нешта мела на чале.

О, яна ўмела ладзіць засады ў найцямнейшых падворках, сярод хломазду эпохаў, на ўсіх гэтых посткультурных сьметніках Львова, на ўсіх больш-менш прыдатных для сцэны ўзвышшах, сярод аблезлых аздобаў барока ды ржавых ракавінаў ракако. Напалоханыя мінакі абміналі такія падворкі дзясятаю дарогай: гэта было небясьпечна — ператварэньне дзяўчынкі ў жанчыну, жанчыны — у паэтку. Гэта магло скончыцца крывёю, гэта было паляваньне. Ці не таму яна абрала паляваньне?

Гэта былі ловы дрэнна замаскаваных пад сны пэйзажаў.

Яе тэксты візуальныя, гэта ў большай ступені візіі, чым гукі. Але гэта ня фільмы — хутчэй фатаздымкі, нават дагератыпы, унутраныя сполахі сьвятла, якое памірае, падмесячная статыка, тут не абышлося без караімаў, не абышлося без дэкадансу й добрага філялягічнага вышкалу. Адно звычайна суправаджае другое: усе дэкадэнты на дзіва добра вяршуюць, форма — апошні прытулак для роспачы, дакладны рытм — апошні шанец пазьбегнуць хаосу.

Яна лічыць іх малюнкамі на камені. Я сказаў бы — на парцэляне. У найлепшым выпадку — на скуры. Татуяваныя строфы як асабістая прыкмета злачынкі.

Але апошняе слова за імі, за строфамі — хай пакажуць сябе, хай яна пакажа іх.

## Кіяноўская

Нейкая зь першых дзьвюх літар у дзіўным словазлучэньні "ММЮННа — Туга" — гэта таксама й яна, яе завуць Марыяна. Зрэшты, магчыма, менавіта яна ўвасабляе й другую частку гэтай агульнай назвы — Тугу.

Па-наскаму "туга" гучыць занадта паэтычна. Гэта найчасьцей ужыванае слова, і кожны паэт мусіў хоць раз яго вымавіць. Вершы ад гэтага здаюцца тужлівымі, а трэба, каб былі тужэйшымі. Паэзія зьяўляецца там, дзе ў матэрыю птахам улятае дух, а можа, адно ўсхліп.

Яна прыраўнавала паэзію да інкарнацыі. Пакуль ты жывеш недзе па-за целам, паэзія абыдзецца безь цябе. Напэўна, інкарнацыя — гэта спроба прывязацца да агнявога хваста паэзіі, да яе двухсечнага мяча. Паэзія цялесная, яна мае рукі, ногі, усе часткі цела, яна не павінна мець галавы, але яна мае голас.

Я гадамі марыў пра тое, каб Марыяна сьпявала джаз: у яе джазавы голас найгоршай у мястэчку вучаніцы, прагульніцы ўсіх на сьвеце ўрокаў і школаў — нібыта яна вечна паліла па пад'ездах і патаемных гарышчах. Нібыта ўся ейная родная Жоўква глядзела ёй усьлед і жоўкла ад жаху. Нібыта яна вечна імправізавала. У найгоршым выпадку — блюз. У найгоршым, бо там зашмат мэлянхоліі. Нібы тугі ва ўкраінскіх вершах.

Напраўду я ня меў рацыі, напраўду гэта зусім ня джаз, гэта іншыя трубы, гэта, магчыма, начныя херувімскія канцэрты. Гэта, магчыма, прарыў да самых таемных гарышчаў Львова ды Індыі — у тым сэнсе, што Львоў роўны сьвету, а Індыя — гэта іншая назва яго апошняй ваколіцы, *Ultima Thule* самых занядбаных львоўскіх ускраінаў. Гэта, вядома, мэтафара. Але й мэта.

Зрэшты, гаворка покуль не пра мэту — хутчэй пра мэтад. Гаворка пра голас. Я пэўны, вы яго пачуеце.

**Пераклад з украінскай**

# ЦЕЛА І ДУХ
## абмен вопытам

Толькі спалучэньне гэтых чыньнікаў — загартаванага моцнага цела і здаровага духоўнага разьвіцьця — утварае гарманічна разьвітую асобу, Чалавека, а не насельніцтва, працоўныя рэсурсы і г.д.

Чалавек, абцяжараны хваробамі, ня можа пакінуць здаровых нашчадкаў. Ён ня думае ні аб чым, акрамя прымітыўнага выжываньня. Ягоныя спадзевы не сягаюць далей за прымітыўныя падачкі ад дзяржавы — некалькі тысяч рублёў, пушку лекаў, дробныя льготы. У любы момант гэта ўсё дзяржава адбярэ. А тлусты хворы чалавек нічога і ня зробіць. Бо ня зможа фізычна і маральна.

А дыктатарскай дзяржаве, наадварот, выгодна, калі хворых людзей многа. Імі можна маніпуляваць, як захочацца чынавенству. Дый вялізная эканомія — большасьць хворых не дажываюць да пэнсіі.

Я і мае аднадумцы (суполка "Гарт") зьвязваем духоўнае адраджэньне са штодзённымі гартаваньнямі і выпрабаваньнямі целаў. Спачатку прыводзім целы ў адпаведны стан (які не замінае духоўнаму разьвіцьцю), а потым ідзем да Бога і Беларусі. Зразумела, што наш шлях ня кожны ўхваліць. Але гэта мы яго выбіраем! І ідзем да канца. З кожным годам мы ўзмацняем фізычныя выпрабаваньні целаў. Так, гэтаю зімою я і мае дачушкі хадзілі дома зусім голыя. Тэмпэратура ў хаце каля +16, што дазваляе быць бяз вопраткі. Падлога вельмі халодная, але гэта толькі спрыяе загартоўцы.

Ёсьць у нас халодны пакой. У ім мы танчым. А перад тым — абліваньні халоднай вадой са студні на двары. Далей цела не выціраем, а ідзем у халодны пакой і танчым хутка. Гэта вельмі спрыяе здароўю.

На гэта не патрэбна ніякіх грантаў, дазволу ўладаў і г.д. Кожная сямейка можа так умацаваць здароўе.

— Ведаеш, Ірэначка, я ж гляджу на цябе — голая бегаеш па двары ў любую пару, кідаешся ўзімку ў палонку, а толькі пахапэла дый пра хваробы забылася, — нейк сказала мне суседка Тацяна.

Ёй 45 год, працуе бібліятэкаркай у мясцовай школцы. Мае дачку Надзею, якой 21 год. Яны далучыліся да нас. Дома цалкам агаляюцца, а ўсе іншыя практыкаваньні выконваем разам.

Яшчэ дзьве суседкі — жанчыны па 56 гадоў — прыехалі ў вёску з малых гарадоў. Былыя настаўніцы. Набылі дом, маюць файную гаспадарку, забясьпечваюць садавінай і гароднінай добры тузін сваякоў, знаёмых і нават мясцовых п'янтосаў. Вера і Антаніна горача ўхвалілі маю прапанову далучыцца да нас. Цяпер гартуемся разам!

У сьнежні ў сыстэму загартоўкі давялося ўнесьці карэктывы: на рацэ ўтварыўся моцны лёд. Дый цяжкавата нават для нашых целаў плаваць у маразы пад -25. Таму практыкуем бег.

Раным-рана аголеныя выходзім на двор, абліваемся вадою са студні. Потым забягаем у хату, надзяваем бел-чырвона-белыя стужкі на галовы. На грудзях вымалёўваем Пагоню. Становімся на калені.

— Божа, дапамажы. Целы загартуй і зьберажы. Дай нам здароўя і шчасьця, — шэпча Вера. І мы таксама.

І вось — выходзім на вуліцу. Шыхтуемся. Мароз больш за -20. Бяжым! Сьнег рыпіць пад нагамі, зоркі блішчаць. Белы сьнег, белыя целы, белыя дрэвы. Навакольле такое бялюткае! Нават калі яшчэ цёмна.

Каля рэчкі Вера і Антаніна кідаюцца ў сумёт і абціраюцца сьнегам. Тое самае робім і мы.

— Закапацца ў сьнег па самую шыю! — загадвае Антаніна.

І мы выконваем. Рукі трымаем уверсе, над галавою.

Зноў малітва. Потым бег. Сьнег зь целаў не абтрасаем. Ён павінен растаць!

**Ірына Халадзевіч**

## Прыватныя абвесткі

***Барадулін***

**13 лютага** — хрысьціянская канфэрэнцыя "Пра любоў" з удзелам Рыгора Барадуліна. 17.00, Варвашэні, 8. ХІТ

***віташьні***

**Натхнёнаму Працалюбу,** Энтузіясту, Пісьменьніку Аляксею Пяткевічу ўсё цяпло сонца й зямлі ў сувязі з народзінамі

**Галя Касьпяровіч!** Добрага настрою і натхненьня табе. Ляхавічы — гэта моц!

**Добраму Чалавеку**, Краязнаўцу, Журналісту Аляксандру Жалкоўскаму красы зямной, здароўя, моцы і сілаў у Дзень нараджэньня!

**Людмілу Галубец** віншуюць з Днём нараджэньня дачка і маці. Зычым, каб на цябе звалілася глябальнае шчасьце!

**Раду і Уладзю** і іх сваякоў віншуем з грамнічным Шлюбам ды вясельлем! Міхась і Вэраніка Лебедзі

**Аленка мая любая**, віншую цябе з Днём народзінаў. Заставайся такой жа прыгожай, пяшчотнай і шчасьлівай

**Рамана Цыбульскага,** любага сыночка і брацікa, віншуем з 16-годзьдзем! Плёну табе ва ўсіх тваіх пачынаньнях! Тата, мама, Валера

**Hrajcy vinšujuć** Biełaruski licej z pryniaćciem Statutu! Zoračka, Aranžyk i Zipper

**Віншую Лёшу** з Днём народзінаў і зычу прыемнага сьвяткаваньня ды пасьпяховага навучаньня! Летняя сяброўка

**Jasičak!** Vinšujem z Dniom narodzinaŭ!!! Sałodkaha-sałodkaha-sałodkaha... miodų tabie! I pabolej. Siabry-Žyviołki

***ідэі***

**А ты павіншаваў** Міхася Тычыну з Днём народзінаў? КПЗ бяз "П"

**Vivat** pater noster!!! Vivě et Valēque! Кэт і Зёся

**Пакайцеся**, верце ў Ісуса Хрыста — і будзеце збаўленыя: Бог Вас любіць! ХІТ

**Кампанія "Беларусь у Эўропу"** — гэта нацыянальны супрацiў і духовае Адраджэньне! Менск, 14 лютага, 17.00, пл. Якуба Коласа. Малады Фронт

**Маладафронтаўцы** па ўсёй краіне, пад'ём! "Беларусь у Эўропу!" — наш адказ рэжыму. Тэлефануйце, далучайцеся. Т: 284-50-12

**Маладафронтаўцы!** Усеагульны збор на кампанію "Беларусь у Эўропу!" — штачацьвер а 19-й. Усе на Малады Фронт!

**Маю тэксты** (на два альбомы!) для сур'ёзных рок-музыкаў (у тым ліку — гімн, які лепш пачуецца *in heavy metal*). Уладзіслаў Жыгалка

**Шукаю** беларускіх музыкаў у справе запісу гімну Рэспублікі Беларусь з сучаснымі словамі. Уладзіслаў Жыгалка

**Спадару Крукоўскі!** Пратрыце вочкі!!! Бяз подпісу

***кантакты***

**Мянчук** (40/170/53) з в/а, бяз шк/зв, пазнаёмлюся з жанчынай (30-35 год), безь дзяцей, ня схільнай да паўнаты, хатняй, для стварэньня сям'і. а/с 129, Менск, 220013

**Шукаю адрасы** дошак аб'яваў, інтэрнэт-газэтаў, што друкуюць аб'явы на мове эспэранта ды іншых мовах. E-mail: lc@tut.by

**Жлобінскае Таварыства аматараў асьветы** "Філяматы" шукае аднадумцаў! Т.: 3-51-18, 3-73-97 (Вадзім Башкоў)

**Хлопец-гей** (25) шукае сябра да 20 год. В/а. Захапленьняў шмат. А/с 71, Менск-73, 220073

**Актыўны парашутыст** чакае званка ад жыхара а/с 78 (220141). Пасьля 19.00. Алесь. Т.: 248-28-68

***кнігі, музыка***

**Набуду наступныя нумары** "НН": 9—10 (81) за 1997, 16 (113) за 1998, 10 (131), 13 (134) за 1999. Т.: 235-01-83 (пасьля 20.00)

**Грамадзяне!** Завітайце, калі ласка, на сайт аднаго маладога панк-гурту: www.onalzud.narod.ru

**Часопіс "*Partisan*"** (пра сучасную беларускую культуру) ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Пабачыў сьвет** чарговы нумар бюлетэню нацыяналістаў Берасьцейшчыны "Змагар". Замаўляйце праз e-mail: zmagar@yahoo.com

**Аўдыё, відэа, паштоўкі, іншае** — фольк, фольк-рок, пастфольк, Сярэднявечча, рыцарства. Т.: 220-68-74

**Альбомы гурту "Стары Ольса"** — "Келіх кола" і "Вір" ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Новы CD "Сьвятая ноч"** можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Куплю кнігі з сэрыі** "Беларускі кнігазбор": М.Багдановіч, Я.Чачот, Я.Брыль, В.Ластоўскі, "Беларускія летапісы і хронікі". Т.: 228-58-63 (Алена)

**Часопіс "Нацыя"** можна набыць у БПС. а/с 242, Менск, 220012 + капэрта са зв/а. Пэйдж.: 289-12-12, аб.4430

***мышы, пацукі***

**Танна прадаю** белых мышэй, пацукоў. Андрэй (з 19 да 22). Т.: 223-80-69

***праца***

**Шукаю працу** ў хаце. Асаёнак В.С. Вул.Горкага, 30, Заспа, Рэчыцкі р-н, Гомельская вобл., 247501

**Вельмі патрэбная праца** ў другой палове дня альбо ноччу. Т.: 253-88-02

**Дапамагу пачаць** сваю працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: а/с 122, Менск-89, 220089

***сувэніры***

**Пагоня** (з пап'е-машэ) каляровая, уніяцкі каляндарык з выявай Беларускай плашчаніцы, аўдыёкасэты. Т.: 257-93-11

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______

## Беларускі царкоўны каляндар

**У рэдакцыі газэты "Царква" (вул. Дворнікава, 63, Берасьце, 224014) ды ўсіх грэцка-каталіцкіх парафіях можна набыць Царкоўны каляндар на 2002 г. зь вялікімі каляровымі фотаздымкамі былых уніяцкіх сьвятыняў Беларусі.**

Цана календара — 5000 рублёў. Ахвяраваньні за каляндар разам з адрасамі для дасылкі трэба дасылаць на адрас рэдакцыі "Царквы". Наклад календара — 1100 асобнікаў.

Адрас уніяцкай парафіі Сьв.Язэпа ў Менску — пр.Пушкіна, 50, уваход з тарца, па лесьвіцы ўніз. Імша — штодзень а 19-й.




**Беларускае відэа, аўдыё, CD у Гомелі:** Піянэрскі сквэр (ля цырку) — штонядзелю да 13.00, штодня — праз тэл. 45-11-51

**Прадаю:** Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш. Вышлю каталёг: 220073, Менск, а/с 36; http://book2002.narod.ru; jancit@tut.by. Тэл.: 258-43-54.

## Паштовая скрынка



**Дзянісу і Міколу К. з Горадні.** Мы ўжо надрукавалі пародыю іншага аўтара, падобную да Вашай. Паўтарацца не выпадае.

**Яну М. зь Менску.** У Вас атрымаліся допісы, як для штодзённай газэты. Для тыднёвіка патрэбныя такія, якія б і праз два тыдні можна было надрукаваць, а яны ўсё яшчэ не выглядалі б састарэлымі. Спрабуйце яшчэ.

**Славу з tut.by.** Друкуем лацінкай усе тыя артыкулы й допісы, якія нам лацінкай у рэдакцыю дасылаюць. На лацінцы "НН" выходзіла паралельна з кірыліцай да 1912 г. Пасьля апытаньнем чытачоў вырашылі выдаваць толькі кірыліцай. Калі чытачы некалі вырашаць па-іншаму, пяройдзем на лацінку. Правілы лацінкі можаце знайсьці ў падручніках беларускай мовы, Інтэрнэце. Зрэшты, няцяжка навучыцца і самому, проста чытаючы. Тэксты лацінкай друкаваліся ў "НН" (цэлы №18 у 1993 г., апошні раз — у №30 за 2001 г.). Вінцук Вячорка распрацаваў курс лекцый для навучаньня лацінцы.

**Віялеце П. з Кастрыцы.** Дзякуй за добрыя словы і за неабыякавасьць.

**А.U. з Гомеля.** Чакаем ад Вас новых нататак пра спорт. Адно што дасылайце іх, калі ласка, з такім разьлікам, каб траплялі яны да нас найпазьней у аўторак: інакш не пасьпеем паставіць у газэту.

**В. і Уладзіславу Ж. зь Менску.** А багата каму падабаецца "Сабачыя гісторыі". Прынамсі, людзі іх пішуць і нам дасылаюць. Дык чаму ж не друкаваць?

**Міхасю М. з Баранавіч.** Ваш допіс пра Гемінгуэя надрукаваць ня можам. Тое, што ён страляў у Італіі прыпяцкіх качак, яшчэ ня сьведчыць пра блізкасьць пісьменьніка да беларускай культуры. Такая "прывязка" выглядае бадай камічна.

**Сяргею П. зь Менску.** Цалкам з Вамі згодныя.

**Андрэю В. зь Менску.** З прозай Вам трэба яшчэ працаваць. Замалёўкі кшталту "жыў чалавек і памёр" ня мусяць быць замкнёныя й самадастатковыя. Яны маюць каштоўнасьць толькі ў тым выпадку, калі генэруюць нейкія глыбейшыя ідэі ды пачуцьці. Зрэшты, файна ўжо тое, што, пішучы пра сьмерць, Вы думаеце пра жывых.

**жарт**



ЗУЕЎ

## Наступны нумар "НН"

**выйдзе 8 лютага, у пятніцу.**

Бо "НН" выходзіць у пятніцу. У Менску ў продажы — з абеду чацьвярга.

У нумары:

— Юры Хадыка. І вяртаецца вецер на кругі свае

— Багацьці Беларусі: тэма нумару

— Сабака і Граждан на Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сыты: працяг сабачых гісторый





НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://niva.s5.com



8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3845.
Нумар падпісаны ў друк 7.02.2002.
Замова № 763.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а